


www.minkult.me

# ТОЛЬКІ ПРОЗА

Абрамовіч

Ахроменка

Глекава

Дзічэнка

Дубоўскі

Емяльянаў-Шыловіч

Календа

Касцюкевіч

Клёцкін

Казлоў

Калейчык

Мудроў

Скарынкіна

Філенка

Шніп

«Мінкульт» створаны дзякуючы краўдфандынгавай платформе «Улей» і ўласна людзям, якія ахвяравалі грошы

РУП «Акадэмкніга», Кацярына Чырцік, Натальля Бойка, Уладзіслаў Мамотаў, Віктар Шніп, Ксенія Кошар, Андрэй Дзічэнка, Сяргей Адзінец, Андрэй Леўчык, Дар'я Ляховіч, Вадзім Алькенаў, Аляксандр і Елена Глекавы, Ільля, Максім Шапялевіч, Фелікс Аксёнцаў, Антон Барысенка, Вольга Шахновіч, Вольга Барзянкова, Стас Мельгуй, Вова Габідулін, Ганна Бундзелева, Канстанцін Кур'янаў, Алеся Лацінская, Дзьмітрый Андрончык, Сяргей Адзінец, Аляксандра Гусакоўская, Ціма Чавусаў, Алена Шпак, Вадзім Каральчук, Вольга Войчан, Ліза, Юлія Радзькова, Арцём Каламіец, Яўген Казарцаў, Віталь Аляшкевіч, Мікола Калядны, Віталь Сяргейчык, Вольга Сінькевіч, Каця Міхеева, Аліна Калтачэнка, Севярын Квяткоўскі, Сьвятлана Глухава, Дзьмітрый Аленаў, Антон і Іра Хаткевіч, Галіна Паўлаўна Сіўчанка, Юрый Рокаш, Ганна Дзягель, Віталь Радчанка, Віталь Куцула, Міхал Міласерны, Аліна Дзеравянка, Яўген Дыко, Ігар Кудраўцаў, Мая Прысяжная, Эдуард, Анатоль Паўлючэнка, Крысьціна Бандурына, Анісія Гурская, Паліна Соб, Марыя Мартысевіч, Аня Пісемская, Кацярына Шах, Аляксей Грушэўскі, Яна Смаль, Аляксей Кірыльчук, Аляксей Чэкавы, Андрэй Сабалевіч, Вадзім, Іра Клецкая, Алена Лапацкая, Дзяніс Місюля, Віталь Латыш, Кірыл Мяцеліца, Аляксандра Валодзіна, Ганна Кончыц, Юля Байко, Аляксей Карамазаў, Атхо, Антоній Шкраба, Міхаіл Рубін, Дзьмітрый Латыш, Анатоль Каралькоў, Ягор Расолька, Максім Субач, Дзьмітрый Пранчук, Кацярына Курзінер, Андрэй Саротнік, Таварыш У, Сяргей Пляскач, Шыма, Аліса Пятрова, Крысьціна Рыбянкова, Алена Васільева, Вераніка Казлова, Натальля Канчанін, Mrs. Dharma Komau, Андрэй Комаў.

Асобны паклон:

Андрэю Дзічэнку, Вользе Глухоўскай, Натальлі Бойка, Максіму Шапялевічу,
Дзьмітрыю Аленаву, Уладзіміру Габідуліну і Ганьне Бундзелевай –
бязь іх нічога б не атрымалася!

УСІХ ВАС АБДЫМАЮ – КАЛЕНДА С.

**Галоўны рэдактар і заснавальнік** Сяргей Календа

**Рэдактарка** Ліда Наліўка

**Вокладка** Андрэй Пакроўскі

**Вёрстка** Віталь Латыш

**Кантакт для аўтараў:** mimikriabel@gmail.com

# ЗЬМЕСТ

# Міністэрства цэнзуры

Шчыра запрашаем на старонкі другога «Мінкульту»! У нас ізноў пятнаццаць аўтараў, пятнаццаць тэкстаў, сярод якіх п'еса Жэні Клёцкіна, эсэ Паўла Абрамовіча і пачатак раману Уладзіслава Ахроменкі «Нясьвіская крыза», які будзе працягвацца друкавацца часткамі ў наступных нумарах.

«Мінкульт-2» стаўся сымбалічным для дарагога майго сябра Славы, які за два дні да сьмерці даслаў у часопіс незакончаную кнігу і сказаў, каб я на свой густ выбраў кавалак для публікацыі. Але я вырашыў надрукаваць усё, што ён мне даслаў.

Выданьне пашырае свае межы, магчымасьці, такім чынам мы застаёмся з той жа канцэпцыяй «толькі прозы», але акрамя апавяданьняў мы пачалі разглядаць розныя жанры, кірункі, экспэрымэнты. Гэта разнастаіць часопіс і пашырыць аўдыторыю.

Я люблю, калі тэкст, апавяданьне, гісторыя, п'еса, артыкул прымушае разважаць не адзін дзень. Мне прыемна праводзіць час у думках пра тое, што я прачытаў, гэта для мяне ўзровень якасьці.

Так у другім нумары я шмат думаў над эсэ Паўла Абрамовіча, у галаве засталіся цікавыя выявы, як быццам успаміны ад апавяданьняў Тані Скарынкінай і Веры Філенка. І я быў доўгі час у захапленьні ад п'есы Жэні Клёцкіна… Вінцэсь Мудроў і Віктар Шніп былі як пагружэньне ў дасьледаваньне глыбокіх ісьцін…

Я магу кожны тэкст «Мінкульта-2» назваць, узгадаць падрабязнасьці, пагутарыць пра яго, бо літаратура для мяне – вялікая частка жыцьця.

На старонках часопіса сустракаюцца такія розныя аўтары, як Дзіма Калейчык і Павал Касьцюкевіч, Уладзіслаў Ахроменка і Лена Глекава, і гэта добра паказвае, наколькі разнастайная бывае літаратура, як па-іншаму можна пісаць. І як цікава гэта бывае. Насамрэч усё пачалося яшчэ ў часопісе «Макулатура», калі ў адным нумары былі надрукаваныя аўтары, амаль што ворагі адзін аднаму, але гэта іх нават памірыла.

Другі нумар «Мінкульту» ўздымае пытаньне цэнзуры. Падчас працы ў Вэнтспілсе я задаў тры пытаньні творцам з розных краін: Джорджу Муру, Тэмі Армстранг Мур, Івану Зрынушычу, Уладзіміру Тымчуку, Гундэзе Грынума, Льву Навумаву і Томасу Падхостніку, і вось што атрымалася.

**Пытаньні:**

1. **Ці патрэбная мастацтву цэнзура?**
2. **Урад вашай краіны кантралюе або падтрымлівае мастацтва і літаратуру?**
3. **Як мастацтва і літаратура могуць зьмяніцца ў будучыні?**

## ДЖОРДЖ МУР

*(амэрыканскі і канадзкі паэт)*

Першае пытаньне: «Ці патрэбная мастацтву цэнзура?». Мяркую, гэта няпростае пытаньне, але на яго ня так складана адказаць. Адказ – не. Цэнзура азначае неабходнасьць пэўнага кантролю «каштоўнасьці» твору або меркаваньня звонку. А мастацтва (калі яно добрае) акурат мае на мэце вырвацца па-за межы існай сыстэмы меркаваньняў. Таму цэнзар ніколі ня можа быць сябрам пісьменьніка ці мастака. Варта ўзгадаць Джэймса Джойса і судовы працэс над ягоным «Улісам». Або Алена Гінзберга і цэнзурныя войны за ягоны «Рык». Калі цэнзар і робіць нешта канструктыўнае, дык хіба падвышае дасьведчанасьць грамадзкасьці ў галіне мастацтва. У нас у ЗША ёсьць тыдзень кнігі (ён ладзіўся, здаецца, акурат у мінулым месяцы), які называецца «Тыдзень забароненай кнігі» і прысьвечаны ўсім кнігам, што былі забароненыя ў мінулым. Кнігі цэнзуруюць празь невуцтва або палітычныя матывы. Але па іроніі лёсу цэнзура заўсёды мае адваротны эфэкт. Яна яшчэ больш прыцягвае ўвагу грамадзкасьці да рэчаў, якія мае на мэце прыхаваць.

Другое пытаньне, якое ты задаў, гучыць як «Урад вашай краіны кантралюе або падтрымлівае мастацтва і літаратуру?». На гэтае пытаньне я таксама маю два адказы. Першы мой адказ у якасьці грамадзяніна ЗША – падтрымлівае ня вельмі добра. ЗША ў пэўнай ступені падтрымлівае мастацтва, але праз тое, што ў краіне вельмі шмат мастакоў і пісьменьнікаў, мала хто зь іх атрымлівае гэтую падтрымку. Да таго ж фінансаваньне звычайна атрымліваюць самыя расьпіяраныя творцы, якія ператвараюць мастацтва ў палітычныя маніфэсты, або тыя, хто ўмела сябе прасоўвае. Другі мой адказ у якасьці непастаяннага жыхара Канады – так. Канадзкі ўрад вельмі дбае пра мастакоў, пісьменьнікаў і ўвогуле творцаў. Правінцыі, у тым ліку і нашая, Новая Шатляндыя, таксама даволі добра падтрымліваюць мастацтва. Я нават атрымаў грант ад канадзкага ўраду і змог прыехаць у Латвію. Гэта для мяне мае вялікае значэньне, бо з боку ўраду ЗША я ніколі не атрымліваў такой значнай падтрымкі.

Трэцяе тваё пытаньне: «Як мастацтва і літаратура могуць зьмяніцца ў будучыні?». Гэта добрае пытаньне, але на яго складана адказаць. Мяркую, калі б мы ведалі, як яны могуць зьмяніцца, мы былі б першымі, хто апублікаваў бы свае новыя працы. Мастацтва заўсёды мяняецца, бо варта чаму-кольвечы прыпыніць свой рух, як яно робіцца трохі «ўчарсьцьвелым». Узяць, прыкладам, сюррэалізм, які выліўся ў дадаізм. Заўжды знойдзецца нехта, хто зломіць старыя шаблёны, каб стварыць нешта новае. Але, зноў жа, проста «стварыць нешта новае», як казаў Эзра Паўнд, болей ня ёсьць каштоўнасьцю само па сабе. Навізна таксама можа замінаць мастацтву. Магчыма, мне так падаецца таму, што я пішу ўжо даволі доўга. Але я думаю, што мастацтва ў будучыні будзе грунтавацца на мастацтве, якое жыве побач з намі штодзень. Мне падабаецца думаць шырока. Я ўспрымаю мастацтва як праяву магчымасьцяў, менавіта таму так важная ягоная роля ў самавызначэньні краін і народаў, якія шукаюць свой голас. Але я таксама бачу мастацтва ў якасьці пастаяннай тоеснасьці, таго, што можа існаваць бесьперапынна. Ну, спадзяюся, што адказаў на твае пытаньні. Дзякуй, што спытаў маё меркаваньне.

*Пераклад з ангельскае*
*Дар'і Вашкевіч*

## ІВАН ЗРЫНУШЫЧ

*(харвацкі паэт)*

**1:** Я супраць любой палітычнай цэнзуры, асабліва ў мастацтве. Але ёсьць творы мастацтва, якія я б не хацеў

паказваць свайму шасьцігадоваму дзіцю (калі б яно ў мяне было), праз іх гвалтоўны ці сэксуальны характар. Таму мяркую, што некаторыя формы абмежаваньня ўзросту слушныя.

**2:** У маёй краіне няма афіцыйнай цэнзуры і ўрад прапануе мастакам розныя формы фінансавай дапамогі, таму можна сказаць, што ўрад падтрымлівае мастацтва. Вядома, для таго каб атрымаць фінансавую падтрымку ўраду, мастак павінен адпавядаць пэўным эстэтычным крытэрам, а ўсе мы ведаем, што яны могуць быць інтэрпрэтаваныя па-рознаму.

**3:** Яны ані трохі ня зьменяцца, гэтак жа як не зьмяніліся за апошнія некалькі тысяч гадоў: яны заўсёды будуць пра спробу чалавека падмануць сьмерць.

*Пераклад з ангельскае*
*Дар'і Вашкевіч*

## ТЭМІ АРМСТРАНГ МУР

(канадзкая паэтка)

**1:** У нас у Канадзе не вядзецца пра цэнзураваньне якога-кольвечы мастацтва – пры ўмове, што яно не правакуе нянавісьць і не нясе шкоды для якой-небудзь групы людзей. Творцы інтэрпрэтуюць сьвет, як пажадаюць. Калі ў Канадзе паўстае пытаньне цэнзуры, то гэта часьцей за ўсё цэнзура пасіўнага кшталту: гэта значыць, што, напрыклад, пэўных аўтараў друкуюць ня так часта, як іншых. Гэты аргумэнт часта прыводзяць пісьменьнікі індзейскага паходжаньня, выказваючы меркаваньне, што іх працы публікуюцца ў літаратурных часопісах радзей, чым творы белых аўтараў. Цяпер літаратурныя часопісы часьцяком уздымаюць пэўныя праблемы і складаюць асобныя нумары цалкам з твораў пісьменьнікаў-геяў або «каляровых» пісьменьнікаў і г.д. Было апублікавана некалькі артыкулаў з крытыкай гэтай тэндэнцыі (артыкулы ў асноўным напісаныя белымі мужчынамі:). Але творчая супольнасьць збольшага прыйшла да кансэнсусу, што гэтыя групы мусяць атрымліваць болей увагі. Большасьць пытаньняў, зьвязаных з цэнзурай у мастацтве, тычыцца, здаецца, прадстаўнікоў візуальнага мастацтва, чые працы больш дасяжныя для шырокай публікі, чым творы, надрукаваныя ў невялікіх літаратурных часопісах ды інтэрнэт-выданьнях.

**2:** У Канадзе шмат арганізацыяў, якія фінансуюць пісьменьнікаў, у тым ліку Канадзкая Рада па мастацтве і мясцовыя мастацкія рады ў правінцыях. Яны падтрымліваюць мастакоў і пісьменьнікаў, фінансуюць міжнародныя рэзыдэнцыі, кніжныя туры і выдаюць гадавыя гранты на праекты. Гэтыя арганізацыі таксама падтрымліваюць і субсідуюць выдавецкую індустрыю, тэатар і г.д. Зноў жа, калі вядзецца пра цэнзуру ў гэтым аспэкце, часам яе прымяняюць, калі некаторыя людзі лічаць, што мастак выкарыстаў дзяржаўныя грантавыя грошы не найлепшым чынам. Але такое адбываецца ня надта часта. Калі ў 1960-х гадах зьявіліся Канадзкая Рада па мастацтве і мясцовыя мастацкія рады, Канада была вельмі кансэрватыўнай краінай, і як мне падаецца, мастацтва ацэньвалася даволі жорстка. Але цяпер у Канадзе ў галіне мастацтва не адбываецца шмат спрэчак. (Можа быць, канадзкаму мастацтву акурат не зашкодзіла б крыху больш вастрыні ды спрэчнасьці.)

**3:** Я думаю, што мастацтва і літаратура заўсёды зьмяняюцца, і ў цяперашні час гэта адбываецца хутка, як ніколі. Я выдаюся ўжо цягам 20 гадоў, і я бачу вялікую розьніцу ў стылістыцы твораў, якія друкаваліся раней і якія друкуюцца сёньня, а таксама адчуваю розьніцу паміж аўтарскімі галасамі. Цяпер ідзе вяртаньне да трэнду 1960-х гадоў – палітыкі ідэнтычнасьці, але, канешне, з пэўнымі зьмяненьнямі

(асабіста мне падаецца, што ня ўсе спробы сёньня такія ўдалыя, як, прыкладам, экспэрымэнты з французскімі ды фэміністкімі галасамі ў 1960-х гадах). Таксама выглядае на тое, што ў літаратуры робіцца ўсё больш папулярнай «спавядальная» стылістыка. Хоць зноў жа, я лічу, пісьменьнікам сярэдзіны стагодзьдзя пісаць у «спавядальнай» форме ўдавалася лепш. Але гэта маё пэрсанальнае меркаваньне, і гэтыя тэндэнцыі яшчэ могуць узмацніцца ды знайсьці сваё месца ў сучаснай літаратуры.

*Пераклад з ангельскае*
*Дар'і Вашкевіч*

## УЛАДЗІМІР ТЫМЧУК

*(украінскі паэт, перакладчык)*

**1:** Як жа без цэнзуры? Цэнзура вельмі неабходная, яна ёсьць рухавіком мастацтва: многія мастакі атрымліваюць асалоду ад пераадоленьня перашкод, нямала мастакоў межы заганяюць у новыя прасторы выяўленьня творчасьці, шмат мастакоў цэнзура забівае, але не забівае мастацтва. Тут я апускаю пытаньне пра суб'ект цэнзуры.

**2:** Дзяржава Украіна пакуль што ня ведае, што з мастацтвам рабіць, таму яе пазыцыя – флюгерская: нешта яна падтрымлівае, нешта яна ігнаруе; дзяржава і мастацтва жывуць сваім жыцьцём – часткова – гэта і да лепшага.

**3:** Яны і далей будуць спрачацца: станавіцца адначасова даступна недаступнымі, кожны зможа ўбачыць, але не спасьцігнуць, цэласнасьць будзе губляцца, і яе будуць шукаць... Наогул галоўны выклік перад мастацтвам і літаратурай у найбліжэйшае стагодзьдзе – гэта, уласна, пошук цэласнасьці.

*Пераклад з украінскае*
*Віталя Латыша*

## ГУНДЭГА ГРЫНУМА

*(доктарка філялёгіі, латвійская пісьменьніца)*

**1:** Цэнзура мастацтву не патрэбная, наадварот – супрацьпаказаная, але абавязкова павінна існаваць сур'ёзная і адказная самацэнзура мастака.

**2:** Латвійская дзяржава ў прамым сэнсе не кантралюе мастацтва. Падтрымка з боку ўлады магла б быць больш рацыянальнай і істотнай.

**3:** Я не захапляюся прагназаваньнем будучыні мастацтва і літаратуры. Мяркую, што ў далейшым на ўсе віды мастацтва яшчэ мацней будзе ўплываць імклівае разьвіцьцё новых тэхналёгій, у рэшце рэшт – штучны інтэлект. І ў выніку ці ня згубіць канчаткова мастацтва сваё «чалавечае аблічча»?

*Пераклад з расейскае*
*Сяргея Календы*

## ЛЕЎ НАВУМАЎ

*(расейскі пісьменьнік, драматург)*

**1:** Безумоўна, цэнзура не патрэбная. Іншая справа, што мае месца парадокс: падцэнзурныя пэрыяды, як правіла, супадаюць з культурнымі ўзьлётамі, і гэта не выпадкова. Мастацтву патрэбная не цэнзура, але перашкоды, абмежаваньні, пераадоленьні. І мне падаецца, бесьперашкодна яно існаваць ужо ніколі ня зможа. Але ўнутраныя абмежаваньні – гэта нашмат лепшая падмога для творчасьці, чым зьнешняя цэнзура.

**2:** Я не магу сказаць, што кантралюе. У дадзены момант цэнтралізаванай цэнзуры ў сфэры мастацтва ў Расеі няма. Іншая справа – і гэта куды болей трывожна – яна часам узьнікае мясцова, але дадзенае пытаньне – тэма для асобнай размовы. Адначасова існуюць праграмы падтрымкі аўтараў, але яны, скажам проста, вельмі сьціплыя. Прычыны і таго,

і іншага відавочныя: цяпер мастацтва ня грае ў грамадзка-палітычным жыцьці Расеі ніякай прыкметнай ролі. Але я мушу дадаць, што ў гэтым пляне абстаноўка мяняецца літаральна на вачах.

**3:** Дадзенае пытаньне зьявілася разам з гісторыяй мастацтва і было заўжды актуальным. Але калі казаць непасрэдна пра літаратуру, і ў гэтым ёсьць яе выдатная якасьць, – глупства нават намагацца прадказаць. Пісьменства суправаджае чалавецтва на працягу істотнай часткі яго гісторыі, і яно заўжды магло зьдзівіць, прымусіць задумацца і дапамагчы адчуць сябе часткай чагосьці большага. Я ўпэўнены: калі людзі не зруйнуюць плянэту раней, то так яно й будзе.

*Пераклад з расейскае*
*Сяргея Календы*

## ТОМАС ПАДХОСТНІК
*(нямецкі празаік)*

**1:** Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба паставіць іншае: што азначае слова «цэнзура»?

Цэнзура ёсьць актам гвалту. Хтосьці або штосьці, маючы больш улады за творцаў мастацтва ці літаратуры, могуць зьмяніць твор або частку твору, выдаліць гэты твор або наогул цалкам зьнішчыць.

Бацькі наўрад ці павесяць у дзіцячым пакоі карціну, на якой яны зьбіваюць сваё дзіця. З большай ахвотай яны павесяць іншую: бацькі ідуць, трымаючы дзіця за руку, па залітай сонцам дарозе. Нават калі дзіця на гэтых карцінах будзе тое самае, іхны сын або іхная дачка.

Лічыцца, што гэта ў іх сілах: схаваць «дрэнную» карціну яшчэ да таго, як яна паўстане, папросту не зьбіваючы сваё дзіця.

Аднак відавочна, што ім не хапае на гэта сілаў, бо карціна ж усё роўна намаляваная.

Зыходзячы з гэтага, кожны літаратар і мастак ва ўсім сьвеце мае дачыненьне з цэнзурай – паказваючы або фармулюючы невыгодную для моцных гэтага сьвету праўду.

Зразумела, што цэнзура азначае выяўленьне свайго бясьсільля перад сьветам, бясьсільля арганізаваць сьвет такім чынам, каб ён быў выгодны для ўсіх.

Цэнзура прыхоўвае страх, што гэтая слабасьць улады зробіцца бачнай усім. Цэнзура цудоўна высьвечвае ўсе слабасьці – асобы, грамадзтва, веры або нейкай ідэі.

Вось жа, чым больш таталітарнай ёсьць верхавіна ўлады, чым больш інтэнсіўна яна спрабуе захаваць уражаньне сваёй моцы, тым выразьней яна паказвае нам уласнае бясьсільле.

Давайце яшчэ раз уявім сабе карціну: агромністыя бацькі цяжка ўзвышаюцца над дзіцём, такія бясконца вялікія ў сваёй уладзе, і плястыкавай запальнічкай, купленай у дыскаўнтэры (10 па кошце 9-ці) падпальваюць няшчасны аркушык паперы з маленькім малюнкам, які дзіця намалявала алоўкамі. Што можа быць больш моцным прыкладам бясьсільля, чым такі бездапаможны і абсалютна бязглузды ўчынак?

**2:** Вядома ж, у Нямеччыне ёсьць цэлы комплексны пакет мерапрыемстваў, накіраваных на падтрымку мастацтва і літаратуры. У параўнаньні з большасьцю іншых краін сьвету Нямеччына ў тым, што тычыцца падтрымкі мастацтва і літаратуры, – проста рай (з упэўненасьцю можна казаць, што ёй у гэтым сэнсе няма роўных у межах нашай Сонечнай сыстэмы і, хутчэй за ўсё, у межах вядомага нам Сусьвету).

Аднак пачасту ў мяне ўзьнікаюць сумневы ў тым, што Адам і Ева былі людзьмі мастацтва.

Кантроль і падтрымка шчыльна зьвязаныя між сабой. Часам трэба саступаць у адным, каб патрабаваць у іншым.

**3:** Паняткі мастацтва/літаратура, будучыні і сучаснасьці цяжка разьдзяліць між сабой. Яны ўзаемна абумоўленыя і знаходзяцца ва ўзаемадзеяньні.

Мастацтва і літаратура мінулага дагэтуль уплываюць на нашае мысьленьне, ды зь іншага боку, шмат што мы ацэньваем сёньня ня так, як раней, а ў будучым станем разглядаць ня так, як сёньня. Я не магу сказаць, якая сіла тут дамінуе, рухае нас наперад і зьмяняе.

Некаторыя рэчы застаюцца, як мы бачым па мастацтве і літаратуры, іншыя зьнікаюць, таму што сам панятак мастацтва і літаратуры і погляд на тое, што гэта такое, зазналі шырокія зьмены.

Я пэўны, што ўсё тое, што мы сёньня лічым шматзначным, можа страціць усялякае значэньне, бо можа зьмяніцца сам чалавек. Але гэта не абавязкова будзе добры працэс.

Калі аднойчы прыйдзе дзень, у які, напрыклад, «Дон Кіхот» ужо ня будзе лічыцца творам мастацтва і літаратуры або тое самае здарыцца з творамі Кафкі і карцінамі Франсіска Гоя, – магчыма, у той дзень чалавек ужо ня будзе ўсьведамляць сябе чалавекам, ня будзе ўсьведамляць сябе як гома сапіенс: як чалавек разумны. Але я спадзяюся, што гэты працэс ня будзе таталітарным. А асобныя індывіды, якія здолеюць употай, недзе ў масе «нелюдзей», закансэрваваць гэтыя веды, панясуць іх далей. Як сьвятло ў ліхтары, захінутае ад цемнаты.

*Пераклад зь нямецкае*
*Альгерда Бахарэвіча*

*Сяргей Календа*
*Мінкульт*
*2019*

# ПАВАЛ АБРАМОВІЧ

## БОЛЬШ НЕ ПАВУКІ

Колькі тысячагоддзяў існуе на свеце мастацтва, столькі ж існуе і цэнзура.

У ліку творцаў, якія першымі пацярпелі ад яе, была таленавітая ткачыха Арахна. Як цвердзіць легенда, Арахна стварыла палатно з адвольнымі, так бы мовіць, сцэнамі жыцця Алімпу. Багам не спадабалася, і раз'юшаная Афіна ператварыла Арахну ў павучыху. Палатно было знішчожана дашчэнту, каб ніводнай ніткі не засталося, не тое што фрагмента з яскравым малюнкам.

Беларуская літаратура з дзяцінства, першых сваіх крокаў, зведала на сабе жорсткасць цэнзараў. Так, за распаўсюд верша «Бунт хлопаў» і ўдзел у хваляваннях сялян 1828 года Паўлюк Багрым, малады крошынскі паэт і каваль, быў аддадзены пад суд, а ягоны паэтычны сшытак канфіскаваны – толькі адзін верш ацалеў, вырваўся на волю, быццам самотны голуб з ахопленай агнём галубятні: «Зайграй, зайграй, хлопча малы…».

Іншы беларускі паэт, Францішак Багушэвіч, чуў у сваёй галаве металічны лязгат цэнзарскіх нажніцаў кожны раз, як нёс уласныя вершы ў рэдакцыю, аддаваў іх у друк. (У 1880-я беларуская літаратура зазнавала таксама гнёт самацэнзуры, вучылася, каб неяк выжыць, эзопавай мове – нездарма Багушэвіч пісаў і байкі.)

БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА З ДЗЯЦІНСТВА, ПЕРШЫХ СВАІХ КРОКАЎ, ЗВЕДАЛА НА САБЕ ЖОРСТКАСЦЬ ЦЭНЗАРАЎ.

Найчасцей прысуд цэнзараў быў няўмольны, як прысуд Арахне. Прыкладам, калі Багушэвіч перадаў рукапіс свайго зборніка «Беларускія апавяданні Бурачка» ў Віленскую губернскую друкарню, Галоўнае ўпраўленне па справах друку забараніла яго друкаваць. Як і зборнік паэзіі Багушэвіча «Дудачка беларуская». З 1899 года абодва рукапісы лічацца страчанымі.

Але больш суворым для гэтага творцы, верагодна, быў вырак яго сям'і. Родныя Багушэвіча не толькі не жадалі, каб іх муж і бацька пісаў на «мужыцкай» мове, а наагул былі супраць, каб ён «крэмзаў вершыкі». Вось адвакатура – гэта вартая справа!

Супраціў, а не падтрымку, з боку крэўных адчувалі многія беларускія літаратары, прычым з маленства. З ліста Марыі Багдановіч, матулі будучага стваральніка «Вянка», ад 29 траўня 1895 г.: *«Вот только плохо, что [мае дзеці] стали говорить по-белорусски*

*и иногда такое словечко выпалят, что хоть сквозь землю провались».*

Падвоены супраціў, два вострыя лязы адных нажніц – улада Алімпу і ўласная сям'я.

Ткачыху Арахну пакінулі жыць, няхай тое і было здзекам: цяпер ты павучыха і твае новыя палотны прыдатныя адно для лоўлі мух. Між тым у новых пакаленняў беларускіх літаратараў у 1930-я цэнзары спачатку адбіралі творы, а потым – само жыццё. Альбо рабілі яго невыносным, горшым за смерць – і месца для творчасці ў ім ужо не заставалася. Так адбылося ў выпадку з Міхасём Зарэцкім (раман «Крывія»), Андрэем Мрыем (раман «Мёртвы дом»), Кузьмой Чорным (раманы «Раскрыжаванне» і «Вялікае выгнанне»).

Дзясяткі іншых нашых пісьменнікаў, паэтаў і драматургаў рабіліся адэптамі сервільнага мастацтва. Яны ўключалі рэжым самацэнзуры ці наўпрост пакідалі кнігі няскончанымі. І добраахвотна ператвараліся ў павукоў.

Час незваротна сплываў – гара Алімп рушылася пад цяжарам уласных неспатоленых амбіцыяў і крывавжэрнай нянавісці. Гнеў багоў усё радзей выклікаў жах. І калі напрыканцы 1980-х да Міколы Ермаловіча прыйшлі двое ў цывільным з тым, каб узяць рукапіс новай кнігі для «азнаямлення», то гісторык ім папросту адмовіў. Празрыстыя вочы Ермаловіча за тоўстымі лінзамі акуляраў весела смяяліся. І ён, і нязваныя госці – слугі Алімпу – ведалі: рукапісы кніг (не толькі Ермаловіча, але і многіх іншых аўтараў) ужо свабодна абарачаюцца ў падпольным друку.

Цэнзарскія нажніцы шчоўкалі цяпер пераважна ў пустым паветры – не чапляючы кніг, не датыкаючыся пісьменнікаў. І як толькі пачаў разбурацца канон, прадвызначаны багамі мастацтву, беларуская літаратура пакрысе расквітнела.

Паэты ўзышлі на трыбуны, замест знішчожаных паўсталі новыя літаратурныя суполкі.

Аднак зусім хутка рукамі ахвотных пачала насыпацца новая гара, прыдатная для таго, каб кідаць адтуль маланкі і аб'яўляць волю, вышэйшую за шэдэўры мастацтва. «Забі прэзідэнта» – творы з такімі назвамі ў сярэдзіне 1990-х былі кінутыя за краты; многія літаратурныя крыніцы засыпаныя друзам і смеццем. Ізноў пачалі ляскаць цэнзарскія нажніцы, крамсаючы і творы, і жыцці. Усім пісьменнікам загадалі сяліцца бліжэй да гары, у рэзервацыі – холдынгу «ЛіМ».

Ды толькі праз час, зусім не працяглы для гісторыі літаратуры, выявіліся дзівосныя рэчы. Каб абысці цэнзуру, больш не трэба хітрыць – напрыклад, выдаваць беларускія кнігі пад выглядам твораў на балгарскай мове (як было гэта калісьці ў выпадку са зборнікам паэзіі Янкі Лучыны «Вязанка»). І страху перад новым Алімпам больш няма – такога, як раней: моцнага, сціскаючага жалезнымі абцугамі людскія душы, пад уздзеяннем якога творцы і іх крэўныя самі спальвалі рукапісы (як было гэта калісьці ў выпадку са

НЕЗЛІЧОНАЯ КОЛЬКАСЦЬ ТВОРЦАЎ, ЗАБІТЫХ ЦІ ПЕРАТВОРАНЫХ У ПАВУКОЎ, МОЖА ПАЦВЕРДЗІЦЬ ГЭТЫ ФАКТ. АЛЕ ЦЯПЕР – АДЧУЙ І ПАВЕР! – МОЖНА ПАВЯРНУЦЦА СПІНАЙ ДА ГАРЫ І СЫСЦІ ТУДЫ, ДЗЕ ТВОРАЦЬ ІНШЫЯ – НЕ ПРЫГНЕЧАНЫЯ АЛІМПАМ ЖЫХАРЫ РЭЗЕРВАЦЫІ, АПОШНІЯ ПРАДСТАЎНІКІ БЕЛАРУСКАГА АФІЦЫЙНАГА МАСТАЦТВА, А СВАБОДНЫЯ І ГОРДЫЯ ЛЮДЗІ.

зборнікам паэзіі Язэпа Пушчы «Грэшная кніга»).

У палатне гэтай рэчаіснасці, павыціраным за прамінулыя эпохі і залітым чужой крывёю, – зірні і запамятай! – выявіліся вялікія прарэхі. Праз іх можна пабачыць высокае чыстае неба і свет вольнага жыцця – для сябе, уласных кніг і сваіх чытачоў. Новая лічбавая эра і новыя варункі існавання літаратуры, якія не змог прадказаць нават Жуль Верн, дзьмуць з таго боку, быццам моцны вясенні вецер – чорнае цяжкое палатно вось-вось зваліцца долу…

Колькі тысячагоддзяў існуе на свеце мастацтва, столькі ж існуе і цэнзура.

Незлічоная колькасць творцаў, забітых ці ператвораных у павукоў, можа пацвердзіць гэты факт. Але цяпер – адчуй і павер! – можна павярнуцца спінай да гары і сысці туды, дзе твораць іншыя – не прыгнечаныя Алімпам жыхары рэзервацыі, апошнія прадстаўнікі беларускага афіцыйнага мастацтва, а свабодныя і гордыя людзі.

*«…і Цынцынат пайшоў сярод пылу, і зваленых рэчаў, і трапяткіх палотнаў, кіруючыся ў той бок, дзе, мяркуючы па галасах, стаялі істоты, падобныя да яго».*

Сёння беларускі літаратар збірае грошы на кнігу праз краўдфандынг у Менску, ладзіць прэзентацыю ў Гародні, стажыруецца ва ўніверсітэце ў Нью-Ёрку, едзе на літфорум у Кіеў, сустракаецца з перакладчыкамі ў Парыжы, праводзіць культурны ўік-энд у Вільні. Нават у глухой правінцыі, куды з квазі-Алімпу ледзь далятае злы голас, які патрабуе «даць раман», цяпер працуецца вольна.

Няўжо панаванне Алімпу робіцца нарэшце гісторыяй?

# УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА

## НЯСВІЖСКАЯ КРЫЗА, АЛЬБО ВЕРНУТЫ РАЙ

**Пралог**

Жарынкі порхалі, бы курвы, а голыя курвы скокалі праз купальскае вогнішча.

Пунсовы штопар укручваўся ў фіялетавыя нябёсы. Па-над стылымі водамі слаўся хмельны, бы пяршак, дымок. Бяздонная цемрадзь праціналася бутэлечным блямканнем, аргазмічнымі стогнамі і народнымі спевамі.

Старэча з крамянёвым вядзьмарскім тварам відавочна не ўпісвалася ў свята фальклорнай разбэсты. Седзячы каля вогнішча, яна засяроджана варажыла над вялізнай чорнай патэльняй, што стаяла на дзвюх цаглінах. Перакідала нажом залацістыя дранікі, плёхала на распалены чыгун цеста і, здавалася, не зважала ані на прывідныя цені, якія гойсалі праз агонь, ані на барвовыя трасеры, што хаатычна шпокалі наўкол.

Бультыхнула. Пырскі густа накрылі пунсовае вуголле, зашкварчэлі на патэльні. Старая страсянула кроплі з плюшавай душагрэйкі і з дакорам прымружылася на немаладога лысаватага дзядзьку з акуратнымі, нібы ў калгаснага бухгалтара, вусікамі. Стоячы ў вадзе, ён пажадліва абдымаў дзвюх маладзіц, па выглядзе – перадавых прадавачак «Сельпо». Дзявулі, фасоністая бяляўка і вытанчаная чарняўка, выглядалі няўлоўна падобнымі, нібы родныя сёстры. Лагодныя хвалі песцілі іх пругкія цыцкі, а вусаты зачаравана і бессаромна пераводзіў позірк налева-направа.

– Ну, Стасю, ты і жа-а-ба!.. – агучыла дакор старэча. – Хіба не бачыш, што тут людзі балююць?..

Юрлівец схамянуўся, адляпіў позірк ад цыцак і выбачальна прыклаў далонь да грудзей.

– То бяры сястрычак – і гайда дранікі есці, пакуль гарачыя!.. – палагаднела вядзьмарка, крыху павагалася і выцягнула з-пад крыса душагрэйкі біклажку з самагонам. – Дый выпіць не зашкодзіць, каб нячысцікаў адагнаць!

Стась паслухмяна выбраўся на бераг, працягнуў руку сёстрам. Але пакаштаваць вядзьмарчыных гасцінцаў не паспеў: ад вогнішча наляцелі, падхапілі і занурылі ў карагод.

З густой цемры маркотна заскуголіла скрыпка, вухнуў бубен, пругка і згодна загудзелі дудары. Залатыя дровы з шоргатам рассыпаліся сляпучымі згусткамі, вясёлыя жарынкі пырскалі ў нябёсы. Гіганцкія цені кружлялі вакол агню ў шалёным вакханальным

рытме. Паветра набрыняла аскомістым водарам разбэсты.

Старэча сарамліва пасміхнулася, нібы прыгадала маладое і брыдкае. Прыклалася да біклажкі, уцерла бяззубы рот і падчапіла відэльцам свежаспечаны дранік.

Шчыльнае металёвае ракатанне спакваля ўвайшло ў слых і дазволіла сябе ўсвядоміць. Неўзабаве яно ўзмацнілася да роўнага механічнага грукату і імгненна засланіла сабою навакольныя гукі. З-пад нізкіх аблокаў міргнуў чырвоны агеньчык, і над галовамі праявілася бліскучае яйка з доўгім страказіным хвастом. Густую цемру рассекла касое лязо пражэктара. Яно дбайна абмацала чарналакавыя воды, карункавую папараць, вогнішча і аголеныя спатнелыя целы.

Верталёт завіс па-над галовамі, акуратна знізіўся і ўпэўнена зафіксаваўся палазамі на паляне. Шуганаў вецер з вадзяным пылам, прысутныя інстынктыўна прыкрылі твары.

чорных акулярах і аднолькава някідкіх шэрых стройчыках. Яны прафесійнымі позіркамі ацанілі нудыстаў на прадмет зброі і разгрупаваліся на паляне.

Джон Фіцджэральд Кенэдзі абсалютна не адпавядаў свайму тэлевізійнаму вобразу, распрацаванаму іміджмейкерамі яшчэ за часамі перадвыбарчай кампаніі: гэткі гібрыд прагрэсіўнага ўніверсітэцкага выкладчыка і акцёра з рэкламнага роліка зубной пасты. Трыццаць пяты прэзідэнт Злучаных Штатаў выглядаў самотным і засяроджаным; знешнепалітычная сітуацыя не спрыяла братэрскай любові. Ён нервова падцягнуў вузел гальштука, прамакнуў лоб насоўкай і немалым намаганнем волі зацвердзіў добразычліва-афіцыйны позірк.

Гэтым позіркам Кенэдзі агледзеў пярэдні план і спыніўся на вытанчанай чарняўцы; за колькі хвілінаў, праведзеных у трэйлеры, тая паспела надзець сціплую сукню, укласці фрызуру і нават падправіць касметыку.

З ГУСТОЙ ЦЕМРЫ МАРКОТНА ЗАСКУГОЛІЛА СКРЫПКА, ВУХНУЎ БУБЕН, ПРУГКА І ЗГОДНА ЗАГУДЗЕЛІ ДУДАРЫ. ЗАЛАТЫЯ ДРОВЫ З ШОРГАТАМ РАССЫПАЛІСЯ СЛЯПУЧЫМІ ЗГУСТКАМІ, ВЯСЁЛЫЯ ЖАРЫНКІ ПЫРСКАЛІ Ў НЯБЁСЫ.

Лопасці абвіслі. Трап апусціўся. Усярэдзіне верталёта азначыўся няпэўны рух.

– Джон Фіцджэральд Кенэдзі, прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі, – абвесціў нехта нябачны.

Большасць прысутных не адразу ўцяміла пачутае: дэсінхранізацыя карцінкі і гуку была навідавоку. Адэкватна адрэагавалі толькі Стась і ягоныя дзеўкі. Першы паспеў нацягнуць белыя кальсонныя нагавіцы, папляваць на пальцы і прыгладзіць вусы. Чарняўка з бляўкай незаўважна для ўсіх слізганулі ў трэйлер, што хаваўся ў цёмным гушчары.

З верталёта высыпалі аднолькавыя каржакаватыя хлопцы ў аднолькавых

– Жаклін, я заўсёды цаніў тваю вынаходлівасць, у тым ліку і ў сэксе, – адбудаваў прэзідэнт тактоўную прэлюдыю спіча. – Але…

– Джэкі, гэта ўсяго толькі перформанс, – з дазаванай крыўдай патлумачыла першая лэдзі ЗША. – Постмадэрнічны тэатр, эстэтычны мінімалізм, дэканструкцыя вобразнай парадыгмы. Карацей, увасабленне прынцыпаў Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека нетрадыцыйнымі пастановачнымі сродкамі. Усе аголеныя і таму ўсе роўныя. Ты ж не ханжа і не супраць сучаснага мастацтва?

Фасоністая бляўка, якая выйшла з-за спіны Жаклін Кенэдзі, узялася вытлумачваць групавуху з іншага боку.

– І перформанс гэты называецца Купалле. Дзень летняга сонцастаяння, свята плоднасці, народнага чарадзейства і перамогі дабра над ліхам, – з інтанацыямі прафесара этнаграфіі патлумачыла Лі Радзівіл. – Мы з сястрой акурат і зладзілі купальскае свята ў гонар твайго найлепшага сябра і майго мужа, князя Станіслава Альбрэхта. Гэты дзень і пагэтуль адзначаюць на гістарычнай радзіме продкаў Стэсі, у горадзе Нясвіжы.

– Нясвіж – гэта дзесьці ў Манголіі? – недаверліва ўдакладніў Джэкі.

– У Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы, – далікатна ўкруціўся ў размову Стэсі. – БССР – гэта адзін са штатаў Савецкага Саюза. Самы заходні. Халодная вайна, жалезная заслона, балістычныя ракеты, КГБ, гарэлка, калгасы і містар Хрушчоў з чаравікам на трыбуне ААН…

ТЛУМАЧЭННЕ КНЯЗЯ РАДЗІВІЛА НЕ ВЫКЛІКАЛІ Ў ПРЭЗІДЭНТА КЕНЭДЗІ АНІ ЦІКАЎНАСЦІ, АНІ ЗДЗІЎЛЕННЯ. ЁН З АГІДАЙ АГЛЯДАЎ СПАТНЕЛУЮ АД ЛЮБОШЧАЎ І АЛКАГОЛЮ ПУБЛІКУ, І НА ДОНЦАХ ПРЭЗІДЭНЦКІХ ВАЧЭЙ, НІБЫ НА ФОТАПАПЕРЫ, ПРАЯЎЛЯЛІСЯ ЗДЗЕКЛІВЫЯ ЗАГАЛОЎКІ ЗАЎТРАШНІХ ГАЗЕТ.

– Значыцца, Стэсі, у тваім БССР сексуальная рэвалюцыя адбылася яшчэ раней за Злучаныя Штаты, – падсумаваў Кенэдзі. – Ухваляю. Але ж перформанс у фармаце свінгер-вечарынкі, калі пра яго дазнаюцца…

– Выключаецца цалкам, – супакоіла Жаклін. – Масоўка – акторкі-пачаткоўкі з Брадвею разам са сваімі бой-фрэндамі, дармаедамі-бітнікамі. Купальскае кантры – музыкі з найлепшай габрэйскай рэстарацыі Брукліна. Дэкарацыі мы выпісалі з Галівуду. Усім заплацілі па найвышэйшым рахунку і паабяцалі яшчэ больш у наступныя разы. Так што ім цяпер прасцей маўчаць, чым гаварыць. Да таго ж, дарагі Джэкі, ані рэпарцёраў, ані залішніх вачэй тут быць не можа. Нагадаю, што мы на даху аднаго з самых высокіх хмарачосаў Нью-Ёрка, а значыцца, і ўсяго свету.

У пацвярджэнне словаў сястры Лі Радзівіл эфектна рассунула гіганцкія лісты папараці, выштукаваныя з пап'е-машэ.

З вышыні пяцісот футаў адкрывалася панарама Нью-Ёрка, бяздушная і матэрыялістычная. Сляпучая галактыка Манхэтэна бязжальна выпальвала вочы. У залітых электрычнасцю цяснінах стрытаў і авеню праплывалі злітныя аўтамабільныя стужкі. Шалела неонавая рэклама, прапаноўваючы ў крэдыт усе існыя радасці жыцця.

Знянацку ад верталётнай кабіны пачуўся траскучы радыёшоргат, на які наклалася трывожнае пíканне. Збокуззаду Кенэдзі далікатна матэрыялізаваўся ахоўнік і схіліўся да прэзідэнцкага вуха.

Джэкі прабыў у салоне нядоўга, а калі вярнуўся, выглядаў дэпрэсіўным і нібыта замарожаным – рыхтык як тры месяцы таму, калі яму дакладалі пра няўдалую высадку «контрас» на Кубе.

– Змушаны з вамі развітацца, – Кенэдзі замкнуў твар у дзяржаўна-заклапочаным выразе. – Справы неадкладнай пільнасці.

Ён ужо збіраўся сесці ў верталёт, але ў апошні момант зачапіўся позіркам за старую відавочна нетутэйшага экстэр'еру. Старэча па-гаспадарску ўпэўнена несла да Джэкі вялікі спод ружовых круглякоў з карункавымі закрайкамі, ад якіх сыходзіў надзіва апетытны водар. У вачах бабкі чыталася настойлівае патрабаванне неадкладна пакаштаваць і выпіць.

– Пачакай, сыначка, – загадала старая. – Калі ты пра той страшны пажар, то я згашу яго проста зараз.

Кенэдзі таргануўся, нібы ад удару электратокам. Крытычна агледзеў цяжкую чорную спадніцу, зашмальцаваную душагрэйку ў прапалінах, вузлаватыя рукі з сінімі вяровачнымі пражылкамі і непранікальны, нібы вытачаны з каменя, твар. Усё гэта падсвядома асацыявалася ў яго з СССР, гарэлкай, калгасамі і ўвогуле з пеклам.

– Гераіня Хэлоўіну? – нервова запытаўся прэзідэнт у Жаклін.

– Рэжысёрка-пастаноўшчыца нашага купальскага перформансу, – патлумачыла першая лэдзі. – Між іншым, родам з-пад Нясвіжа, таго самага. Аўтэнтычная вядзьмарка… куды там расфарбаваным акторкам з брадвейскага «Макбета»! Бароніць традыцыі, адкрывае мінулае, прадказвае будучыню і сурочыць ворагаў.

Джэкі не адразу засвоіў пачутае.

– Мэм, пра які пажар вы гаворыце? – з напругай удакладніў ён у бабкі.

– Пра той самы, якім ты, сынок, так пераймаешся. Дзе гарыць, не скажу дакладна. Адно ведаю, што надта адсюль далёка. Ужо трэці дзень, і ніхто не можа згасіць. Давай паспрабую.

– Адкуль вы ўсё ведаеце?!..

Вядзьмарка мёртва ўчарэпілася ў прэзідэнта, драпежна вышчарылася і пацягнула яго ў цёмны гушчар. Той нават не рыпнуўся, бо адразу адчуў сябе ў цісках чужой волі. Каржакаватыя хлопцы ў някідкіх шэрых строях, якія пільнавалі кожны прэзідэнцкі рух, скамянелі ўмомант, нібы пад позіркам Медузы-Гаргоны, і гэтая акалічнасць канчаткова прыўнесла ў сітуацыю элемент невытлумачальнай містыкі.

Тое, што адбылося далей, нагадала Джэкі Кенэдзі дакументальны фільм пра шаманаў індзейскага племені тэтан-дакота. У руках варажбіткі невядома адкуль узялася пяць пашарпаных алюмініевых конавак. Старэча акуратна паставіла іх радком на борцік басейна, донцамі дагары, тройчы перажагналася і глуха зашаптала засяроджанай скарагаворкай, паўтараючы да бясконцасці:

– Йшла Божая Маці сінімі марамі, зялёнымі мастамі, залатою чашкай брала воду, агонь засланіла, зямлю збараніла…

З кожным паўторам мантры вядзьмарка прыгаршчай чэрпала з басейна і плёхала на конаўкі. На кашчавым пальцы цьмяна блішчэў пярсцёнак цяжкага старажытнага срэбра з нечытэльнымі таямнічымі пісьмёнамі.

У галаве Кенэдзі недарэчна завярцелася слова «ерась», падзабытае з часоў заканчэння каталіцкай школы. Ён ужо збіраўся збегчы ад небяспечнай вар'яткі, але знянацку ад донцаў конавак паваліла густая шэрая пара, у горле зашкрэбла, рыхтык ад нашатыру, у галаве нешта набрыняла і шпокнула з ільдзістым блакітным дзвонам.

– Згаснуў твой пажар, – абвясціла старая паяснелым голасам.

Прэзідэнт ніякавата глянуў на чараўніцу і без развітання пасунуўся да верталёта. Па вачах аховы ён зразумеў, што за час яго адсутнасці нешта змянілася.

– Містар прэзідэнт, толькі што на сувязі быў губернатар Тэхаса, – паведаміў пілот. – Ён прасіў сказаць, што…

– Звяжыце мяне з ім!..

Пачварны пажар, які трэці дзень выпальваў найвялікшы нафтавы тэрмінал Тэхаса, ад самага пачатку стаў некіраваным і пагражаў перакінуцца на бліжэйшы горад. Тэрмінал давялося ачапіць, але чуткі пра катастрофу ўсё ж прасочваліся ў бізнесовыя колы. Пажар азначаў не толькі банкруцтва нафтавых кампаній, у чые акцыі сям'я Кенэдзі ўклала немалыя грошы, але і непазбежны абвал нью-ёркскай фондавай біржы. Апошняе, згодна з эфектам даміно, цягнула за сабою процьму наступстваў розных ступеняў паскуднасці, якія засланялі сабою

нават экалагічную катастрофу і чалавечыя ахвяры.

Спыніць пажар не маглі ўсе пажарныя штата. І вось, як паведамляў тамтэйшы губернатар, літаральна хвіліну таму невядома адкуль наляцелі хмары і шалёная залева згасіла агонь, хаця неба над усім штатам яшчэ гадзіну таму было яснае.

– Гэта проста нейкі цуд, містар прэзідэнт, я ніколі такога не бачыў, – падсумаваў губернатар дрыготкім ад пабожнасці голасам. – Нібы сам Гасподзь адначасова скіраваў усе брандспойты Злучаных Штатаў на тыя пяць рэзервуараў…

Кенэдзі механічна адзначыў, што конавак на борціку басейна таксама было пяць.

Шаманскія маніпуляцыі з палiваннем посуду і раптоўная залева ў паўтары тысячы міляў адсюль відавочна мелі нейкую прычынна-выніковую сувязь. Прырода гэтай сувязі не вытлумачвалася рацыянальна, але сувязь гэтая, бясспрэчна, існавала, прытым асабліва цешыў канчатковы вынік.

ДА РАЗВАЛУ СССР ПРЫКЛАДЗЕ РУКУ АДЗІН МОЙ ЗЯМЛЯК НА ІМЯ СТАНІСЛАЎ. ЗАПОМНІ ГЭТАЕ ІМЯ. АЛЕ ТЫ ГЭТАГА ЎЖО НЕ ЗАСПЕЕШ, БО ЦЯБЕ ЗАСТРЭЛЯЦЬ. А СМЕРЦЬ ТВАЯ, СЫНАЧКА, АКУРАТ І ПРЫЙДЗЕ З БЕЛАРУСІ, З МІНСКА.

Перамовы з Тэхасам натхнялі да асцярожнага аптымізму. Кенэдзі выбраўся з салона і ласкава агледзеў курваў з бойфрэндамі, якія, атабарыўшыся каля вогнішча, апетытна прыкладаліся да пляшак. Прыняў перад патэнцыйным электаратам найвыгоднейшую паставу, прыўзняў руку і зларадна зазначыў сябе на думцы, што цяпер шчыра шкадуе пра адсутнасць рэпарцёраў.

– Маю зрабіць важную для ўсіх нас заяву, – прамовіў Джэкі голасам, якім з Белага Дома звычайна віншуюць з Днём Падзякі. – Жахлівы пажар у Тэхасе, пра які мы пакуль не хацелі распавядаць і пра які ўся нацыя дазнаецца толькі на раніцу, нарэшце зліквідаваны нашымі агульнымі намаганнямі. Злучаныя Штаты – вялікая дзяржава, мы здатныя супрацьстаяць і не такім выклікам!

Прашаргацелі воплескі. Кенэдзі фотагенічна пасміхнуўся і, адаслаўшы ахову, скіраваўся да вядзьмаркі. Тая, знясіленая сеансам выклікання дажджу, нерухома сядзела пад пластмасавай сасной.

– Мэм, як гэта ў вас атрымалася? – пацікавіўся Джэкі з інтанацыямі школьніка, якому маці замест абяцанага ровару нечакана купіла «кадылак».

Вядзьмарка стомлена глянула на прэзідэнта і прамовіла надзіва роўна:

– Іншаму б не сказала, а табе скажу… Тваёй краіне не варта баяцца Саветаў, яны разваляцца. Да развалу СССР прыкладзе руку адзін мой зямляк на імя Станіслаў. Запомні гэтае імя. Але ты гэтага ўжо не заспееш, бо цябе застрэляць. А смерць твая, сыначка, акурат і прыйдзе з Беларусі, з Мінска. Заб’е цябе вайсковец, які скончыў адмысловую школу, дзе й навучаюць забіваць. Так што не хвалюйся, ты памрэш хутка і без пакутаў…

…Ранішні ветрык з Гудзона варушыў шызы попел вогнішча, пад якім пяшчотна ружавела вугольле. На глянцавай вадзе басейна гайдаўся самотны купальскі вяночак. Галівудскія дэкаратары дзелавіта скручвалі ў рулоны штучны мох. І ніхто не зважаў ані на старую, якая па-ранейшаму сядзела, прыхінуўшыся спінай да шурпатага пластыка, ані на вялізны спод састылых дранікаў перад ёй.

Паветра басавіта завібравала, нібы мост пад таварным саставам. Энергічны шоргат крылаў успароў

вільготную шэрань. На борцік басейна важка апусціўся гіганцкі гуталінава-чорны крумкач інфернальнага выгляду. Ён скасавурыў вясёлкавае вока на біклажку з самагонам і пранізліва каркнуў.

– Ну, выпі, выпі, калі так хочацца, – з нечаканай пяшчотай дазволіла старая. – Толькі дранікам заясі, каб палюдску было…

Варажбітка падчапіла відэльцам самы тоўсты дранік, і срэбны пярсцёнак на яе пальцы бліснуў, нібы апошняя зорка на золку.

* * *

Наступствамі купальскага перформансу ў 1961 годзе сталіся дзевяць цяжарнасцяў, сем абортаў, пяць разводаў і два самагубствы. Натуральна, уплывовыя бульварныя газеты пра гэта не напісалі; Жаклін і Лі ведалі, як правільна сябраваць з медыямагнатамі.

Жаклін неўзабаве паляцела ў Парыж, на прымерку чарговай ружовай сукні ад Шанэль. Лі захапілася творчасцю Трумэна Капотэ, моднага пісьменніка-гомасексуала, і гэта стала прычынай мадэрнісцкіх чутак пра раптоўную змену эстэтычнай і сексуальнай парадыгмы ўсіх ейных каханкаў. Стэсі Радзівіл, уладальнік транснацыянальнай рыэлтарскай агенцыі, з галавою занурыўся ў канвертацыю нерухомасці ў грошы і наадварот. А Джон Фіцджэральд Кенэдзі, нібы той штурман, жорстка пракладаў на глобусе знешнепалітычны курс ЗША, з пераменлівым поспехам пазбягаючы рыфаў, водмеляў, бураў і штыляў.

Неўзабаве і пра Купалле, і пра падзеі, звязаныя з тым перформансам, забыліся амаль усе…

Акрамя Алена Далеса, усемагутнага дырэктара ЦРУ. Містар Далес, ласкавы стары з халоднымі вачыма паталагаанатама, пільна адсочваў абсалютна ўсё, што тычылася Джона Кенэдзі і яго атачэння. Свята разбэзсты на даху хмарачоса асабліва не зацікавіла звыклага да ўсяго спецслужбоўцу; яго картатэка і так была заваленая кампраметарнымі матэрыяламі на ўсіх больш-менш уплывовых людзей Злучаных Штатаў.

А вось першабытныя камланні экзатычнай шаманкі і яе глабалісцкія прадказанні раптоўна адрадзілі ў Алане Далесе веру ў надзвычайнае. Пасля залевы ў Тэхасе, якую, без сумневу, выклікала паліванне конавак у Нью-Ёрку, не даваць веры прароцтвам Сівілы з невядомай для ўсіх Беларусі было не толькі немагчыма, але і злачынна.

Ужо на другі пасля Купалля дзень старэчу затрымалі спецагенты і даставілі ў пентхаўс аднаго з манхэтэнскіх хмарачосаў, дзе месцілася сакрэтная лабараторыя ЦРУ. Падвопытнай вядзьмаркай заняліся самыя прасунутыя псіхааналітыкі, гіпнатызёры, тэлепаты, тэолагі і следчыя, але ніякага плёну іх даследаванні пакуль не давалі.

І толькі інфернальна-чорны крумкач, якога бачылі ў кампаніі варажбіткі як мінімум трое агентаў, знік з поля зроку ЦРУ так жа загадкава, як і з'явіўся.

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## «ПЛАН ДАЛЕСА»

### Глава 1

Пеўні прагарлалі новы дзень. У вільготных пасля ночы травах зашаргацела, застракатала і засноўдалася. Сонца пераможна ўздымалася над вясковымі дахамі. Ясная ліпеньская раніца выкладала на грунтоўцы рытмічныя сінія цені, залаціла бляшаны рэпрадуктар на калгасным кароўніку.

Рэпрадуктар адкашляўся, напружыўся і праз радыёшоргат выплюнуў у празрысты блакіт:

– У эфіры – перадача «Раніца маёй рэспублікі». Ідучы насустрач гістарычным рашэнням студзеньскага

пленума ЦК КПСС, працоўныя калгаса «Чырвоны шлях» Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці ўзялі на сябе падвышаныя сацыялістычныя абавязацельствы па пашырэнні пасеваў кукурузы…

– Выключыце вы гэту херню, Міроныч, – чарнявы маладзён дбайна абцёр рукі аб доўгі скураны фартух, напялены паверх медычнага халата.

Мажны свінавокі мужчына ў цёмным, не па надвор'і, бастонавым строі глянуў на суразмоўцу з начальніцкай перасцярогай.

– Па-першае, Генік, я табе не Міроныч, а таварыш Ананій Міронавіч Басота, – адказаў ён у густым селядцова-цыбульным сіпенні. – Герой Сацыялістычнай працы і старшыня самага перадавога калгаса Нясвіжскага раёна. Па-другое, не выключу, бо тут акурат мой калгас і прапагандуюць. А па-трэцяе – піздзіш замнога. Чапаева ідзі рэж, а то з раёна ў кожны момант могуць прыехаць.

Сонца прыпякала. Генік анатамаваў. У бязветранае паветра падымаўся моташліва-салодкі пах крыві. Калгасны старшыня сядзеў на лавачцы пад бярозай і штохвіліны выціраў бліскучы лоб.

– Агне-ешка!.. – крыкнуў ён у бок кароўніка. – Прынясі што-небудзь папіць!..

З дзвярэй кароўніка вызірнула немаладая спалоханая скотніца і па хуткім часе прыбегла са жбанам.

– Вось, паночак, халоднае…

– Колькі разоў табе гаварыць, што ў нас у Савецкім Саюзе ўсе роўныя і ніякіх паноў тут няма, – Ананій Міронавіч прагна прыклаўся да жбана, і малако пацякло з куткоў яго рота. – Ці ніяк сваю белапанскую Польшчу забыць не можаш?.. Ат, яшчэ гадоў дзесяць таму цябе за адно б толькі слова «паночак» ведаеш куды б выправілі?..

– Ведаю, паночак, ведаю… – уздыхнула старая.

Калгасны старшыня зняў заплямлены малаком пінжак, кінуў на рукі

СОНЦА ПРЫПЯКАЛА. ГЕНІК АНАТАМАВАЎ. У БЯЗВЕТРАНАЕ ПАВЕТРА ПАДЫМАЎСЯ МОТАШЛІВА-САЛОДКІ ПАХ КРЫВІ. КАЛГАСНЫ СТАРШЫНЯ СЯДЗЕЎ НА ЛАВАЧЦЫ ПАД БЯРОЗАЙ І ШТОХВІЛІНЫ ВЫЦІРАЎ БЛІСКУЧЫ ЛОБ.

скотніцы і пасунуўся да кароўніка. На цаглянай сцяне пагойдвалася шырокая прасціна ў бурых падсохлых плямах. Басота асцярожна адагнуў край, зазірнуў пад тканіну і адразу адскочыў, нібыта апёк вочы.

– Генік, гэта ты завесіў?

– Угу, – засяроджана азваўся паталагаанатам, адганяючы мух, якія манатонна гулі над разваленай бычынай грудзінай.

– Ну, хоць нешта зрабіў правільна. А то ў нас тут яшчэ шмат несвядомых!..

Скотніца асцярожна наблізілася да тушы, схілілася над скрываўленай пысай і сантыментальна яе абняла. Тым часам Генік аберуч выдраў з чапаеўскай грудзіны маціцова-барвовае

Генік не стаў пярэчыць. Падхапіў саквояжык з аблушчаным чырвоным крыжам і пасунуўся за кароўнік. У цяньку, на шырокім брызенце, грувасцілася туша прыўкраснага чорнага бугая. Тлустая зялёная муха поўзала на пукатым, у кравяністых пражылках, бычыным воку.

– Я ж чалавечы паталагаанатам, а не жывёльны, – Генік нетаропка абышоў тушу, прыкідаючы, з чаго пачынаць. – Тут рэзнік патрэбны, са спецыяльным рыштункам. Ці ветэрынар…

– Так, без дэмагогіі, – жорстка асадзіў Ананій Міронавіч. – Мне загадалі арганізаваць анатамаванне бычынага трупа, і каб пад пратакол. Не зробіш як мае быць – гэта будзе не апошні пратакол у тваім жыцці!..

сэрца і пераможным жэстам Данка прыўзняў яго над галавою.

– Гля, якая прыгажосць! Проста цукерачка, а не фіброзна-мускульны орган!..

Ананій Міронавіч слізгануў вачыма па органе, перавёў позірк на прасёлак і здранцвеў тварам.

Па дарозе, у даўжэзным шлейфе пылу, нетаропка каціла шэрая «волга» з доўгім прутком антэны спецсувязі. Старшыня калгаса выпрастаўся, нібы насаджаны на кол. Уцягнуў па магчымасці жывот, выцер аб штаніны імгненна спатнелыя далоні і вернападданым поглядам прывітаў госця, які выйшаў з машыны адразу, як тая спынілася.

– Добрай вам раніцы, таварыш Пяткевіч, – прапхнуў Басота праз шурпатую гартань і няўпэўнена працягнуў руку.

Таварыш Пяткевіч, прыязны падцягнуты дзядзька з аптымістычнай пасмешкай на ідэалагічна вытрыманым твары, адказаў энергічным поціскам.

– Не такое яно ўжо і добрае, Ананій Міронавіч…

– І не кажыце, таварыш маёр: паўсюдна ворагі…

Таварыш маёр глянуў на старшыню з таварыскім дакорам.

– Вы, таварыш Басота, не зусім правільна разумееце палітыку партыі. Апошняю прамову таварыша Хрушчова канспектавалі? У Савецкім Саюзе агулам і ў Савецкай Беларусі ў прыватнасці больш не існуе сацыяльных перадумоваў для масавай антысавецкай дзейнасці. Але асобныя негатыўныя праявы яшчэ здараюцца. Напрыклад – былыя фашысцкія памагатыя з беларускіх буржуазных нацыяналістаў, якія паскудзяць сацыялістычнаму будаўніцтву на грошы заакіянскіх гаспадароў…

Нібыта ў пацвярджэнне гэтых словаў рэпрадуктар на слупе, які быў заціх, загрукатаў сакавітым барытонам:

– …абурэнне ўсіх сумленных савецкіх грамадзянаў. «Ганьба нацыяналістычным недабіткам!» – гнеўна заяўляюць рабочыя слуцкай макароннай фабрыкі, і гэтыя словы гучаць годным адлупам ястрабам Пентагона і ЦРУ, якія з дапамогай жменькі запраданцаў імкнуцца аднавіць у БССР уладу паноў і капіталістаў! Пракурор патрабуе для падсудных здраднікаў, паліцаяў і шпігуноў…

Пяткевіч выслухаў паведамленне з казённай павагай, агледзеўся і спыніў позірк на разваленай бычынай тушы.

– Ну, што ў вас? Прычыну смерці назваць можаце?

Паталагаанатам выцер скрываўленыя рукі анучкай, памуляўся і далікатна схіліўся да вуха госця.

– Таварыш паталагаанатам, мы тут усе савецкія людзі… спадзяюся. Можаце гаварыць уголас, – дазволіў Пяткевіч.

– Прычынай смерці племяннога быка-чэмпіёна па мянушцы Чапаеў стала яго зверскае згвалтаванне ў заднепраходную адтуліну, – афіцыйна абвесціў Генік, крыху павагаўся, але ж не ўтрымаўся ад перакладу на размоўную: – Карацей, нашага бычару да смерці забаралі… Што таго ворага народа!

У таварыша маёра хапіла тактоўнасці не акцэнтаваць увагу на апошніх славах.

– Патлумачце, калі ласка, падрабязней, – мякка ўдакладніў ён.

– У бычыным анусе выяўлена каля трох літраў спермы.

– Чыёй? – прафесійна хутка ўкруцілася пытанне.

– Эээ… Не ведаю. Але ніводны савецкі чалавек на такое не здольны. Сперму на экспертызу трэба аддаць, а гэта толькі ў Мінску…

Скотніца, якая пагэтуль моўчкі слухала дыялог, знянацку загаласіла танютка і перарывіста:

– А-ёй, мой Чапаенька!.. Ды хто ж цябе так?.. І што ж ты перад смерцю

ад таго ірада нацярпеўся!.. Я ж цябе гадавала, ночы не спала, усіх кароў закінула, адным толькі табою і займалася!.. На пашу ад рана выводзіла, цёлачку-прыгажуньку табе прыглядала!..

Ананій Міронавіч наступіў старой на нагу – тая злякана змоўкла. Кашлянуў у кулак, неўпрыкмет страсянуў салёную кроплю з носа.

– Мы сапраўды рыхтавалі Чапаева для паездкі на Усесаюзную выставу дасягненняў народнай гаспадаркі ў сталіцы нашай Радзімы, горадзе Маскве. Ён бы адтуль залаты медаль прывёз… калі б не антысавецкі акт скаталожніцтва!..

Сонца стаяла ў зеніце. Дзень плавіўся і плыў. Цені на сценах кароўніка калыхаліся, ссоўваліся і размываліся, нібы ў міражы. Маёр Пяткевіч крытычна агледзеў прасціну ў разляпістых бурых плямах і без ваганняў садраў яе, дэманструючы, што часы цяпер сапраўды ліберальныя і што ў савецкае ўлады няма таямніц ад сумленных грамадзянаў.

На пабеленай цэгле брутальна чырванеў надпіс:

СЛАВА САВЕЦКІМ ЧЭКІСТАМ!

Надпіс быў зроблены крыва і няўпэўнена – нібы яго аўтар толькі нядаўна вывучыў алфавіт. Пяткевіч адышоў ад сцяны на колькі метраў і ацаніў пісьмёны вокам спрактыкаванага аматара жывапісу.

– Мяркую, што цынічны надпіс на сцяне савецкага кароўніка зроблены крывёю Чапаева, – агучыў ён вынік агляду. – Ці ў вас, таварышы, ёсць нейкія іншыя меркаванні?

– Экспертыза пакажа, – знізаў плячыма паталагаанатам.

Таварыш маёр пасунуўся да «волгі».

– Як будуць вынікі – неадкладна паведаміце. Таварыш Басота Ананій Міронавіч, таварыш Пазнякевіч Яўген Аляксандравіч і таварыш Крукоўская Агнеса Войцэхаўна, – абвесціў ён у танальнасці павесткі па месцы жыхарства. – Праз пятнаццаць хвілін тут будзе апергрупа. Нашы супрацоўнікі правядуць комплекс чэкісцкіх мерапрыемстваў, пасля чаго вас усіх павязуць у райаддзел для допытаў…

СТАРШЫНЯ КАЛГАСА ХАПАНУЎ РОТАМ ПАВЕТРА І РАЗДЗЬМУЎСЯ, БЫ МАНГАЛЬФ’ЕР, ПРЫ ГЭТЫМ ГУЗІК З ЯГО ПІНЖАКА АДШПОКНУЎ У ТРАВУ.

Паталагаанатам упусціў у тушу трэпан. І толькі скотніца ўспрыняла пачутае з пакорлівай абыякавасцю, і ў пацвілых вачах яе адразу высвеціўся спіс неабходных пры арышце рэчаў.

– …у якасці сведкаў, каб запратакалаваць усё па закону. Назад таксама даставяць, – дадаў Пяткевіч і ледзь заўважна пасміхнуўся папулярнаму сярод людзей яго прафесіі жарту. – Добрага вам дня, дарагія таварышы!..

Ананій Міронавіч праводзіў «волгу» вільготнымі ад ласкавасці вачыма, плюхнуўся на лаву і выцягнуў валідол. Агнеса незаўважна перажагналася і патупала да кароўніка. Генік сцягнуў праз галаў скураны фартух і сплюнуў.

– Нарэшце зваліў… баец нябачнага фронту, – без усялякай павагі вымавіў ён і, перахапіўшы абураны погляд калгаснага старшыні, дадаў з прыхаваным выклікам: – Што зыркаеце, Міроныч? Вам жа сам таварыш маёр сказаў, што палітыку партыі разумееце няправільна. Не засталося ў нас у БССР масавых ворагаў!..

* * *

Начальнік нясвіжскага райаддзела КГБ Вікенцій Дамінікавіч Пяткевіч уважліва разглядаў гіганцкую кучу лайна. Куча была ва ўсіх падрабязнасцях

зафіксаваная на аператыўным фотаздымку. Пра надзвычайны аб'ём экскрэментаў сведчыў маштабны метр з рыскамі, што стаяў побач. У пратаколе дэталёва пазначаліся форма, колер, кансістэнцыя і памеры: шчыльны конус аднароднага цёмна-карычневага колеру, блізка 53 см у дыяметры і каля 37 см у вышыню.

Фекаліі былі выяўленыя чэкістамі перад парараднымі дзвярыма нясвіжскага райаддзела КГБ толькі а дзявятай раніцы і, мяркуючы па ўсім, праляжалі там з ночы. Характэрна, што ніводны чалавек, які праходзіў міма, не кінуўся з заявай у «органы»; пэўна, лайно перад Дзяржбяспекай успрымалася савецкімі грамадзянамі як элемент натуральнай рэпрэсіўнай атрыбутыкі. Але гіганцкая куча, безумоўна, з'яўлялася слядамі жыццядзейнасці таго самага злачынцы, які пакінуў у анусе бугая Чапаева тры літры спермы.

Асоба злачынцы выклікала ў Пяткевіча пачуцці, блізкія да антынавуковага рэакцыйнага ідэалізму. Савецкі грамадзянін, нават пры самым пажыўным рацыёне, наваляць так багата не мог. Дый нашто сумленнаму грамадзяніну спраўляць патрэбу на прыступках КГБ? На падобнае быў здольны адно нейкі антысавецкі монстр…

Фотаздымак лайна ляжаў на барвовай саф'янавай папцы з залачонымі шчытом і мячом. Нацюрморт падступна схіляў камітэтчыка да алюзій і нават абагульненняў, але ён адразу адагнаў ад сябе думкі з відавочна антысавецкім душком.

ВЕНТЫЛЯТАР ПЯШЧОТНА ХАЛАДЗІЎ ТВАР.
У ПРЫЁМНАЙ ЭНЕРГІЧНА ГРУКАЦЕЛА ДРУКАРКА.
ПАРТРЭТ ДЗЯРЖЫНСКАГА ПРАЦІНАЎ СА СЦЯНЫ ДОБРЫМ І КРЫХУ СТОМЛЕНЫМ ПОЗІРКАМ.

– А ты, Фелікс Эдмундавіч, яшчэ нешта пра чыстыя рукі гаварыў! – пасвойску падміргнуў Пяткевіч партрэту, адсунуў фотаздымак і раскрыў папку са стосам шыфраграм, запытаў, даносаў і дакладных, якія прыйшлі яшчэ з раніцы.

Большасць папераў выглядала руцінна, рыхтык любошчы абрыдлых адно аднаму сужэнцаў. Патрабаванні дэталёва аналізаваць аператыўную сітуацыю, адказна ставіцца да агентурна-вышуковых мерапрыемстваў і рэгулярна ўзмацняць палітыка-выхаваўчую працу…

А вось вялізная капэрта, расквечаная рознакаліберным фіялетавымі штампамі, адразу прывабіла ўвагу зваротным адрасам: Масква, плошча Дзяржынскага, 2, КГБ СССР. Падобныя капэрты прыходзілі ў нясвіжскі райаддзел вельмі рэдка. Пяткевіч нецярпліва чыкнуў нажніцамі. На стол выслізнула папка аператыўна-вышуковай справы, з тузін глянцавых фотаздымкаў і суправаджальны ліст за генеральскім подпісам.

Перш-наперш Вікенцій Дамінікавіч азнаёміўся з фотаздымкамі. Яны былі зробленыя ў нейкіх першабытных джунглях: непраходныя зарасці папараці, шалёных памераў хвашчы… Але гэта былі не джунглі братэрскага В'етнама, а менавіта капіталістычныя джунглі; пра апошняе сведчыў верталёт з надпісам «Marine One» і выявай амерыканскага сцяга.

На наступных здымках маёр Пяткевіч беспамылкова пазнаў Джона Фіцджэральда Кенэдзі. Галоўнакамандуючы арміі патэнцыйнага ворага прыязна размаўляў з дзвюма маладзіцамі, па выглядзе – перадавымі прадавачкамі «Сельпо». З-за спінаў прадавачак напружана вызіраў немалады вусаты дзядзька з акуратнымі вусікамі калгаснага гуманітарыя. На заднім плане цынічна вытанцоўвалі цалкам аголеныя дзеўкі і дзецюкі, няйнакш як пад бездухоўны рок-н-рол.

Напэўна, гэта быў нейкі фестываль капіталістычнай парнаграфіі.

– Але ж як добра таварышы з выведкі працуюць!.. – з пачуццём карпаратыўнага гонару зазначыў Вікенцій Дамінікавіч, разглядаючы фатаграфіі.

З апошняга здымка, зробленага ў найлепшай якасці, таварышу маёру пасміхалася ссушаная старая ў зашмальцаванай душагрэйцы. Крамянёвыя зморшчыны яе твару навявалі асацыяцыі з фальклорнымі жахалкамі пра варажбітак, пярэваратняў ды іншых нячысцікаў. На руцэ вядзьмаркі цьмяна зіхацеў старажытны пярсцёнак з неразборлівымі знакамі.

Суправаджальны ліст і аператыўна-вышуковая справа сведчылі, што Рымша Ганна Францаўна, 1863 года нараджэння, яшчэ ў 1940 годзе праходзіла па дакументах аператыўнага ўліку на падпольную арганізацыю беларускіх нацыяналістаў, у якой нібыта была штатным містыкам. Паводле нешматлікіх агентурных паведамленняў, Ганна Францаўна жыла на хутары пад Нясвіжам у таварыстве гіганцкіх крумкачоў, якіх гадавала сырым мясам супрацоўнікаў НКВД. Але ўсе спробы арыштаваць яе сталіся марнымі – апергрупы, якія выпраўляліся на хутар вядзьмаркі, ужо ніколі не павярталіся назад.

7 лістапада 1951 годзе грамадзянка Рымша Г. Ф. прыехала ў Мінск і падступна пракралася ў Палац культуры МГБ БССР імя Дзяржынскага, на закрытыя чэкісцкія ўрачыстасці з нагоды Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Там вядзьмарка прылюдна пракляла тагачаснага міністра Дзяржаўнай бяспекі таварыша Лаўрэнція Фаміча Цанаву, паабяцаўшы, што той неўзабаве падохне ў турме, як сабака. Старую арыштавалі і этапавалі на Лубянку. Назаўтра арыштантка загадкава знікла проста з камеры, прытым разам з ёй нібы выпарылася і яе крымінальная справа, якая захоўвалася ў зачыненым сейфе следчага кабінета. Уся турэмная змена, а таксама следчы, з падачы азвярэлага Лаўрэнція Фаміча, былі асуджаныя на самыя доўгія тэрміны ў самых далёкіх лагерах. Аднак неўзабаве і самога таварыша Цанаву выкрылі як шпега шматлікіх замежных выведак, а таксама фашыста, шкодніка і варожага дыверсанта. Пасля энергічных допытаў гэты подлы вораг народа сапраўды падох у турме, як сабака.

СТАРУЮ АРЫШТАВАЛІ І ЭТАПАВАЛІ НА ЛУБЯНКУ. НАЗАЎТРА АРЫШТАНТКА ЗАГАДКАВА ЗНІКЛА ПРОСТА З КАМЕРЫ, ПРЫТЫМ РАЗАМ З ЁЙ НІБЫ ВЫПАРЫЛАСЯ І ЯЕ КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА, ЯКАЯ ЗАХОЎВАЛАСЯ Ў ЗАЧЫНЕНЫМ СЕЙФЕ СЛЕДЧАГА КАБІНЕТА.

Колькі ні шукалі органы Дзяржбяспекі тую Рымшу, усё было дарэмна. І толькі ў ноч з 23 на 24 чэрвеня 1961 года савецкі выведнік, легендаваны дэкадэнтам-бітнікам, зафіксаваў на даху нью-ёркскага хмарачоса асобу, вельмі падобную да ўцякачкі. Старая доўга размаўляла з прадстаўнікамі рэакцыйна-імперыялістычных колаў ЗША, а потым – сам-насам з самім прэзідэнтам Кенэдзі. Пасля чаго зноў знікла ў невядомым кірунку.

Таварышу Пяткевічу належала высветліць, ці сапраўды на нью-ёркскім здымку зафіксаваная менавіта тая Ганна Францаўна Рымша, якая да вайны жыла пад Нясвіжам? Ці былі ў яе нейкія паслядоўнікі альбо вучні ў тэрарыстычна-вядзьмарскай дзейнасці?

Няўлоўная чараўніца выглядала фігуранткай нават больш фантастычнай, чым загадкавы гвалтаўнік калгаснага Чапаева. Але ж зачэпкі меліся,

і Вікенцій Дамінікавіч ужо ведаў, з чаго пачынаць. Перагляну́ўшы агентурную картатэку, ён спыніўся на аператыўных крыніцах, найбольш вартых даверу. Прызначыў сустрэчы і ўжо праз дзве гадзіны збольшага валодаў сітуацыяй.

Агент з аператыўнай мянушкай «Вафлёныш» паведаміў, што па працы ён рэгулярна ездзіць па ўсім Нясвіжскім раёне, што пра вядзьмарку неаднаразова чуў і нават ведае, дзе стаяў яе хутар. Але Ганны Францаўны там даўно ніхто не бачыў. Хутар яе разбураны ўшчэнт, і падмуркі зараслі бадыллём.

Агент «Гліст» засведчыў, што на працы ён штодня праглядае сотні твараў і даўно ўжо навучыўся распазнаваць адных і тых жа людзей у маленстве, у школе, на будоўлях сацыялізму, у турме і ў труне. А таму гатовы паклясціся хоць на камсамольскім білеце, хоць на Крымінальным кодэксе: старэча на нью-ёркскім фотаздымку і вядзьмарка з хутара з-пад Нясвіжа, якую ён колькі разоў бачыў у дзяцінстве, – адна і тая ж асоба.

Найбольш вычарпальную інфармацыю даў агент «Правакатар». Ён прачытаў таварышу маёру грунтоўную лекцыю пра тутэйшых варажбітак і запэўніў, што ў фальклорных чараўніц ніколі не бывае вучняў, а найгалоўную таямніцу жыцця яны перадаюць адзінай абранай асобе перад смерцю.

Бо калі такога не здарыцца – вядзьмарка будзе паміраць доўга і пакутліва.

Глава 2

Вядзьмарка памірала доўга і пакутліва.

У пацвілыя вочы старэчы спачувальна глядзела поўня, што пераспелым гарбузом завісла над шкляной пірамідай сакрэтнай лабараторыі ЦРУ. Адсюль, з каркаcломнай вышыні пентхаўса, было відно адно гніласна-электрычнае неба Нью-Ёрка, па якім раз-пораз прапаўзалі светлячкі самалётных агеньчыкаў.

ВАРАЖБІТКА ЛЯЖАЛА Ў ВЫСОКІМ АРТАПЕДЫЧНЫМ ЛОЖКУ, І ЯЕ ЗАСІВЕРАНЫ ТВАР НЕРУХОМЕЎ ВЕКАВЕЧНЫМ ВАЛУНОМ. БЯЗЗУБЫ РОТ СЦІСКАЎСЯ Ў ВУЗКУЮ, ЛЯЗО НЕ ПРАСУНУЦЬ, ШЧЫЛІНУ.

Пад прасцінай пругка тырчэлі смочкі датчыкаў, ад якіх цягнуліся спляценні рознакаляровых дратоў. Магнітафон на стале мерна круціў бабіны, але стужка вось ужо трэці дзень фіксавала адно цішу.

Ані самыя дасведчаныя агенты ЦРУ, ані нанятыя імі тэолагі, экстрасэнсы і гіпнатызёры па-ранейшаму не змаглі дамагчыся ад старой нічога ўцямнага. Цудадзейную залеву ў Тэхасе вядзьмарка растлумачыла навукай дзеда-нябожчыка, а прадказанне забойства Джона Кенэдзі – тым, што пра ўдалы замах ёй нібыта нашаптаў іншы дзед-нябожчык, таксама вельмі дасведчаны вядзьмак.

Такія адказы абсалютна не задавальнялі схільнага да канкрэтыкі Алена Далеса. Час падціскаў; дырэктар ЦРУ разумеў, што старой заставалася зусім мала. У лабараторыі з'явіўся дэтэктар хлусні – найноўшая тэхналагічна-шпігунская распрацоўка, нібыта здольная чытаць чалавечыя думкі.

Аператар дэтэктара, малады мужчына без асаблівых прыкметаў, напружана ўглядаўся ў перуновыя маланкі на зеленкаватым экране.

– Яна не маніць, нават калі нешта сніць, – патлумачыў ён дэтэктыву, такому ж класічна беспрыкметнаму

спецслужбоўцу. – Прынамсі так сведчаць прыборы.

Дэтэктыў вылаяўся бязгучна; прамовіць адпаведныя сітуацыі словы яму не дазвалялі мікрафоны, уключаныя на запіс і развешаныя па ўсёй лабараторыі.

– Дэтэктар хоць спраўны?

– На сабе правяраў.

Позірк дэтэктыва спыніўся на экране аднаго з асцылографаў; светлавая кропка шалёна крэсліла мудрагелістыя вузельчыкі і петлі.

– І гэты спраўны?

– Гэты наладжаны выключна на фізіялагічныя паказчыкі. На канчатковыя вынікі амаль не ўплывае, але... – аператар слізгануў пальцамі па сінім дроціку і адкінуў край прасціны, якой была прыкрытая вядзьмарка.

Дроцік злучаўся з кончыкам пальца, на якім брутальна блішчэў чорны, падобны да адгадаванага прусака, датчык. Вышэй на фаланзе таямніча зіхацеў старадаўні срэбны пярсцёнак з нечытэльнымі пісьмёнамі.

– Можа, срэбра якую індукцыю наводзіць? – аператар паспрабаваў быў сцягнуць ювелірную аздобу.

Аднак пярсцёнак сядзеў на вузлаватым пальцы варажбіткі нязрушна, нібыта замацаваны скразным штыфтам праз косць. Старая нервова зварухнулася і прымружылася на цээрушніка драпежнымі круглымі вачыма.

– Толькі з пальцам, – папярэдзіла яна нядобрым шэптам.

Аператар скасавурыўся на чарупіну ўмывальніка.

– Мыла шукаеш?.. – бяззубы рот расцягнуўся ў жорсткай посмешцы, варажбітка сціснула пальцы так моцна, што ў маладога мужчыны хрумснулі суглобы. – Калі не адчэпішся, то проста тут і ўсерышся, абяцаю, – старэча рэзка адпусціла здабычу.

У памяшканні пачулася цяжкое спакутаванае сапенне. Лапкі самапісцаў шалёна заторгаліся.

– Спінацца не раю, – сур'ёзна параіў дэтэктыў. – А сварыцца – і пагатоў. Як скажа, то й здзяйсняецца. Будзе не раўнуючы як з ім...

У фатэлі, што стаяў у закутку, дробным студнем калаціўся штатны цээрушны гіпнатызёр. Вейкі трывожна паторгваліся ў неспакойным сне.

– Пішчом да яе лез, усё пнуўся ў транс увесці. Чараўніца і параіла яму той гіпноз сабе ў сраку заткнуць. Ужо другія суткі да цямы прыйсці не можа. Невядома, калі ачомаецца і ці ачомаецца ўвогуле.

Старэча закрахтала, заварочалася і зноў знерухомела, утаропіўшыся позіркам у шкляную піраміду над галавой. Аператар асцярожна зашархацеў папяровай стужкай з хаатычнымі лініямі самапісцаў.

– Ты ж глядзі – праўду кажа...

– А я пра што!..

Папераджальна бlямкнуў нябачны званочак. Дзверы сакрэтнага ліфта, замаскаваныя пад сценную панэль, бязгучна ссунуліся ўбок, вочы на кароткі момант асляпілі люстэркі і нікель кабіны. Немалады лысаваты мужчына з халоднымі вачыма паталагаанатама паправіў танюткія залатыя акуляры, па чарзе працягнуў руку аператару, дэтэктыву і ахоўніку.

– Містар Далес, пакуль што ніякіх...

Дырэктар ЦРУ спыніў даклад згодным жэстам – маўляў, і так усё ведаю.

– Я хацеў бы перагаварыць з пацыенткай сам-насам, – папрасіў ён падкрэслена добразычліва.

Аператар і дэтэктыў паслухмяна зніклі за дзвярыма службовага пакоя. Ахоўнік спрытна выкаціў фатэль з кантужаным гіпнатызёрам. Ален Далес выключыў магнітафон, сеў каля вядзьмарчынага ложка.

– Добры вечар, мэм, – з казённай ветлівасцю прамовіў дырэктар ЦРУ. – Урад Злучаных Штатаў і я асабіста робім усё мажлівае, каб падтрымаць вашае здароўе і ваш надзвычайны дар...

– Не дуры бабінай сракі, – старая зірнула на госця безуважна, як глядзяць на агонь ці ваду. – Дай хоць памерці спакойна.

Цээрушнік зрабіў выгляд, нібы не пачуў.

– …аднак змушаны звярнуць увагу, што гаворка цяпер вядзецца не толькі пра вашае здароўе, але і пра нацыянальную бяспеку Злучаных Штатаў. І гэта цалкам апраўдвае вашае цяперашняе месцазнаходжанне… – Ален Далес распусціў вузел гальштука, выцягнуў ногі ў нямодных дыхтоўных штыблетах і на якую хвіліну змоўк, нібы наладжваўся на частату ўспрыняцця суразмоўніцы. – Мэм, давайце без хітрыкаў. Я прачытаў усе кнігі па народнай містыцы, якія толькі ёсць у бібліятэцы Кангрэса ЗША, і тое-сёе засвоіў. Вам дзевяноста восем гадоў. Не ўпэўнены, што…

– Хочаш, каб я табе перадала сваю моц перад смерцю? – варажбітка чытала чужыя думкі не горш найноўшай шпігунскай апаратуры. – Ат, у цябе дакладна не атрымаецца стаць абраным!.. Нават калі я гэтага захачу. Ведаеш чаму?...

Поўня абсыпала вядзьмарчын твар мярцвяным срабрыстым пылам. Сілуэт госця адкідаў на сцяну фатаграфічна выразны цень. Зеленкаватыя кропкі на экране порхалі спалоханымі мятлікамі.

– Я магу перадаць сваю моц толькі каму з землякоў, – засведчыла старая роўным голасам.

– А калі я знайду вам такога земляка… Што хочаце наўзамен?

– Лёгкай смерці хачу, – цяжка выдыхнула вядзьмарка.

– Капсула з цыянідам? Смяротная ін'екцыя? Перадазіроўка гераіну? – падхапіў дырэктар ЦРУ, і яго залатыя празектарскія акуляры заблішчэлі натхнёна. – Вы толькі самі скажыце, мэм! У маіх супрацоўнікаў найбагацейшы выбар… не кажучы ўжо пра досвед!..

– Туябень ты, хаця і дырэктар ЦРУ, – прахрыпела варажбітка. – Акуляры начапіў, кніжкі разумныя чытаеш… Ды не дачытаў, відаць. Дах нада мною трэба разабраць, каб душа адсюль упрочкі змагла пайсці. А на таго земляка я яшчэ пагляджу, ці гадзяшчы…

Не даслухаўшы варажбітку, Ален Далес кінуўся да тэлефона ў пакой аховы, накруціў нумар, схапіў слухаўку:

– …на Багамах? Тэрмінова звяжыцеся з ім… Тэр-мі-но-ва!!!... Высылайце гідраплан проста зараз! Сустрэну асабіста проста на пірсе… Гэта адзіны наш шанец!..

* * *

Нябёсы Нью-Ёрка крэслілі імгненныя люмінесцэнтныя зігзагі. Перуны пераможна каціліся па прыціхлых стрытах і авеню. У празрыстую піраміду пентхаўса лупіла шалёная залева; густыя струмяні звіваліся і разбягаліся па таўшчэзным шкле.

ЦІШУ САКРЭТНАЙ ЛАБАРАТОРЫІ ЎСПАРОЛА РОЎНАЕ НАЖДАЧНАЕ ШКРАБАННЕ – ВІДАВОЧНА, ЗГАРЫ. АХОЎНІК З НАСЦЯРОГАЙ УЗНЯЎ ГОЛАЎ. ЗА РАЗМЫТЫМ ВАДОЮ ШКЛОМ НЯПЭЎНА АЗНАЧЫЛІСЯ МУЖЧЫНСКІЯ СІЛУЭТЫ Ў ПАМАРАНЧАВЫХ БУДАЎНІЧЫХ КАМБІНЕЗОНАХ. ЗАЗВІНЕЛІ РАЗВАДНЫЯ КЛЮЧЫ, ІРЖАВА ВІСКНУЛА ЗЛІПЛАЯ ГАЙКА.

Старэча расплюшчыла вочы.

– Нарэшце, – мовіла яна ясна і роўна.

Цяжкая шкляная пліта, падхопленая гумовымі прысоскамі, ссунулася на бок. У пакой шуганула кіслароднай свежасцю, дождж шалёным шротам

сыпануў па падлозе. Варажбітка звесіла ногі з ложка, падставіла твар пад ледзяныя пырскі і з асалодай прымружылася.

Нябёсы рассыпаліся грымотамі. У вядзьмарчыных вачах дваіста адбіўся пошуг маланкі. Срэбны пярсцёнак на пальцы бліснуў інфернальнай жарынкай.

– Сыначка, – папрасіла старая ахоўніка, фармуючы словы непаслухмянымі, нібыта змерзлымі вуснамі. – Прынясі бабе вадзічкі. Той самай, што сам п'еш, з бурбалкамі.

Хлопец паслухмяна пасунуўся ў суседні пакой. Але ледзь толькі засіпеў сіфон, у лабараторыю ўварваўся шалёны павеў.

ЗА СПІНАЙ ЦЭЭРУШНІКА МАТЛЯНУЛІСЯ І БРАЗНУЛІ ШКЛЯНЫЯ ДЗВЕРЫ, ВІНТОВАЧНЫМ ЗАТВОРАМ АДШЧОЎКНУЎ ЭЛЕКТРЫЧНЫ ЗАМОК. АХОЎНІК СУТАРГАВА ПАТУЗАЎ РУЧКУ, АЛЕ МАРНА.

Ён разумеў, што за матавым шклом адбываецца нешта невытлумачальнае. Паветра скалынулася пругкай вібрацыяй, пранізліва ценькнула шыба, і на падлогу каля вядзьмарчынага ложка паклаўся цяжкі рухомы цень.

Спецслужбовец злякана адскочыў, выцягнуў быў пісталет, каб адстрэліць замок, але ў гэты момант з-за дзвярэй данеслася засяроджанае:

– У лесе наверсе стаіць дуб, на тым дубе сем какатоў, у тых какатах сем калубнёў, у тых калубнях лялькі і маткі. Няньчыцеся, мамчыцеся, вотначай не пускайце, ні сцыклівых, ні дрысклівых, ні крыклівых…

Пранізлівы дзвон закруціўся шалёным штопарам, працяў мозг ахоўніка ільдзяной голкай і імгненна прыбіў непрытомнага да падлогі.

* * *

Станіслаў Альбрэхт Радзівіл прыбыў у сакрэтную лабараторыю толькі на світанку. Пазаду застаўся пералёт над штармавым акіянам, шалёная паездка з мігалкамі па залітаму дажджом Нью-Ёрку і кароткая, але вычарпальная інструкцыя Алена Далеса, якую той даў непасрэдна перад візітам Стэсі ў пентхаўс.

«Вы, містар Радзівіл, – нашчадак славутых літвінскіх феадалаў, – дырэктар ЦРУ засаджваў у Стэсі тэзісы, бы набоі ў абойму. – Вашыя далёкія продкі акурат паходзяць з Нясвіжа, адкуль родам вялікая чараўніца Ганна Рымша. І вы як зямляк тае вядзьмаркі маеце ўсе падставы пераняць ейныя надзвычайныя здольнасці. Калі гэта здарыцца – мы разам з вамі не толькі прадухілім забойства прэзідэнта Кенэдзі, але і ўшчэнт разбурым СССР, як тая варажбітка і прадказвала чалавеку на імя Станіслаў, то-бок вам. А ўжо пад такі праект у Кангрэса можна патрабаваць дзясяткі… нават сотні мільёнаў даляраў!..»

Сакрэтная лабараторыя ЦРУ выглядала рыхтык пасля варожага нашэсця: перакуленыя столікі, разбітая апаратура з ашмёткамі рознакаляровых дратоў, густыя чорныя пісягі на сценах… Прамакутная дзірка ў шкляным пірамідальным даху міжволі наводзіла на думкі пра артабстрэл. Падлога блішчэла ртутнымі калюжынамі. Халодны ветрык шаргацеў раскіслымі аркушамі з грыфамі CIA.

Варажбітка камянела ў артапедычным ложку, і шкляныя вочы яе глядзелі ўгару спакойна і шчасліва.

Станіслаў Радзівіл перажыў лёгкае сэрцабіццё. Кашлянуў, памуляўся, зноў кашлянуў і асцярожна памацаў вільготныя пальцы старой.

– Мэм, вы абяцалі распавесці мне пра дранікі… – нечакана для сябе прамовіў нашчадак літвінскіх феадалаў.

Старэча не адрэагавала. Стэсі адпусціў скарлючаную халодную руку і міжволі адзначыў, што на вядзьмарчыным пальцы няма старажытнага срэбнага пярсцёнка, які ён запрыкмеціў падчас святкавання Купалля.

За спінай князя пранізліва віскнула падлога. Ален Далес падышоў да ложка, памацаў пульс варажбіткі і прашаптаў засяроджана:

– Памерла… Памерла, старая сука!

– Супакой Пан Езус яе душу!.. – перажагнаўся Стэсі.

Дырэктар ЦРУ хутка-хутка пашукаў вачыма, прысеў, агледзеўся пад ложкам, пашаркаў рукою і выцягнуў даўжэзнае гуталінава-чорнае пяро.

– Перад смерцю яна напэўна перадала камусьці сваю моц, – канстатаваў спецслужбовец відавочнае. – Але каму?!..

# ЛЕНА ГЛЕКАВА

## ПАРЦАЛЯНАВАЯ КАРОВА

**1**

Карова стаяла ў шафе на паліцы нумар тры і, па ўласным разуменні, была бліжэй да падлогі, чым да столі. Нумерацыя паліц ішла ад хваста шафы. Хвост патанаў у павуцінні. Галава хавалася ў скручаных з нейкай поўсці і пылу камяках.

Побач стаялі пакамечаныя жыццём і шматразовымі пераездамі кнігі. Карова была ўпэўненая, што ў адной з іх, за каляровай вонкавай кардонкай, у пульсуючых літарных вантробах была схаваная ўся праўда пра сусвет. У якой – невядома. Мо тая зялёная ведала законы быцця? Альбо барвовая? Барвовы колер заўсёды пазначае штосьці значнае.

За шафай пачыналася сцяна, штрыхаваная дошкамі на ўзор кратаў. Да сцяны сіняй кнопкай быў прышпілены чысты аркуш паперы. Яго карова ненавідзела болей за ўсё.

Яе нават не так напружваў шкляны шарык, што быў замацаваны ў яе на рагах. Карова дасканала ведала яго вагу і колер: кожнае адценне, якое набывала шкло ў залежнасці ад пары году, надвор'я і дакладнага часу. Адпусціць шарык было варта смерці, але калі не паслабляць цяглíцы шыі і раўняць падбароддзе ў паралель з паліцай, дык яго можна было ўтрымліваць амаль без напругі. Ну, з адэкватнай напругай, нармальнай такой напругай для здаровай маладой каровы з цудоўнай, якаснай, з зіхатлівай палівай парцаляны. Шарык у прынцыпе паводзіў сябе спакойна і толькі пагрозліва касіўся набок, калі карова акуратна вадзіла галавой управа і ўлева, для размінкі. Шарык заўсёды заставаўся шарыкам.

Аркуш жа раздражняў варыятыўнасцю магчымага выкарыстання. Ён не затыркаўся ні ўдзень, ні ўначы і здзекліва прамаўляў:

– Можаш зрабіць са мной што захочаш: намаляваць сонца ці дождж, напісаць апавяданне ці хоць бы хоку. А хочаш, зрабі арыгамі-слана! Будзе выглядаць як сапраўдны. Не верыш – то паспрабуй!

– А куды ж падзець шарык? Для арыгамі патрэбная свабода рухаў. Лепш і не марыць. Стаяць, трываць, трымаць галаву роўна, рогі тарчком, каб ніхто не плакаў побач у спачуванні, – апаніравала карова.

«Праўда, кажуць, ёсць нейкія там крэатыўныя рашэнні, – разважала яна. – Він-він, перамога-перамога. Можа, знайсці што такое?»

– Дура парцалянавая, – выразна прамовіў унутраны голас.

– І по-о-ойдзем мы да горных вяршы-ы-ы-няў, і ўба-а-ачым ружовыя абло-о-окі Шры-Ла-а-анкі... – спяваў тэнарам аркуш.

– Не, ну гэта ўжо нахабства! – раз'юшылася карова. – Непавага! Гвалт! Як не сорамна! – крычала яна ці то голасу, ці то аркушу.

## СОНЦА ГЛЯДЗЕЛА Ў АКНО. БУДУЧЫНЯ КРУЦІЛАСЯ НЕДЗЕ ПОБАЧ, ЦВЯРДЗЕЛА І СТАНАВІЛАСЯ ПЭЎНАЙ КОЖНАЕ ІМГНЕННЕ. ТАК НАРАДЖАЛАСЯ ЦЯПЕР.

Карова стаяла, трымала шарык, вылічвала, у якой кнізе сапраўдная, самая праўдзівая праўда, лічыла дні, лічыла паліцы, наракала на вертыкальныя шчыліны паміж дошкамі на сцяне і выжыльвалася, ігнаруючы аркушавы заляцанні.

«Няўжо канчатковая мэта – прайсці праз гнеў, таргі і скруху ды скарыцца шарыку?»

– Думай, – раптам сказалі карове ўсе кнігі хорам. – Думай, карова. Парцалянавыя, яны наогул кемлівыя.

**2**

І прыйшоў туман. Зжор усё. Белы морак. Паветра з бавоўны. Зніклі кнігі, зліўся з суцэльнай беллю аркуш. Кавалак туману зацёк у шарык – стаўся белай ртуццю. У глухой моўчы пачуліся воклікі, што цягнуліся адной нотай і раскладаліся на рэха і паўзы. «У-у-у». «Э-э-э». Карова заплюшчыла вочы і стала распадацца на дробныя кроплі. Туман падхапіў яе і панёс праз нішто, нідзе, ніколі.

**3**

Карова ляцела. Унізе мільгацелі і патаналі ў няўмольным аеры азёры, праглынала само сябе, баронячыся ад нашэсця пражэрлівых звяроў, кустоўе. Карова падымалася над дрэвамі і чакала, што парцалянавы хвост будзе чапляцца за галіны й ціхенька звінець. Хвост маўчаў, хваста больш не было. Карова пашкадавала аб сваім раздробленым целе і ў тую самую хвіліну сабралася ў цэлае і грымнулася ў балотны трыснёг. Заглынула міску гаркавай вады, падняла галаву і неўзабаве зноў кульнула яе ўніз, бо на розе апусціўся шарык. Пярэднія капыты раз'ехаліся ў бакі. Так яна і ляжала недарэчным непрапарцыйным крыжам пасярод вады і балотных раслін, утаропіўшы вочы ў сваё адлюстраванне, якое калыхалася і малявала пысу яе то непамерна вялікім колам, то да смеху дробным трохкутнікам. Туман знік.

**4**

Мутнае вока глядзела на яе з вады. Шчупачынае, абсалютна круглае, дасканальна невыразнае. Высунулася на паверхню пашча з дробнымі востранькімі зубкамі:

– Хочашшшш жаданне?

Карова зазірнула ўнутр пашчы, пракаўтнула сліну, пахістала няўпэўнена галавою:

– Я ж павінна цябе спачатку злавіць, потым ўратаваць, потым жаданне. Ці не такі парадак?

Пашча смяялася:

– Дзе ты начыталася гэтага цемрашальства? Адкажы мне, карова, каго ты зараз можаш злавіць? Тым больш выратаваць? Зрэшты, можаш па сваім сцэнары, твая справа.

Парцалянавая маўчала. Мутнае вока скасілася на шарык:

– Падабаецца?

– Не ведаю, проста таскаю. Не магу кінуць.

– А, ну ладна. Не можаш дык не можаш. І такое здараецца.

Тут пашча вокамгненна выпрастала рыбінае цела высока ў паветра,

схапіла шарык, заціснула паміж зубамі і дала нырца ў балотную цемру. Карова ахнула, заскуголіла, замяталася, замуціла ваду. Пашча зноў высунулася з вады, насмешліва скрывілася, ускінула шарык назад на парцалянавыя рогі:

– Трымай! – і знікла.

Карова паднялася і ціхенька патупала дадому. Там, калі цела яе сагрэлася і абсохла, карова падняла вочы і агледзелася. Паліца падалася ёй утульнай і цалкам цудоўнай. Кнігі – роднымі і мудрымі. Сцены – добра аздобленымі. Аркуш – блізкім і падатлівым. Так карова стала аптымісткай.

**5**

– Ла-ла-ла. Ла. Ла.

Наступныя сем месяцаў любая рэч, адрозная ад балотнай вады, шчупачыных вачэй і з'едлівага туману, здавалася карове прывабнай і чароўнай.

ЯНА ДАВОДЗІЛА ЎСІМ ЗАЦІКАЎЛЕНЫМ, ШТО ШЧАСЛІВАЯ, РАДАВАЛАСЯ, СПЯВАЛА, УСМІХАЛАСЯ НАВАКОЛЬНЫМ І НЯСПЫННА ВЯЗАЛА. ВЯЗАЛА ШВЭДРЫ, ШАЛІКІ, ШАПКІ, СУКЕНКІ, ПЛЕДЫ І КАРДЫГАНЫ. ВЯЗАЛА З БАВОЎНЫ, З АВЕЧАЙ МЕРЫНОСАВАЙ ВАЎНЯНАЙ НІТКІ, З ШЭРСЦІ ЛАМЫ, ВЯРБЛЮДА, АЛЬПАКІ І АНГОРЫ, З АКРЫЛУ, З МАХЕРУ, З ТВІДУ, З ПЛЮШУ І КАШМІРУ.

Смылелі сківіцы, крышылася глазурная скура, раздуваліся мутна-жоўтыя мазалі. Галоўнае не спыняцца.

«Ну што вы, даражэнькія, у мяне ўсё цудоўна! У мяне ёсць рогі, ногі і капыты і сваё месца на вось гэтай паліцы. Я цалкам удзячная сусвету».

«Не дастаць да аркуша? А можа, мне і не трэба таго аркуша».

«Вось вы мяне шкадуеце? І дарэмна, бо я нічым ад вас не адрозніваюся».

«Як хораша ў лесе! Сфагнум смарагдавымі пальцамі цягне сосны да зямлі, да шэрых самотных валуноў, да разлапістай папараці, якая хавае да пары цудадзейныя паганскія кветкі. Пахне возерам. Яно дзесьці блізка. Там высмоктваюць з глею жоўты колер гарлачыкі, што гадуюць Дзюймовачак на радасць ластаўкам і чароўным прынцам з краіны эльфаў».

«Жыла ў цёмным лесе ліса. Тры гады яна з дому не выходзіла, бо ёй сяляне лапы за курэй паадрывалі. Прыйшоў да яе аднойчы мядзведзь і сказаў: «Ліса-на-курэй-ласа, хочаш курыную каўбасу табе прэзентую?» А ліса яму ў адказ: «Даражэнькі мішка-нос-з-шышку, канешне хачу». А мішка ёй: «Няма лапак – няма каўбасы»... ха-ха… ну смешна ж... няма лапак... каўбасы няма... ха-ха... не?»

«Глядзіце, якія цудоўныя пухнатыя клубочкі. Швэдар будзе цёплы».

**6**

Аднойчы парцалянавая прачнулася рана. Зазірнула ў акно: чорнае неба ў яе вачах засталося чорным. Не стала яно аксамітна-вугольным, ані шаўкова-атрамантавым. Слязіліся вочкі зорак. Пазітыў не прачнуўся разам з кароваю.

З кутоў пакоя палез шчыльны, як пары вадкага азоту, туман. Карова назірала ў роспачы, як ён падкрадаецца да шафы…

«Я шчаслівая!»

...да ніжняй паліцы,

«Шчаслівая ж, ну!»

...вышэй, вышэй да яе капытоў,

«Шчаслівая».

...да ног, да бруха, да шыі, да галавы,

«Шчаслі…»

...туман забіўся ў горла, запоўз на лоб, падняўся да рагоў і праглынуў іх. Стала бязгучна, вусцішна. Хуткаплынная вільгаць кінулася ў вочы, гарачая, з пахам ялавічыны.

Туман лізаў глянцавую парцалянавую паліву, чапляў языкамі ўсё больш глыбокія і далікатныя слаі. Ён меўся злізаць з каровы ўсю яе зіхатлівую шкуру.

І бачыла карова човен на туманных хвалях. І сядзеў у чоўне чалавек з бліскучымі вачыма. Правіў ён ладна: падымаў і апускаў рытмічна вёслы, нахіляўся ўперад і адхіляўся назад. І закруціўся туман пругкімі спрутавымі шчупальцамі, і абвіўся вакол левага вясла, і выхапіў яго з рук чалавека. Той працягнуў свой шлях, пільна ўглядаючыся ў замутнёную прастору, сціскаючы адзінае цяпер вясло абедзвюма рукамі. І пачуўся стрэл – адлітая з туману куля прабіла човен. Чалавек пачаў грэбці хутчэй. І быў ён рашучы і моцны ў сваім жаданні працягваць шлях. І ўбачыла карова іншыя чаўны: вялікія і маленькія, драўляныя абсмаленыя і зялёныя гумовыя, і з нейкага тонкага металу, пафарбаваныя ў белы і блакітны. І людзі ў чаўнах плылі хто адзін, хто з кампаніяй. Хто з маторамі, хто з вёсламі, хто без нічога ўвогуле, назіраючы панура за плынню. Былі сляпыя, былі аднарукія, былі без ног, былі без галавы. Праплывалі чаўны, карова стаяла, загіпнатызаваная. Яна штосьці зразумела быццам. І туман знік, бы не было яго.

І ПАЧУЎСЯ СТРЭЛ – АДЛІТАЯ З ТУМАНУ КУЛЯ ПРАБІЛА ЧОВЕН. ЧАЛАВЕК ПАЧАЎ ГРЭБЦІ ХУТЧЭЙ.

**7**

«Я безумоўна стала больш моцнай, больш дасканалай, – казала яна кнігам. – Шарык спрыяе прапампоўцы маіх цягліц. Больш за тое, я няспынна развіваюся як асоба: расце мая сіла волі, моц духа і маштаб душы. Бачыце гэтыя шурпатыя плямы на спіне і баках? Так, мяне жор туман, але я не паддалася, і колькі бліскучай палівы яшчэ засталося на хвасце, і скронях, і нават рагах».

Яна салодка пасміхалася: калі б не шарык, дык яна была б звычайнай каровай з невыразнай парцаляны. Пражыла б жыццё шэрае, шараговае. Пра такое жыццё ніколі не напісалі б у сацсетках, не знялі б рэпартаж. Цяпер карова вылучаная і прывабная, бо пакутуе. Ёй дазволена больш за астатніх, звычайных, нецікавых. Пакута адціснула на яе шурпатай аснове новае памаранчавае кляймо – шчыт з прыгожымі вензелямі і чатырма літарамі ў два радкі, П і Х – у верхнім, Ы і А – у ніжнім.

І сніла карова надпіс, высечаны на смарагдавым камені: «махасіддх». Гэта значыць той, хто дацёпаў праз бруд і павуцінне да яркага святла і можа вучыць іншых. Усіх. Акрамя, можа быць, тых, у каго кляймо было на памер ці два большым. Але такіх карова бачыла да смешнага мала. Шчыра кажучы, нікога такога не бачыла.

**8**

Чарговы туман прыйшоў неспадзявана. Ён вывальваўся знутры, з парцалянавай галавы, з вушэй, з роту, з ноздраў, з вачэй, са слезатокаў, выліваўся доўгімі белымі стужкамі, якія марудна круціліся, лянотна запаўнялі сабою прастору. Карова адчула сябе цалкам разбітаю. Дысанансу яна не любіла. Фізічны стан павінен гарманіраваць са станам унутраным – яна асцярожна пачала пасоўвацца бліжэй да краю паліцы.

– Адзін крок, – мармытала карова. – Другі крок... трэцяга не будзе – ён захрасне ў паветры.

– Гэй! – закрычалі разам усе кнігі, усе суседнія статуэткі. – Не смей!

З суцэльнага гармідару вылучаліся асобныя галасы, моцныя, упэўненыя, бескампрамісныя.

– Ты сабе не належыш, дурная! – крычала бела-сіняя зайчыха з гжэлю.

– Ты пашкадуеш аб гэтым! – трымцела жоўтымі старонкамі кніга с лічбай III на карэньчыку.

– Ці ўпэўненая ты, што разбіццё чым-небудзь табе дапаможа? – скептычна запытвалася запыленая балотная чапля з доўгай тонкай шыяй і дадавала, манерна пацёпваючы крыламі: – Не разумее свайго шчасця! Такія не прыйдуць да тваёй кармушкі, о вялікая міласэрная царыца пярнатых і рагатых, птушка-Жар! Такія не распазнаюць выбрання, што прызначана ім на ўзнагароду!

Парцалянавая раз’юшылася:

– Ідзіце вы ўсе ў дупу!

Салодка падмігваў вочкамі ружаў паліняны брудны дыван. Але здранцвелі ногі, усе чатыры. Сэрца апусцілася кудысьці ўніз, да дыяфрагмы, скуголіла ціхенька, і гэты кволенькі голас запаўзаў у каровіна вуха, звінеў і ціўкаў словамі: «Нічога не доўжыцца вечна. Чакай, кароўка, трымайся. Калі-небудзь усё скончыцца. Усё пройдзе. Мінецца».

**9**

Іншы не значыць горшы, лепшы, дрэнны, добры, агідны ці жаданы.

Цяжка напоўніцу вызначыць слова, падбіраючы тыя, што не пасуюць яму ў сінонімы.

Між тым.

Іншы не значыць больш цяжкі. Не значыць больш лёгкі. Не значыць непрадказальны. Не значыць вядомы.

Іншы не значыць нічога. Іншы значыць усё.

Іншы – гэта адзінка, якая вылупліваецца з палатна абсалютнай пустотнасці, з бязмежнага патэнцыялу сусвету, з бясконцай верагоднасці ўзікнення новага існага.

Калі парцалянавая карова зразумела, што яна іншая, ёй стала лягчэй змагацца з туманам.

**10**

Яна глядзела ў цемру за акном і ўгрызалася ў думкі. Прэпаравала іх, хапаючы за пацучыныя хвасты, за вясёлкавыя крылы, за махнатыя павучыныя лапы, за джалы, за ласты, за грывы, за плаўнікі.

«З шарыкам на рагах нічога немагчыма дасягнуць». –

ПА ЎСІХ РЭФЕРЭНТНЫХ КАНАЛАХ З РАНКУ ДА ВЕЧАРА ТРАНСЛЮЮЦЬ АДНО І ТОЕ Ж: ГУК БОЛЮ, КОЛЕР І ФОРМУ БОЛЮ, ПАХ БОЛЮ, СМАК БОЛЮ І ДОТЫК ЯГО. НА ЎСІХ МАГЧЫМЫХ МАПАХ ШАРЫК ПАЗНАЧАНЫ ЯК СТРАШЭННАЕ НЯШЧАСЦЕ.

Карова ўпала на калені і заплакала, зарыдала голасна, закачалася на краі паліцы. Ведала: трэцяга кроку не будзе не таму, што ён захрасне ў паветры, але таму, што яна спыніць хаду і будзе чакаць. Столькі, колькі трэба. Бо яна аднекуль ведае, што мае рацыю ціхенькі няўпэўнены голас з-пад рэбраў. Нічога не доўжыцца вечна. Усе скончыцца. Калі-небудзь. Дакладна.

«На чым грунтуецца гэтая думка? З чаго рабілася выснова? Дзе эксперыментальная частка? Дзе статыстыка? Дзе доказы? Пры якіх абставінах гэтае сцвярджэнне можа быць ілжывым?»

«Жыць з шарыкам на рагах невыносна балюча». – «Безапеляцыйная думка, бо паходзіць з рэальных пачуццяў. Па ўсіх рэферэнтных каналах з ранку да вечара транслююць адно і тое ж: гук болю, колер і форму

болю, пах болю, смак болю і дотык яго. На ўсіх магчымых мапах шарык пазначаны як страшэннае няшчасце. Маю два выйсці: кінуць шарык альбо перамаляваць мапы. Першае немагчыма. Другое – цяжкі, энергаёмісты працэс: мушу перакалібраваць маштаб, памяняць месцамі тропікі рака і казярога, перайменаваць моры, перакроіць кантыненты».

– У старой мапе былі таксама мае мэты, планы, мары, – панура прамармытала карова.

– Ну дык перамер, пераплануй і перамар! – сурова грымнуў нехта ў яе галаве. Карова спрачацца не стала. Што рабіць з тымі вакол яе, чые мапы будуць па-ранейшаму пазначаць шарык страшэнным праклёнам, яна пытацца пабаялася.

«Заўсёды знойдуцца тыя, хто мне дапаможа». – «Гэта думка-парасон, думка-цёплы-плед, думка-50-грам-каньяку, думка-60-капляў-валяр'янкі-на-сталовую-лыжку-вады-з-пад-крана».

«Нічога не змяніць». – «Думка-вірус, асабліва небяспечнае абагульненне. Абстрактная ісціна, успрымаецца як непахісная праўда пра рэальнасць. Надзеленая таемнай сілай унутранай рэферэнцыі, бо калі нічога нельга змяніць, значыць нельга змяніць і гэтую думку. О, яна хітрая, вераломная, атручаная цалкам. Чаму табе яна больш даспадобы, чым думка «нават калі штосьці нельга змяніць, можна змяніць свае адносіны да гэтага» – каб вымыць мутнае шкло, праз якое ты глядзіш на свет? Што ты кажаш? Гэта наіўна? Смешна? Нерэалістычна? Ну тады... Сфармулюем хаця б так: «*амаль* нічога нельга змяніць», каб пакінуць хоць якую надзею».

Прымітыўнасць некаторых перакананняў, да якіх дадумвалася карова, бянтэжыла і засмучала. Яна бы канструявала сказы для буквара.

Мама мыла раму. Сэнс жыцця – быць шчаслівым. Толя знайшоў жука. Будуць шчаслівыя міласэрныя. Каця гуляе з лялькай Барбарай. Заўсёды ёсць выйсце. Карова і каза – свойскія жывёлы. Яны даюць малако.

Ад напружанага мыслення, ад шалёнай канцэнтрацыі парцалянавая не магла спаць. Яна адчувала, як смылела макушка галавы, як напіналіся да мяжы іх эластычнасці жылы на шыі, як храбусцелі й смылелі каленныя суставы. Яна ўсё думала і прасіла ўсемагутную Жар-птушку падарыць ёй крыху сілы, каб паспець скончыць гэтую працу. Да чарговага туману.

**11**

Не паспела. Ён прыйшоў. Ліпкі, як цукровая вата. І вусцішны. Бо навучыўся размаўляць.

– Ай, дурніца! Што ты робіш? Няўжо думаеш, што ўсё так лёгка?

Карова трымцела ад жаху, пот выступаў на рыжым з белай зорачкай ілбе, маленькія вострыя голкі калолі пысу. Туман абвіваўся вакол, залазіў белымі пальцамі ў цёмныя каровіны вочы, размыльваў абрысы прадметаў.

– Нічога табе не дапаможа. Рана ці позна я застануся з табою назаўсёды, мая любая. Пытанне часу, мая даражэнькая. А час на маім баку: ты старэеш, ноша цяжэе, жыццё каціцца-каціцца, як шарык для гольфу – хутка і ў лунку.

– Усё пройдзе, усё пройдзе, усё пройдзе, – шаптала карова.

– І мантры твае не дапамогуць. Раз, два, тры, развучваем новую: туман вечны, туман вечны, туман вечны, туман вечны, туман вечны, туман вечны...

– Туман вечны, – замармытала карова, бы ў трансе. – Туман вечны.

– Так-так, усё правільна, – згаджаўся з ёй туман. – Спі, мая даражэнькая, ты даўно не спала. Люлі-лю-лі, туман вечны, люлі-лю-лі, спрадвечны, лю-лі-лю-лі, на вякі.

І сніла парцалянавая сон: як стаіць яна на паліцы і ўкручвае галаву ў цукровую вату, старанна кладзе кожны

новы слой у нахлёст, каб трымалася больш надзейна, каб не заставалася ані шчылінкі для ноздраў, ані прасвету для вачэй. «Што ж гэта я раблю?» Карова выкаціла вочы, агаломшаная, не даючы веры такому глупству: «Навошта ж я сама?»

Раптам яна ўзрадавалася і заскакала: «Я сама! Я сама! Я сама!» І ад скокаў сваіх прачнулася. Туману побач не было. Карова скасіла вочы на свой лоб і прамармытала: «Я ведаю, што ты там. Ты хітры і разумны. Але я сапраўдная, а ты толькі прывід, маё трызненне, мой морак».

– Думкі і пачуцці нельга аддзяляць ад розуму, які іх спарадзіў. Гэта проста смешна – даведвацца пра гэта ў трыццаць гадоў, – пачула карова з верхняй паліцы. Смяялася статуэтка тоўсценькага мужчынкі з доўгімі вушамі і недарэчнай гулькай на галаве. Ён сядзеў, захутаны ў прасціну, скруціўшы неймаверна ногі, і хістаўся ціхенька ўправа і лева.

– На сябе паглядзі, – адказала карова і паказала язык.

**12**

– Сканцэнтруйся. З'яднайся са мною. Уяві, што мы адно. Я змагу перацякаць да цябе, кавалачак за кавалачкам: будзеш мець досыць чысцюткіх шматочкаў паперы ля сваіх капытоў.

Карова слухала ўважліва і цярпліва.

«Лухта, якая лухта», – разважала яна маўкліва і з сумам глядзела на гэты немагчыма белы, сляпучы прастакутнік.

Яна заплюшчыла вочы, глыбока ўздыхнула, крыху патрэсла галавою – шкляны шарык стукнуўся спачатку ў правы, а потым у левы рог, прагучаў квінтай.

«Халера, чаму я бачу вакол толькі пустэчу, халодны ржавы пясок з дробнымі вострымі каменьчыкамі? Тут нічога не расце, няма ні каліва вады. Я на дне каньёна, чарназубай прорвы. Трэба прыдумаць, як выбрацца. Уся паверхня пратаптаная сцяжынкамі. Яны заблытаныя і выглядаюць аднолькава. Куды падзеліся тыя, хто іх пратаптаў? Ці падняліся з гэтай бездані? Мо захраслі тут, недалёка, засыпалі сябе пяском і паміраюць, цяжка дыхаючы? Хаця б пабачыць зрэзаныя па краі сцены гэтай прорвы. Так буду ведаць, што яна не бясконцая. Але для гэтага трэба дайсці да мяжы».

Карова расплюшчыла вочы, пракаўтнула сліну, пакасілася на аркуш, агледзела пакой – нічога не змянілася. «Штосьці не тое я раблю, штосьці мяне турбуе», – засмуцілася яна.

– Сэнсу з таго, што ты будзеш ля мяне, калі ў мяне на рагах шарык! – звярнулася нарэшце да аркуша.

– Слухай, карова, ты толькі не крыўдуй. Але хто табе сказаў, што яго абавязкова трымаць на рагах?

***

Праз нейкі час карова пачала маляваць на кавалачках паперы мандалы, запісваць вершы, разважанні, майстраваць недарэчныя самалёцікі і асіметрычныя караблікі. Шарык гайдаўся на рагах у спецыяльна сканструяваным гамаку.

– Ты гераіня, кароўка, – у захапленні казалі статуэткі.

«Як можна лічыць героем таго, хто хоча стаць шчаслівым і штосьці дзеля гэтага робіць? – думала карова. – Ён усяго толькі ментальна здаровы. Да таго ж героі не маюць страху, а я пакуль што баюся (заўсёды буду баяцца?!) свайго мокрага скажонага твару ў люстэрках як сігналу набліжэння да экстрэмуму маёй безвыходнасці».

# АНДРЕЙ ДИЧЕНКО

## ТРИДЦАТЬ ОБОРОТОВ ВОКРУГ ЗВЕЗДЫ

Много мыслей. Скачут они, как вспышки звезд в галактике за мгновение до столкновения с пустошью черных дыр, озаряют, как молнии в разгар весенней грозы. Особенно если застанет она в темном лесу, где за жесткой щетиной сосен не разглядеть тропинки. С чего начать разговор об этом? Какие слова подобрать, чтобы выразить все? Начать с причины? А причины-то и нет.

Понять, что толкает людей на самоубийство, очень просто. Очевидно. Это сравнение с удушьем, когда петля из сплетения жестких веревок давит на шею, а страх замещается сладким ощущением разливающегося по телу тепла. Темнеет в глазах. Слабеют руки, не слушаются. Пальцы, словно отлитые из металла, не сгибаются. Кровь – это горячий металл. Он поднимается все выше и выше.

Простите, не хотел так сразу. Думал, к этой теме подведу элегантно. Как вчерашнего царя к смазанной жирным маслом гильотине. Ничего элегантного в трупах нет. В царских трупах тоже ничего нет, кроме, разве что, неопределенности. Будущего. После царской казни у будущего есть неопределенность. После рядовой – ничего нет. К примеру, кошка. Пушистая, урчащая. Подшерсток толстый. На ощупь – как внутренняя сторона одеяла (которой на тело). Шерсть сбита в колтуны (не расчешешь). Теплая кошка. На коленях сидит, прикасаешься к ней – приятно становится. А мертвая кошка? Дурно пахнущая грязь. Колтуны холодные. Как то самое одеяло. Мокрое одеяло так просто не просушишь. Потроха. Целостность изделия нарушена. Изделие не нужно. Но что ей до этого, животному? Они все дохнут. Не ведают про... Сами ведь под машины лезут, оставляя следы на раскаленном асфальте. Не самоубийство. Так вот, вернулись к теме.

Причины для самоубийства. Много мыслей перед единичным мгновением. Попробуй собери такие в единый ком. Не так. Ком есть. Разбери попробуй ком на фрагменты. Разрежь на части, как пирожок. От центра ножичком по сдобе – и на треугольнички. Один за маму, второй за папу.

Нужда, наверное? Еще стыд. Такой стыд, когда хочется залезть в кипяток. Вытерпеть хотя бы пару секунд состояние, когда лупят прямой наводкой из огнеметов. А потом грубой мочалкой с металлическими вкраплениями для очистки от ржавчины сдирать кожу, похожую на мокрую

туалетную бумагу. Чтобы отлетала кусками. Больно. В петлю как-то проще. Распечатать инструкцию. Изучить инструкцию. Или иной способ. Хватает таких. Таблетки... Пахнет не аптекой, а женщиной... Не валерьянкой, тальком и какой-то мазью, а духами.

СТРЕЛЯТЬСЯ НЕЧЕМ. СТВОЛЫ ХОЛОДНЫЕ, ДУЛО ЧЕРНОЕ, КАК ДНО ГЛУБОКОГО КОЛОДЦА В СТЕПИ, ПОРОСШЕЙ ЖЕСТКИМИ ТРАВАМИ. РУКОЯТКА МОКРАЯ ОТ ПОТА. ОТДАЧА, И РУКА СОСКОЛЬЗНЕТ. ОРУЖИЕ НА ОЩУПЬ ХОЛОДНОЕ. ПОРЕЗЫ – СЛИШКОМ СЛОЖНО.

Нужда и стыд. Не мой случай. Мне 30 лет. Вячеслав. Отлично, теперь мы знакомы. С виду и не скажешь, что монстр... Впрочем, это уже разговор о причинах. А мы только что познакомились. Вячеслав, 30 лет. Люблю пиджаки. Волосы русые, глаза голубые. Хоть сейчас отправляй играть в массовке немецких солдат. Раз познакомились, то можем поболтать. Расскажу о себе.

Сижу за деревянным столом. Качаюсь на стуле. Стол сделал сам из толстого куска фанеры, как только переехал в однокомнатную квартиру – повезло построить. Казалось, будто только вчера сюда зашел, а тут запах воды из ведра, куда окунают половую тряпку. Влажная пылевая взвесь на стенах. Пахнет, как в дождливый сырой день на стройке.

Все не совсем было честно. А кто честный? Всегда представляюсь честным человеком. Верят. Но сам не честный. А больше мне и похвастаться особо нечем. И если даже это ложь, то что уж говорить о других... качествах? Да, качествах.

За спиной скрипучая кровать, на которой очень удобно (исключительно мне). Две металлические балки, а между ними грубая сетка. Такие наверняка используют для тюремного заграждения. Или при постройке загонов для диких животных. Все, кто спали со мной, жаловались, что после нее болит спина и вообще – спать на такой кровати шумно и неудобно. Повернешься на другой бок – скрип такой, как будто кто-то открыл десантный люк у списанного танка. Мне неудобно спать лишь в тех случаях, когда кто-то лежит рядом. Места на кровати настолько мало, что невозможно лежать и не прижиматься друг к другу. А когда рядом человек, уснуть сложно. Одному порой тоже не проще. Бывает, бессонница злит настолько, что бьешь себя кулаком по голове. Злишься на то, что не можешь построить диалог с собственным организмом. Сам себя не ударишь так сильно, чтобы до вздутых кровоподтеков и хорошо заметных уродливых увечий. Организм – странная конструкция. Два простых обмана его – презервативы и самоубийство. Опять мы про эту тему! Последнее – пиррова победа ума над телом. Отвратительная беседа. Кому интересно обсуждать самоубийство? За исключением тех, кто думает о нем, никому не интересно.

Как говорят французы, вернемся к нашим баранам. Меня зовут Слава. Мне 30 лет. Смотрю в зеркало. Кожа бледная. Сам внушаю, что это все от нежелания загорать и гулять в светлое время суток. И сложилась такая ситуация... Когда постоянная дезориентация вымотала до предела. Жить не хочется. Случайная смерть минует стороной. Смерти по естественным причинам ждать мочи нет. Странная формулировка, за которой совсем ничего непонятно. Не кроется вот что-то, что можно руками потрогать. Сугубо теория. Даже мне ничего непонятно, и теорию всякую ненавижу. Математику

ненавижу. Физику тоже. Там одни теории и абстракции. Но надо ведь будет объясниться! Оставить, так сказать, последнее послание. Три предложения. Или два. Чтобы вот наверняка пришли, нашли, прочитали. И ни у кого никаких вопросов. А то ведь начнутся допросы, расспросы. Домыслы всякие. Фантазии.

«Извините, просто все это так надоело! Просто жить не хочется. И интерес есть, что там, на том свете!»

Совсем не то. Вранье. Нет никакого интереса. А что до интереса... Так его, наверное, ни у кого нет. По этому вопросу. У детей, может. Но глядя на маленьких таких, почти что игрушечных малюток с бархатной кожей, можно ли сказать, что они о смерти думают? Играются, гулят. Иногда злятся, не источая проклятий. Но не думают они о смерти. Роботы, кубики, пирамиды из песка. Фараоны песочниц познают мир, тут не до встречи с пустотой. Взрослые интересы. Мои? Разве что к толстым книгам, переплеты которых так стары, что сыплются и покрыты налетом поглощающей свет желтизны. А еще к картинам. От них запах в квартире становится тяжелым. Так пахнут ткацкие станки и типографии. Так пахнет краска, разбавленная чем-то едким.

Посмотрел на холст, а там рукотворный портал в иные миры из сочетания самых невероятных красок. Мазки, как сложная мозаика, образуют коридор, по которому осторожно можно пробраться в самые потаенные уголки разума, уже давно не принадлежащего человеку. Стадия восхищения уродится такой, что не надо никому ничего объяснять. Просто смотришь – и все. «Жить не хочется»… Жить, жить, жить, жить, черт возьми! Так это ведь чистая правда. Прочитают об этом да и подумают, что дурак набитый писал, что двух цифр в столбик сложить не может. А ведь не дурак. В иные времена так считали некоторые. Ложь, получается, в записке выходит. Скомканный клочок плотной бумаги, да и тот врет. Значит, не то. Если уж вся жизнь – нагромождение лжи, то пусть хотя бы записка останется фрагментом истинного положения дел на этом отрезке ленты времени. Сохранит ли кто ее? Или уничтожит со всей увесистой папкой моего личного дела? Итог жизни – толстая папка и ворох бумаг с загнутыми углами.

«Никакой посадки на светлую сторону бытия никогда не было. Ни к человеку в гости, ни к жизни на исповедь».

Выходит лаконично, но снова ложь. Ощущение глобальной теплоты, исходящей из источника кровеносной системы, было. А затем стыд. Снова к стыду приходим, значит, в этом измышлении уже что-то есть. Кроме него? Чувство вины. И снова стыд. Как будто игра в шашки в двухмерном пространстве. Стыд. Вина. Стыд. Вина. Вина съела стыд. Стыд уступил вине.

Обратимся к истории эмоциональной стороны вопросы. Впервые задумался о спектре восприятия стороннего человека, когда мне было шестнадцать. То есть сторонние все. Но мысли посещали в отношении одного конкретного. Наверное, все так начинают думать примерно в этом возрасте. Ради исключения назовем имя, потому что трупам все равно. Звали Даша, летом ей исполнилось пятнадцать. Невысокого роста. Худобу скрывала за тканью просторных самодельных платьев. Грамотно писать не умела, поэтому предпочитала разговоры. Мораль понимала как-то посвоему, поэтому целовала всех, кого считала притягательными и созвучными ее внутреннему ритму. Меня в круговороты оборванных мыслей впустила. Еще человек пять. Потом ее изнасиловали трое взрослых парней. Она их назвала «молодые мужчины». Отличие одно – у тех уже были животы, а парни должны быть худенькими. Как я в шест-

Такім чынам пляны на гадаваньне сына былі зруйнаваныя ўшчэнт.

Місіс Дуг на працягу года не магла ачуняць ад шоку, што дзіцёнак зусім не такі, як чакалася, і паступова, крок за крокам, пад віно яна пераканала мужа, што гэта ня іхны сын. Іхнае дзіця недзе ў іншай сям'і, а гэтага ім падсунулі ў радзільні, пераблыталі. Вось і ўсё.

Містэр Дуг моцна кахаў жонку, бо яна была прыгожая і эмацыйная, а ён мяккі і бязвольны, яму трэба было абіраць: жонка альбо сын. І ён падумаў, што яны з жонкай яшчэ пасьпеюць нарадзіць новых дзяцей, а гэтага… Яны так і не далі яму імя, толькі Крэвэткай і абзывалі, але нянька клікала яго «Мося».

Трэба было вырашаць. Што рабіць, яны ня ведалі, але аднойчы місіс Дуг пайшла з вазочкам на шпацыр, прайсьціся праз парк да ўзьбярэжжа, пагуляць і падыхаць сьвежым паветрам. Яна паклала ў вазок хлопчыка-крэвэтку, дала яму ў цупкія рукі яго ўлюбёную цацку – плюшавага зайку…

А празь дзьве гадзіны на пляжы яна ў гістэрыцы крычала ў вуха паліцэйскаму, што вось тут, вось на гэтым самым месцы яна літаральна на пару сэкундаў адцягнула ўвагу, каб вытрасьці з туфліка мулкі каменьчык і адказаць на тэрміновае паведамленьне, а як павярнулася – вазок пусты! Скралі цыгане, няйначай, паглядзіце, містэр паліцэйскі, колькі іх тут, бадзягаў, навокал.

Місіс Дуг заломвала рукі й вельмі натуральна плакала, бо гэта ўсё-такі яе сын.

**3**

Наш хлопчык-крэвэтка Мося, кінуты дарагой матуляй у мора, быў аточаны цікаўнымі альбатросамі, якія вырашылі, што ў сьвеце і так шмат несправядлівасьці, і трымалі яго на паверхні, і той гайдаўся на хвалях амаль цэлы дзень, сплываючы ўсё далей, пакуль на яго куляй не прызямліўся пэлікан і, ухапіўшы доўгай дзюбай, не запіхнуў разам з плюшавым зайцам у свой гарлавы мяшок.

Пэлікан разгарнуў велізарныя крылы, падняўся высока над вадою і паляцеў як найхутчэй у бок скалаў і лесу. Пэлікан згаладаўся.

ВЯЛІКАЯ ПТУШКА ДОБРА
ЛАВІЛА ПАВЕТРА, ПЛАЎНА
І ПРЫГОЖА ЛЯЦЕЛА
НЕКАТОРЫ ЧАС, ПАКУЛЬ
НЕ ПАЧАЛА СУТАРГАВА
БІЦЬ КРЫЛАМІ ДЫ РЭЗКА
ГУБЛЯЦЬ ВЫШЫНЮ.
І НАРЭШЦЕ ПРАЗ
ХВІЛІНУ БАРАЦЬБЫ
ЗЬ БЯЗВАЖКАСЬЦЮ
ЯНА ШЛЁПНУЛАСЯ АБ
ЗЯМЛЮ КАЛЯ СКАЛЫ.

Было відаць, што вялікая птушка ня можа нармальна дыхаць.

Як толькі пэлікан зваліўся, зь ягонай дзюбы выскачыў спачатку плюшавы заяц, а за ім хлопчык.

Пэлікан падняўся, пакруціў галавой, пахлопаў крыламі па зямлі ды, зрабіўшы колькі глыбокіх удыхаў, падскочыў да хлопчыка і, разявіўшы пашчу перад тварам дзіцяці, ужо зьбіраўся праглынуць гэтую вялікую ружовую крэвэтку, аднак птах чагосьці спужаўся, а праз момант яму нехта моцна даў па галаве, і, вылупіўшы вочы, пэлікан даў драпака ў неба, клацнуўшы ў паветры вострай дзюбай ды зачапіўшы руку і шчаку малога.

Пасьля гэтага здарэньня, спробы двайнога забойства і цудоўнага выратаваньня, Хлопчык-Крэвэтка пачаў жыць каля скалаў і лесу, а на руцэ і шчацэ засталіся вялікія шнары, памятка ад пэлікана.

У першы ж дзень плюшавы заяц адшукаў недалёка пячору, акуратна абвязаў пялюшкай рану на руцэ

хлопчыка, памыў замызганы сьлязьмі, соплямі, зямлёй і крывёю твар і завёў у спакойнае цёмнае месца, а сам выправіўся на выведку і пошук ежы ды чагосьці цёплага для начнога сну свайму найлепшаму сябру і брату.

**4**

Бастурма! Пахлава! Смажаныя коржыкі, печаныя пончыкі, кока-кола, піва, вада, цыгарэты, капелюшы, панамы, салодкая кукуруза, вараныя ракі, салёныя карпы! Халоднае марозіва, гарачая чакаляда! Накідкі, ручнікі, пляжныя шорты, шлапакі, крэмы для і супраць загару, фенечкі ды акуляры ад сонца, парасоны! Самаробны алькаголь! – пляжныя гандляры заклікалі з усіх бакоў, некаторыя нават прапаноўвалі арэнду кватэры амаль дарма, афармленьне мэдычнай страхоўкі на месцы і новыя пашпарты грамадзяніна ўзьбярэжжа, але пра апошнюю прапанову – ціха, нікому ні слова.

На пляжы сапраўды было ўсё, што заманецца.

Сярод пяску, расьпечаных камянёў, цёплага, як нагрэтае малако, мора, безьлічы недапалкаў, пустых пляшак і шалёнай колькасьці пакетаў і слоічкаў з-пад крэмаў, нібыта цюлені, тут і там ляжалі людзі. Усе лавілі промні сонца, імкнуліся назапасіць як мага больш, каб потым завезьці дадому і яшчэ месяц зьзяць у сваім шэрым горадзе.

Хлопчык-Крэвэтка, падрослы, дужэйшы, маленькі драпежнік, які добра ведаў мову ад гандляроў і колькі замежных словаў ад турыстаў, спрытна і лёгка манэўраваў сярод сонечных парасонаў, падбіраў, што кепска ляжала, пад’ядаў недаедкі. Удзень ён быў на пляжы, уначы ў сваёй пячоры, прыносіў усё, што знайшоў пад сонцам, раскладаў перад плюшавым зайцам, які ляжаў на падушцы і штораз у аднолькава весела сустракаў свайго сябра.

Сёньня Крэвэтка ўпаляваў наступнае: адзін чабурэк, акурат на вечар, пяць недапітых бутэлек колы, адна бляшанка піва, фенечка з сэрцайкамі ды сонечныя акуляры. Ня так і шмат, але, як на малога хлопца, які сустракае сёмае лета дзікуном, і тое добра!

Марское сонца хутка сядае за гарызонт, здаецца, вось яно на небасхіле, пячэ сьпіны турыстаў, а праз імгненьне трэба класьціся. Калі цалкам сьцямнела, хлопчык запаліў сьвечку, зьеў чабурэк і дапіў рэшткі з пляшак колы, пагладзіў сябе па жываце, гучна адрыгнуў і, залезшы пад плед да зайца, які за столькі гадоў ператварыўся зь белага ў амаль чорнага, абняў яго і дастаў патрапаную кнігу коміксаў – пасьля цяжкага дня, перад сном, гэта было тое, што трэба.

**5**

Пляжныя гандляры ўжо даўно прызвычаіліся назіраць за дзікім хлопчыкам, які па-майстэрску краў кепска пакладзеныя рэчы. Часта здаралася, што некаторыя зь іх, назіраючы за малым, рабілі стаўкі, ці ўдасца яму забраць тую пакінутую кніжку альбо майку непрыкметна, ці за ім хто пагоніцца…

НІХТО ЗЬ МЯСЦОВЫХ
НЯ ВЕДАЎ, АДКУЛЬ
ХЛОПЕЦ, ДЗЕ ЖЫВЕ,
АЛЕ І МОЦНА НЕ ЦІКАВІЎСЯ,
БО КОЖНЫ ЗЬ ІХ,
ТЫХ САМЫХ ГАНДЛЯРОЎ
УСІМ НА СЬВЕЦЕ, САМ
МЕЎ МІНУЛАЕ, ЯКОЕ
ВАРТА БЫЛО ТРЫМАЦЬ
У САКРЭЦЕ: ХТОСЬЦІ
ПРЫЕХАЎ НЕЛЕГАЛЬНА
ЗЬ ІНШАЙ КРАІНЫ, А ХТО
ЗРАБІЎСЯ БАДЗЯГАМ
ПРАЗ АБСТАВІНЫ, І ЧАСТА
СТРАШНЫЯ – АЛЬКАГОЛЬ,
МАХЛЯРСТВА, БАНКРУЦТВА.

Шнары на шчацэ Хлопчыка-Крэвэткі загаіліся няроўна, ён і так быў непрыгожы, але праз шнары глядзець на яго без шкадаваньня было немагчыма.

**6**

Першым на пляжы Крэвэтку злавіў за руку Дамінік, васьмігадовы хлапчук. Крэвэтка думаў, што хлопец заснуў ад сьпёкі і ня бачыць, і акуратна пачаў адкопваць зь пяску плястмасавы грузавік, як раптам Дамінік адным рухам ухапіў яго за нагу і паваліў.

Хлопчык-Крэвэтка маўчаў, яму хацелася закрычаць, але гэтага нельга было рабіць.

«Усё, напэўна, мяне заб'юць на месцы!» – падумаў Крэвэтка і заплюшчыў вочы, каб ня бачыць, як гэты вялікі хлопец пачне яго біць, але Дамінік падняўся на ногі ды цікаўна аглядаў Крэвэтку: доўгія валасы, але не дзяўчынка, завялікія шорты, шмат фенечак на руках, страшныя шнары… Крэвэтка на гарачым пяску выглядаў як цыганя.

Дамінік пачаў штосьці прамаўляць на незнаёмай мове і працягнуў у руцэ грузавічок… Крэвэтка падняўся, неахвотна і падазрона ўзяў цацку, пастаяў пару імгненьняў, разглядаючы хлопца, які гутарыў зь ім на незнаёмай мове, але праз слова паказваў на сябе і казаў: «Dominik».

І Крэвэтка падрапаў з пляжу… Ён бег, як заяц, мяняючы кірункі, пераскокваючы празь людзей, збочваючы на паваротах гэтак, як вучыў яго ў дзяцінстве плюшавы зайка. Крэвэтка хаваў сьляды, толькі гандляры шавэрмай і кока-колай сьмяяліся яму наўздагон, бо гэта быў першы раз, калі тагосамага-брыдкага-пацана-з-шнарамі злавілі за руку падчас крадзяжу.

**7**

Хлопчык-Крэвэтка схаваўся ў сваёй пячоры да наступнага дня, ён гуляўся з грузавічком і думаў, што гэты хлопец, які яго падлавіў, цікавы яму, і ён першы, хто яго не пужаў і выклікаў жывы інтарэс.

З такімі разважаньнямі наступнай раніцай Крэвэтка выйшаў на пляж з адзінай мэтай: адшукаць Дамініка.

Паблукаўшы да абеду, ён так яго і не сустрэў, знайшоў толькі забытыя акуляры і крэм для загару… У абед большасьць турыстаў сышла на сіесту, а рэштка схавалася пад парасонамі ў цень, бо ад паўдзённага сонца добрага ніхто не чакае.

КРЭВЭТКА, НЫРЦАНУЎШЫ ПАРУ РАЗОЎ У МОРА, АСТУДЗІЎСЯ І ЦЯПЕР СЯДЗЕЎ КАЛЯ ЛАТКА З МАРОЗІВАМ, МАРАЧЫ, КАБ ХТОСЬЦІ З МАЛЫХ ДЗЕТАК, ЯКІМ НАБЫВАЛІ МАРОЗІВА, УПУСЬЦІЎ БЫ ХАЛОДНУЮ СМАКАТУ, І ЯНА ДАСТАЛАСЯ Б ЯМУ.

Так ён сядзеў, гіпнатызаваў пакупнікоў, калі раптам хтосьці дакрануўся да пляча.

Хлопчык-Крэвэтка схамянуўся, спужана ўссунуўся на латок з марозівам і пабачыў Дамініка.

Дамінік усьміхаўся і працягваў руку. Хлопец не разумеў… Тады Дамінік узяў руку Крэвэткі і, прывітаўшы яго, пацягнуў да вады.

Дамінікавы бацькі былі ня супраць. Яны лічылі, што ўсе дзеці павінны вучыцца камунікацыі, лёгка разумецца адно з адным, знаёміцца і не баяцца, бо ў час іхнага дзяцінства ўсё спрэс было забаронена. Ня гутарыць, не скакаць, ня бегаць, ня есьці салодкага, нічога нельга было. Яны шчыра зычылі ўласнаму сыну сустракаць у жыцьці як найменш забаронаў.

Дамінік разам з Крэвэткам пагайдаліся на хвалях і селі будаваць замкі на мокрым пяску.

Гадзіны ляцелі хутка, было шмат сьмеху, сонца, шчырага захапленьня кожным момантам. Хлопчык ніколі дагэтуль ня ведаў, што можна так цудоўна бавіць дзень з кімсьці, акрамя зайца. Ён ня думаў пра ежу, бо Дамінікаў тата бязь лішніх пытаньняў набыў кожнаму салодкую кукурузу і сок у пляжных гандляроў, а на дэсэрт яны атрымалі марозіва… А потым да самага заходу сонца Дамінік паказваў гульні на пальцах, і гэта было штосьці надзвычайнае.

Спачатку хлопцы гулялі ў каменьнажніцы-паперу… Крэвэтка доўга імкнуўся зразумець зь незнаёмай мовы, што да чаго. Потым яны гуляліся ў «Зламі вялікі палец рукі» – гэта было сьмешна, бо нельга было дапамагаць і нічым варушыць, акрамя аднаго вялікага пальца рукі. Потым, калі цямнела, Дамінік паказваў Крэвэтку розных зьвяроў рукамі пад сьвятлом ліхтара: вось цень ператварыўся ў птушку, а вось і воўк, і лось, і заяц…

Хлопчык-Крэвэтка быў на вяршыні шчасьця, ён ачмурэў ад гульняў і Дамініка і няспынна рагатаў, ён паводзіўся як дзікі зьвярок. Спачатку Дамінік і ягоныя бацькі пасьмейваліся, але калі «ня-вельмі-прыгожы-хлопчык-з-шнарамі-і-падобны-да-крэвэткі» моцна ляснуў Дамініка і ў яго пайшла з носа кроў, усё зьмянілася.

Хвіліну таму было ў Крэвэткі шчасьце праз край, а цяпер крыкі, плач, лямант… Крэвэтка падхапіўся і пабег куды падалей.

**8**

Дамінік не паказваўся на пляжы два дні.

Гэтыя два дні былі самыя сумныя для Крэвэткі. Ад раніцы да вечара хлопчык толькі і рабіў, што хадзіў і прыглядаўся да людзей на пляжы. Ён не паляваў на рэчы, не хацеў нічога ўхапіць, нават не падбіраў забытых каляровых цікавостак… Гандляры тужліва выкрыквалі свае заклікі: «Пахлава… салодкая пахлаваааааа», «Кола, піва, вада – прыўкрасныя, як мора». Усім, хто назіраў за жыцьцём непрыгожага хлопчыка, было ніякавата, бо трэба было ратаваць дзіцёнка, інакш ён праз самоту можа зусім схуднець і распусьціцца ў моры. Такое часта здараецца з сумнымі людзьмі – яны ідуць купацца і распускаюцца ў вадзе, бо вада вельмі лёгка паглынае смутак і змрочныя думкі.

На трэці ранак Хлопчык-Крэвэтка ўзяў з сабой на пляж зайца, каб было ня гэтак тужліва… Учора хтосьці з гандляроў даў яму проста так саламяны брыль і лаваш зь мясам і сказаў, што ягоны сябра, напэўна, зьехаў дадому. Куды зьехаў і навошта было ехаць, Крэвэтка не разумеў… Ён сядзеў на камяні, да якога ледзь дацягваліся марскія хвалі, і назіраў, як ягоны заяц, каб было весялей, скача вакол уласнага хвосьціка.

Хлопец ужо зьмірыўся, што найлепшы сябра зьехаў, і неахвотна, але паволі ўсьміхаўся зайку, як раптам ён пачуў знаёмы голас і ўбачыў Дамініка.

Той ішоў разам з чатырма хлопчыкамі, яны сьмяяліся і пасавалі адзін аднаму белы футбольны мяч.

Хлопчык-Крэвэтка саскочыў з каменя, забыўшыся на зайца, і пабег, выкрыкваючы імя сябра: «Дамінік! Дамінік! Дамінік!» Крэвэтка бег, абмінаючы нагрэтыя сонцам целы, і радаваўся, як самы мілы сямігадовы хлопчык, ніхто б у гэты момант ня змог бы з агідай, як некалі ягоная маці місіс Дуг, сказаць, што ён падобны да брыдкай ружовай крэвэткі.

Калі хлопчык падбег да кампаніі зь мячом, Дамінік не працягнуў руку, а толькі прамовіў штосьці на сваёй мове, што гучала варожа і непрыемна, і адвярнуўся, далей распавядаючы штосьці рабятам. Толькі калі Дамінік павярнуў твар да сонца, Крэвэтка заўважыў пабіты нос, гузакі пад вачыма і апухлую шчаку.

Крэвэтка зьнерухомеў, зірнуў на сваю руку, якой ударыў (навошта ён увогуле ўдарыў?), заўважыў, якая яна ў яго: брудныя доўгія пазногці, шнары…

Увесь дзень хлопцы гулялі ў футбол, а Крэвэтку выпала толькі глядзець і бегаць за мячом, прыносіць яго, калі той далёка вылятаў, але і гэтага яму было дастаткова, каб весяліцца. Ён зноў забыўся на тугу і весела сьмяяўся, нібыта злавіў у паветры сьмяшынку. Ён бегаў па мяч і бегаў, сьмяяўся і сьмяяўся, і ня мог стрымацца. На яго ўжо пачалі абарочвацца і падазрона глядзець адпачынкоўцы. Было адчуваньне, што хлопчыку кепска, а зусім ня весела… І малы проста ня можа спыніцца, бегае і крычыць у гістэрыцы. Можа быць, гэта сонечны ўдар?

Так, напэўна, Крэвэтка і рагатаў бы, пакуль ня лопнуў, ён ужо нічога ня бачыў і не разумеў, калі раптам усьвядоміў, што яго за плечы трасе зайка, а на пляжы нікога, толькі пара самотнікаў з сабакамі бегаюць непадалёк, і ўжо зусім цёмна.

**9**

Заяц ня ведаў, што рабіць з хлопчыкам. Ён выгадаваў яго, як умеў, старанна карміў, апранаў, даглядаў. Рупіўся, каб ён яшчэ зусім малы вывучыў чалавечую мову, таму прынёс аднойчы ў пячору вялікую кнігу казак, якая зрабілася для Крэвэткі цэлым сусьветам на некалькі гадоў, зайку даводзілася наўмысна выкідаць хлопчыка зь пячоры на пляж, каб той мыўся і адаптаваўся да грамадзтва… Так пакрысе Хлопчык-Крэвэтка навучыўся гутарыць, трохі дачыняцца, яму спадабалася, як той сароцы, падбіраць усё бліскучае і каляровае, і гэтак ён гадаваўся. Але каб навучыцца культуры ўзаемаадносінаў, пра такое ні заяц, ні Крэвэтка ня ведалі, таму на працягу тыдня адбывалася адно і тое: Дамінік адмаўляўся браць Крэвэтку ў кампанію, і той, назіраючы за астатнімі, пачынаў дурэць, рагатаць і шалець, паводзіўся абсалютна як вар'ят. Сам таго не ўсьведамляючы, ён імкнуўся зьвярнуць на сябе ўвагу.

ТАК ПАКРЫСЕ ХЛОПЧЫК-КРЭВЭТКА НАВУЧЫЎСЯ ГУТАРЫЦЬ, ТРОХІ ДАЧЫНЯЦЦА, ЯМУ СПАДАБАЛАСЯ, ЯК ТОЙ САРОЦЫ, ПАДБІРАЦЬ УСЁ БЛІСКУЧАЕ І КАЛЯРОВАЕ, І ГЭТАК ЁН ГАДАВАЎСЯ.

Пляж штодня радзеў, усё менш людзей прыходзілі лавіць сонца, якое ўжо ня так цёпла грэла.

І гандляроў паменела, зьніклі салодкая кукуруза і малочнае марозіва… Зьніклі гандляры капелюшамі ды фенечкамі, нават кебаб, бастурма і катлеты больш не выкрыквалі сваіх прапановаў. На пляжы засталіся толькі кола, вада, піва і адзеньне на ўсе выпадкі жыцьця.

Хлопцаў з кампаніі Дамініка станавілася з кожным днём усё менш, пакуль на чатырнаццаты дзень і сам Дамінік ня выправіўся ў сваю краіну, загарэлы, моцны і здаровы хлопец, якога дужа любяць бацькі.

**10**

Хлопчык-Крэвэтка моцна сумаваў па страчаным сябры, раней ён ня ведаў такіх пачуцьцяў, але яму не хацелася есьці, спаць, гуляцца таксама не хацелася… Надыходзілі халодныя месяцы, і ён упершыню не рыхтаваўся да іх, не шукаў вопратку, не назапашваў ежу. Усё рабіў зайка, якому ня так і проста даваліся некаторыя рэчы.

Крэвэтка цяпер гадзінамі заставаўся на пляжы, ён не сьпяшаўся ў пячору нават уначы, больш не хаваўся ў лесе і не цікавіўся турыстамі. Ён чакаў

КРЭВЭТКА ЦЯПЕР ГАДЗІНАМІ ЗАСТАВАЎСЯ НА ПЛЯЖЫ, ЁН НЕ СЬПЯШАЎСЯ Ў ПЯЧОРУ НАВАТ УНАЧЫ, БОЛЬШ НЕ ХАВАЎСЯ Ў ЛЕСЕ І НЕ ЦІКАВІЎСЯ ТУРЫСТАМІ. ЁН ЧАКАЎ І СПАДЗЯВАЎСЯ, ШТО МО КАЛІ-НЕБУДЗЬ, НА НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ АЛЬБО ПРАЗЬ НЕКАЛЬКІ НАЧЭЙ, ВЕРНЕЦЦА ДАМІНІК

і спадзяваўся, што мо калі-небудзь, на наступны дзень альбо празь некалькі начэй, вернецца Дамінік, а да гэтага часу хлопчык вывучыць дасканала ўсе гульні на пальцах, якія яму паказаў сябра, прыдумае яшчэ больш жывёлінаў і стварэньняў, якія можна паказваць рукамі, а можа і нагамі!

Так, Хлопчык-Крэвэтка сядзеў на камяні, паказваючы зайку рукамі мудрагелістыя фігуры, якіх той не разумеў, і не заўважыў, што каля яго нехта спыніўся.

– Хлопчык, а дзе ты ўзяў такую цацку? Гэты зайка вельмі падобны да таго самага, якога я неяк прывёз свайму сыну з Гвінэі. Той быў незвычайны. А гэты вельмі падобны, брудны толькі і стары нейкі… – сумнымі вачыма мужчына зазіраў проста ў сэрца Хлопчыку-Крэвэтку. – Мой сын маленькі быў зусім… Калі зьнік… – мужчына быў ссутулены і нейкі недагледжаны. – Ня ведаю, трэба маю былую жонку запытваць, куды падзеўся наш сын, – мужчына зрабіў паўзу.

Крэвэтка ўвесь сьціснуўся і прытуліў зайку мацней, бо баяўся, каб гэты незнаёмец не забраў адзінага, апошняга сябра.

– Чакай, – спахапіўся мужчына, – ня хочаш са мной гутарыць, адкажы хаця б, колькі табе гадоў і адкуль ты!

*Жнівень 2017, кастрычнік 2018*
*Адэса, Украіна / Вэнтсьпілс, Латвія*

# ПАВАЛ КАСЦЮКЕВІЧ

## ХТО НЕ ЗДАЎ МАКУЛАТУРЫ?

*серыя «Настальгія па мезазоі»*

Працяг, пачатак у «Мінкульт-1»

**3. Цімураўцы і маньяк**

*Чыкаціла-94*

Званок не адгукнуўся, але дзверы імгненна расхінуліся і на парог ступіў мужчына: у шэрай нямытай саколцы, з-пад якой тырчала-пукацілася ніжняя частка плячыстага жывата, і ў дзіравым трыко, насунутым на кашчавыя ногі. На рабят глядзела чырвонаапухлае адно-адзінюткае вока. Другое ж – няясна, ці то скалечанае, ці то проста адсутнае, – хавала чорная павязка.

Усе неяк так адразу дапялі, што перад імі маньяк. Па факце, абмяркоўваючы тую прыгоду, рабяты ўсё думалі: што ў выглядзе чалавека адразу сказала пра гэтую акалічнасць? Можа, пагрозлівы смуглявы плёх, у якім, бязлітасна адбіваючыся ад лямпы, зіхцелі тысячы паганскіх лямпаўахвярнікаў? Ці, можа быць, чорныя сямейныя трусы ў чырвоныя вожыкі, абшытыя па краях трусіным футрам? Ці, мусіць, нацэлены проста на рабят гранатамёт, як мужчына ўчапіў валасатымі павучынымі ручышчамі?

– Цімураўцы? – з фальшывым здзіўленнем прамовіў Маньяк. – Даўнавата я вас тут чакаю.

Ужываючы замест словаў ветлівасці гранатамётную рулю, якая канцавалася простым у сваёй вымоўнасці конусам гранаты, Маньяк запрасіў рабят у сярэдзіну.

Мэблі ў маньяцкай кватэры не было ані. Пасярод пустога пакоя проста на падлозе стаялі не падключаныя нікуды відак з тэлікам, а побач былі раскіданыя відэакасеты, на чыіх карэньчыках замест назваў красаваліся голыя даты з пазнакамі ў дужачках: «расчлян.», «распіл.», «згвалт.». На сцяне паза тэлікам вісела мачэтэ, на лязе якога было вытанчана-выгравіравана пяць фігурак хлопчыкаў і сем – дзяўчынак.

– Хто крыкне, той будзе адразу зарублены, – нараспеў выгукнуў Маньяк. З голасу стала ясна, што і такі варыянт цалкам бы яго задаволіў.

– Спярша забіць, а потым згвалціць, ці спярша згвалціць, а потым забіць? – пачаў уголас вырашаць сваю адвечную маньяцкую дылему Маньяк, крыху так падкідваючы гранатамёт у руках.

Акрамя злавесных касет, на падлозе валялася пару кніжак. Ліпман паспеў выхапіць вокам «Лаліту» Набокава, двухтомнік Захер-Мазоха ў падарункавым скураным футарале з бліскучымі заклёпкамі і «Сэрца на далоні» Івана Шамякіна.

Убачыўшы кнігу аўтара пасляваеннай пары, Ліпман нечакана для сябе агойтаўся – Беларусь савецкая была ягонай стыхіяй. Ягонае сэрца сцішылася, думкі ўпарадкаваліся, ды ён адчуў, што сёння, нягледзячы на прыкрую дыспазіцыю, усё павінна заканцавацца хэпі-эндам.

*Лятучая статуя і польскія карлікі*

Амаль счэзлы агонь цікаўнасці да твораў і герояў беларускай савецкай літаратуры ў СШ №49 падтрымліваў менавіта Юрасік Ліпман. Калі на занятках белмовы прыходзіў час перадаць сваімі словамі апавяданні класікаў 40-х ці 50-х гадоў, увесь клас, стаіўшы дух, чакаў ліпманаўскага адказу. Пішучы на адзнаку пераказы, Ліпман ляпіў неверагодныя, фантастычныя ў сваёй геніяльнай прастаце памылкі, ад якіх хацелася ляцець у школьную бібліятэку і, узяўшы гэтыя зацвэганыя, прапахлыя плесняй і чужым дзяцінствам томікі, чытаць, чытаць, чытаць…

ЧЫТАЦЬ ПРОСТА ТАК, ЯК ЯНО, КАСТРУБАВАТАЕ, ЁСЦЬ. ЧЫТАЦЬ З УВАЖЛІВАЙ ЗАЦЯТАСЦЮ, АДШУКВАЮЧЫ СЯРОД ВАЛУНОЎ ГЕРОІКІ КАМЕДНЫЯ ПЕРЛЫ НЕСТЫКОЎКІ І БРЫЛЬЯНТЫ ПРАЎДЗІВЫХ ПАЧУЦЦЯЎ. ЧЫТАЦЬ МІЖ РАДКОЎ, ПА-ЗА ТРЭСКАМ ЧЫРВОНЫХ СЛОГАНАЎ І МІШУРЫ, АСЯГАЮЧЫ ЎВЕСЬ ЖАХ ТОЙ ЧАСІНЫ І НАДЗЕЙНА ЗАШЫФРАВАНЫЯ САВЕЦКІМІ ЛІТАРАТАРАМІ ТАЯМНІЦЫ ЛЮДСКОГА ІСНАВАННЯ.

Ці проста чытаць-дэкламаваць уголас сябрам, каб глянуць на мінулае з крыху паблажлівай усмешкай.

Праз магутнае памкненне данесці да настаўніцы ўвесь цымус апавядання Ліпман забываўся элементарна пераправерыць свой опус – і школьная публіка лезла пад парту. Гэта магло быць усяго толькі адно слова ці нават адзін-адзінюткі не так напісаны склад, але каэфіцыент карыснага дзеяння ліпманаўскай памылкі быў высачэзны. Так, пасля ягонага пераказу агульны сэнс твора, можа, рабіўся цьмяным і няўцямным, аднак памылка выпраўляла чытача ў нязнаныя раней фантазійныя глыбіні і вышыні.

Першую славу Ліпману прынёс пераказ апавядання «Палескі Сусанін». У ім вялося пра дзеда-палешука: аднойчы падчас савецка-польскай вайны 20-га года да дзеда Канаша сярэдначы пагрукалася колькі незнаёмых хлопцаў. Галоўны з хлопцаў сказаў, што яны заблукалыя партызаны. Дзед, сам партызанскі сувязны, зубы з'еў на лясных сцежках, і таму правесці хлопцаў пагадзіўся. Аднак падчас лясной вандроўкі дзед, які быў зусім не пальцам пханы, прыглядаючыся да хлопцаў і прыслухоўваючыся да іх сцішанай гаворкі, вызнаў, што ніякія яны не партызаны, а апрануты ў цывільнае атрад польскіх карнікаў, і што дарогу ў яго пытаў беларускі здраднік з іх ліку. Тады дзед зрабіў як належыць патрыёту: замест партызанскага атраду завярнуў палякаў у топкія багны.

У пераказе Ліпману асабліва ўдаўся момант выкрыцця дзедам-палешуком зламысных палякаў-карнікаў:

«Дзед Канаш паглядзеў на ствалы брытанскіх вінтовак, на нянашы цыгарэты з фільтрам, якія хлопцы ўвесь час смалілі са смакам, на іхнія сытыя твары. І раптам дзед Канаш зразумеў, што разам з ім ідуць карлікі».

Так вось: ідзеш ты, ідзеш з людзьмі па лесе, спакойны як лось, ні аб чым не дбаеш, і раптам бачыш, што твае

спадарожнікі – карлікі. Школа, уключна з прыбіральшчыцамі і заўхозам, плакала тры дні.

Свой поспех пераказчыка Ліпман замацаваў апавяданнем пра лятучую статую. Сюжэт арыгінальнага апавядання з праграмы за 6 клас быў яшчэ прасцейшы за пададзеную вышэй «палескую хроніку». Дык вось.

КАБ НЕ БУРЫЦЬ ПОМНІКА ЛЕНІНУ, ШТО СТАЯЎ НА ГАЛОЎНАЙ ПЛОШЧЫ, І КАБ АХАВАЦЬ ЯГО АД ВОРАГА, ПАДЧАС НАСТУПУ ФАШЫСТОЎСКІХ ВОЙСКАЎ МЕСТАЧКОЎЦЫ ЗДЗЕЙСНІЛІ ХІТРЭЦКІ ЎЧЫНАК: АБАБІЛІ ПОМНІК З УСІХ БАКОЎ ДОШКАМІ, КАБ УСЯ ТАЯ КАНСТРУКЦЫЯ ВЫГЛЯДАЛА ЯК ШАРАГОВАЯ ПРЫБІРАЛЬНЯ ЦІ ЯКАЯ ЗАКІНУТАЯ БУДКА.

І гэтак, асланёная дошкамі, скульптура Леніна прастаяла ўсе гады акупацыі. Ды немцам нават да галавы не дабегла, *што* ці, хутчэй, *хто* хаваўся за дошкамі. Калі ж фашысты сышлі, на мітынгу з нагоды першага вольнага першамаю вяскоўцы ўрачыста аддзерлі дошкі – і вось ён, таварыш Ленін, цэлы і жывы, зноў кажа правіцай народным масам наўпроставы шлях у вырай.

І вось, калі ласка, як гэтую сцэну вызвалення Леніна з дашчанага палону перапісала свавольнае пяро Ліпмана:

«У гэты дзень на плошчы мястэчка сабраліся жыхары і чырвонаармейцы. Усе былі вельмі вясёлыя і неслі чырвоныя сцягі. Двое мужчын ломамі аддзёрлі дошкі, і ўсе людзі на мітынгу ўбачылі, што статуя ўляцела».

Ліпман, як сапёр, памыляўся за пераказ толькі адзін раз, але што за выбуховая і бліскучая гэта была памылка! Незнарок памяняўшы «ўцалела» на «ўляцела», Ліпман прыўнёс у беларускую літаратуру нестаючую інтрыгу, расплюшчваў вочы знуджаным школьнікам на ўсё новыя магчымасці звыклых персанажаў і заезджаных жанраў мастацтва.

Слава новых герояў забытай літаратуры была настолькі трывалая, што цяпер члены міністэрскай праверкі дужа здзіўляліся і ставілі дырэктару школы на заметку, што ў прыбіральнях СШ №49 сцены ўшпіляныя не звыклай лаянкай, а нейкімі вычварэнствамі: па-мастацку зробленых выявамі Венер Мілоскіх. Венера мела галаву і выпрастаную паперадзе руку Леніна, а таксама страказіныя крылы за спінай. Побач з малюнкам красаваўся прынагодны верш:

*Взмывая выше туи,*
*Не ведая преград,*
*Крылатыя статуи*
*летят, летят, летят!*

Культ польскіх карлікаў у СШ №49 наагул квітнеў. Досыць доўга на сцяне была намаляваная карціна цвіком: на ёй барадаты дзед Канаш з вяслом кіраваў лодкай, у якой сядзелі, палячы цыгарэты з фільтрам і трымаючы ў руках брытанскія вінчэстары, зайцы з людскімі тварамі.

З'яўляліся і проста партрэты кучаравага Ліпмана, з вершам:

*Адзін казёл, няважна дзе,*
*Хадзіў, асёл, у чарадзе.*

Але Ліпман не крыўдаваў – тое цкаванне хутчэй нагадвала пятнаццаць (і нават болей) хвілінаў славы. Бо, акрамя кпінаў і невялікай дозы абзыванняў на пераменах, аднакласнікі ахвотна дзяліліся з ім змесцівам ссабоек, старшакласнікі маглі часам пачаставаць цыгарэтай, а прыгожыя выдатніцы наперабой клікалі Ліпмана на дні нараджэння. Праўда, прасілі, каб прыходзіў, захапіўшы сшыткі па белмове.

*Belarusan Psycho*

Успаміны запраторылі Ліпмана ў іншы свет. Забыўся, нябога, што знаходзіцца ў доме маньяка, са звязанымі за спінаю рукамі, з наведзеным на твар гранатамётам. Поруч, сцягнутыя па тулавах вяроўкай, ляжалі яго сябры, Вілкін і Паняй, а з усіх прыемных момантаў свайго жыцця ім больш за ўсё хацелася апынуцца ў матчыным улонні.

– Я бачу, вы круты спец у сваёй справе, – звярнуўся Ліпман да маньяка. Не маючы вольных рук, ён абвёў на знак павагі вычварную кватэрку красамоўным позіркам.

Маньяк спыніў усталёўку відэакамеры, якой меўся захаваць увесь працэс даставання душы на стужку, і зірнуў няўцямна.

– Але як наконт сямейнага бізнэсу, хочацца спытацца? – працягваў яшчэ больш упэўнена Ліпман. У яго галаве ўжо стрэмкай захрасла думка, што зараз усё будзе залежаць толькі ад ягонага спрыту.

– Сямейнага бізнэсу? Які, маць-перамаць, яшчэ сямейны бізнэс? – перапытаўся маньяк. Ён быў відавочна збіты з панталыку.

– Ну, каму ты пакінеш сваю велічную імперыю, старанна будаваную краіну, справу цэлага жыцця? – гарачна завяшчаў Ліпман.

– Ім... перыю? – маньяк ужо зусім збянтэжыўся.

– Якое значэння ў гэтых дзеяннях, у выпакутаваных табою і тваімі ахвярамі рытуалах? – з кожным словам голас Ліпмана набіраўся сілы. – Якая карысць у тваіх выкшталцоных шчыпцах і абцугах, якія – а мы ведаем гэта цудоўна – не так сабе нейкія прылады, а прамы працяг тваіх рук і думак?!

Маньяк нахіліў галаву з зацікаўленнем.

– Які сэнс у гэтым жыцці, калі ўсё тваё апынецца ў людзей, якія раздораць іх на сувеніры ашаломленым сябрам або хуценька сплавяць усё гуртом на кафедру псіхапаталогіі за дваццаць баксаў?..

– Твае вешанкі, зробленыя з вушэй і пальцаў тваіх любімых ахвяр, яны павыкідваюць на сметнік! – працягваў страшыць маньяка Ліпман. – Вышпурнуць усё, чаго ты дасягнуў вось гэтымі вось рукамі!

Вочы Ліпмана, якія гарэлі агнём маніякальнага справядліўца, цяпер указалі на рукі маньяка. Маньяк таксама зірнуў на свае рукі, заліўся чырваннем і крыху сарамліва прыхаваў рукі.

Ліпман працягваў лютаваць:

– Цяпер ты тут, дзе на гэтым свеце кароль і бог. І калі не займацца маралізаваннямі, мы ведаем адно – ты профі, так сказаць?...

Ліпман няўпэўнена дадаў:

– …Крэпкі гаспадарнік.

Маньяк бесцырымонна скінуў на падлогу звязаную Паняй і падсеў на крэсла, бліжэй да Ліпмана.

Ліпман працягваў:

– А твае дзеці, твае сваякі пляваць хацелі на твае захапленні, прафесійныя напрацоўкі. Пасля тваёй смерці яны, можа быць, нават прададуць тваю хату, дзе ты ведаеш кожную хованку з порнафоткамі за шпалерамі і з наборам стаматалагічных бораў у вентыляцыйнай выцяжцы, і ў сценах якой ты пазабаўляўся не з адным целам. Гэтыя выпаўзні-нашчадкі ў сваіх скураных штанах і завушніцах, яны, нібы соўгаючыся на крэсле ад гемарою, слухаюць сваіх патлатых куміраў і ведаць не ведаюць, як ты любіш сваю працу сапраўднага мужчыны.

Па тым, як маньяк зварухнуўся, Ліпман адчуў, што з дзеткамі-металістамі ён трапіў у саменькае вока.

– Яны крыху не ў курсе, як пасля бездакорна выкананага забойства ўнізе твайго жывата паварочваецца нейкі слодычны пераключальнік, нібы пасля магутнага катарсісу. Як трымціць дзікай птушкай сэрца, калі на пераноссі ахвяры ідэальна супадаюць задні і пярэдні прыцэлы....

– Вох, – выдыхнуў маньяк. Яго голас трымцеў. – ...Але ж што... што тут можна зрабіць?

– Пераемнасць, – усё роўна як стрэліў Ліпман адным-адзіным словам. Яго голас зрабіўся больш спраўны. – Пакліканне трэба ператварыць у сямейную справу. Давай я раскажу табе гісторыю пра сямейны бізнэс маёй сям'і, як мой продак змог перадаць мне справу свайго жыцця...

Маньяк моўчкі кіўнуў. Адклаў наўбоч нож. Ліпман уладкаваўся зручней у фатэлі – наколькі гэта было магчыма са звязанымі рукамі. Дэманстратыўна падпіхнуў Паняй, што валялася на падлозе, нагой і пачаў аповед:

– Мой дзед Борух бачыў Леніна. Гэта па сутнасці ўся яго біяграфія, у сэнсе дзедавая, а не Леніна. Усё астатняе, што адбылося з дзедам, было адно наступствам, так бы мовіць, даважкам да гэтай падзеі.

– Яшчэ падлеткам на пуцілаўскім заводзе ў Петраградзе дзед прысутнічаў на мітынгу, дзе выступаў павадыр расійскіх бальшавікоў Уладзімір Ульянаў. Дзед чуў яго 10-хвілінную прамову. Пасля мітынгу ён прашыўся ў кулуары, і Ленін, аточаны паплечнікамі і рабочымі, паціснуў майму дзеду руку і нават уручыў нейкую брашурку. Вядома, дзед па маладосці і нішчымніцы тую брашурку адразу пусціў на цыгаркі, але рукі, якая паціскала ленінскую правіцу, два дні не мыў...

УВОГУЛЕ БЫЛО ЦЯЖКА СКАЗАЦЬ, АКРЭСЛІЦЬ, ЦІ СУСТРЭЧА З ЛЕНІНАМ СТАЛАСЯ ДЛЯ ДЗЕДА НЕ ТОЛЬКІ БІЗНЭСАМ, АЛЕ ЛАДАМ ЖЫЦЦЯ...

...Мой дзед бачыў Леніна. Гэта была дзедава прафесія. Шэсцьдзесят сем гадоў пасля той сустрэчы дзед гойсаў па дэманстрацыях і сходах і распавядаў, як ён на свае вочы згледзеў правадыра сусветнага пралетарыяту ды як уласнай рукой пацісну ў іллічоўскую.

Дастаткова было адчыніцца ў яго родным Менску якой-небудзь школцы ці прадпрыемству, не кажучы ўжо пра кастрычніцкія ўгодкі ды першамаі, як туды з прамовай запрашалі выступіць майго дзеда.

Для інтэлігенцыі гэтую гісторыю дзед расказваў у сярмяжным, шурпатым стылі, закурваючы свае цыгаркі проста са сцэны. Для рабацяг мог апавядаць гісторыю ў ролях: з фірмовым ленінскім подміргам, імітаваннем выгукаў працоўнага натоўпу. Монаспектакль «Я бачыў Леніна» – у залежнасці ад патрэбаў публікі – быў разлічаны на 2, 5, 15 хвілін і двухгадзінны бенефіс. Дзед выконваў гэтую пастаноўку на ідышы, беларускай, расійскай і польскай мовах.

Вількін паволі нахінуўся над сталом і ягонай паліраванай паверхняй ацёр пот з ілба.

Ліпман працягваў:

– За свае пастаўленыя на канвеер сведчанні дзед сёе-тое атрымаў. Дастаў кватэру ў цэнтры Менска, на Маркса, а баба Міна зазвычай атаварвалася ў спецкрамах, дзе ў зусім кароткай чарзе па ікру і брынзу стаяла поруч з жонкамі міністраў і адказных партработнікаў. 22 чэрвеня 1941 года а сёмай ранку ля нашага дома ўжо стаяў «опель» з двума салдатамі, якія разам з залатым запасам БССР меўся адымчаць нашага дзеда і яго сям'ю ў эвакуацыю.

Ліпман уздыхнуў. Краёчкам вока заўважыў, што Паняй пачало трэсці.

– Не магу сказаць, які ў дзеда быў характар ці *што* яго цікавіла ў жыцці. З ім я ні пра што іншае, як пра сустрэчу з Леніным, не гаварыў. Ні пра вайну, ні пра спорт, ні пра жыццёвыя зігзагі, ні пра ягоных бацькоў. Цяжка было сказаць, ці ж ён распавядаў мне зноў і зноў тую гісторыю, каб, так бы мовіць,

падтрымаць прамоўніцкую форму, ці гэта было яго шчырае памкненне. Увогуле было цяжка сказаць, акрэсліць, ці сустрэча з Ленінам сталася для дзеда не толькі бізнэсам, але ладам жыцця...

…Мой бацька Сямён Борухавіч распавядаў, што ў 70-м годзе ў нашу вялікую кватэру ў генеральскім доме прыйшла камісія, каб ушчыльніць і аддаць адно яе крыло іншым жыльцам. Дык дзед проста ў вітальні ўперыў у чальца камісіі свае страшныя бальшавіцкія вочы ды паволі выставіў перад сабою далонь правай рукі, якой ён вітаўся з Леніным. Стаяў моўчкі, нечым нагадваючы індыянскага павадыра перад бітвай з бляклатварымі ці якога японскага камікадзэ падчас урачыстае клятвы перад першым-апошнім вылетам. Карціна з маўклівым дзедам і яго паднятай правіцай была нагэтулькі велічная і жудасная, што шаноўная дамкамісія на чале са старшынёй без гуку і зыку, у арганізаваным парадку спрытненька спінай падалася на выхад. Стуль, кажа бацька, вочы ў майго дзеда неяк так зрабіліся скосыя, дзед яшчэ адпусціў бародку, ажно на адной сустрэчы ў школе падняўся адзін першакласнік і спытаўся: «Чаму дзядуля Ленін расказвае нам, як ён сам сябе бачыў?»

Ліпман зрабіў паўзу і ротам ухапіў цукерачку, якую яму прынёс з кухні і паклаў проста на засмечаны стол крыху расчулены маньяк. Падсілкаваўшыся, Ліпман працягваў:

– Перабудова заспела дзеда на вяршыні ўласнай імперыі: ён атрымліваў персанальную ленінскую пенсію – у сэнсе, пенсію, створаную персанальна пад ягоны аповед пра Леніна. Яе памер набліжаў дзедавы заслугі да ўнёскаў былых міністраў і камандзіраў вялікіх партызанскіх злучэнняў. Ягоная кніга «Я з той плеяды ідавочцаў» была перакладзеная на 24 мовы свету, уключаючы суахілі і мову баскаў. Да таго ж дзед атрымліваў працэнт з продажы грамкружэлкі «Уладзімір, зорка ясная». Гэта ВІА «Вітражы» выпусціла дзедавыя ўспаміны ў форме першай беларускай рок-оперы.

Але смерць была не за гарамі, і дзед, як усякі разумны чалавек, вырашыў перадаць «поціск відавочцы» свайму ўнуку, то-бок мне, каб слаўная дынастыя сведак ленінавых не перарывалася. Дзед збіраўся рытуальна паглядзець мне ў вочы і ўрачыста паціснуць мне руку – гэтак перадаючы паўнамоцтвы, каб надалей я мог сам выступаць з перасоўным патрыёт-шоу «Я бачыў Леніна». Ён палічыў, што найлепшым чынам гэта будзе глядзецца на ўрачыстым сходзе, у гадавіну кастрычніцкай рэвалюцыі, на лінейцы школьнікаў, у актавай залі нашай СШ №49...

Зусім нечаканым манерам, перарваўшы Ліпмана, маньяк разрагатаўся. Ліпман аж перасмыкнуўся.

– Павучальная гісторыя, – сказаў маньяк, які са сваімі валасатымі ручышчамі і металічнымі зубамі стаў падобны да павука. У кутках яго вуснах тлела бясоўская ўсмешка. – Ведаеш, я прыслухаюся да тваіх майсаў. Пераемнасць так пераемнасць. І ведаеш якая? Я пачну збіраць калекцыю кісцей, якія перайманлі рукі знакамітасцям. І твая кісць, а таксама кісці тваіх сяброў, будзе ў ёй першым экспанатам. На кухні якраз маю падрыхтаваныя слоікі з фармалінам.

Паняй і Вілкін замычалі на знак рашучага пратэсту. Але іхнія раты яшчэ даўней былі залепленыя чорнай ізастужкай.

На лобе Ліпмана з'явіўся тлусты, з вену, цурок поту. Ліпман паволі павёў галавой з боку ў бок.

– Я... я яшчэ не закончыў, – сіпла сказаў ён. – Мушу прызнацца: урачыстай перадачы поціску, да жалю, не атрымалася – я не маю ленінскага поціску ад дзеда. Але я атрымаў нешта больш каштоўнае. Яго мозг.

Маньяк уздыхнуў крыху расчаравана, бо экзекуцыя адкладалася, але і трохі ўцешна – намячалася куды больш цікавейшая прыгода. Ён падсеў бліжэй:

– А з гэтага месца, калі ласка, падрабязней, – сказаў ён.

– ...Мой дзед не ўлічыў, што зорка Леніна ўжо закочвалася. Школа па-ранейшаму падтрымлівала культ небажыхара Будаленіна, але ля грудзей ужо грэлася гадзюка вальнадумства. У паралельным са мною класе вучыўся нехта Сяргей Канеўскі, які называў сябе ўнукам піянера-героя Марата Казея.

ГЭТЫ ГАДЗЁНЫШ КАНЕЎСКІ, НЕ САРОМЕЮЧЫСЯ І НЕ БАЮЧЫСЯ САСЛАБЕЛАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ ШКОЛЫ, НА КОЖНЫМ КРОКУ РАСПАВЯДАЎ ПРА СВОЙ ГЕРАІЧНЫ РАДАВОД І НАВАТ ПАРУ РАЗОЎ ВЫСТУПІЎ У АКТАВАЙ ЗАЛЕ ПОЛІТЭХА. ГЭТЫ ПСЕЎДАЎНУК УЖО ТАДЫ БЫЎ СМЯРОТНЫМ ВОРАГАМ МАЁЙ СЯМ'І. БО КОЖНЫ ЦУДОЎНА РАЗУМЕЎ, ШТО ДВУМ ЗНАКАМІТЫМ ЛЮДЗЯМ НЕ МЕСЦА Ў АДНОЙ ШКОЛЕ, НА АДНОЙ ДЗЯЛЯНЦЫ...

У дадатак, калі так падумаць, які яшчэ ўнук? Як у Марата Казея мог быць унук? ЯК?! А вось мой дзед з ленінскім пацiскам – іншая рэч...

У голасе Ліпмана пракінулася шчырая крыўда.

– ...І вось, пры набіткаванай спартзале – сцягі, шарыкі і агульны збор – дзед пад зыкі бубнаў і горнаў рыхтуецца ўрачыста пацiснуць мне руку і гэтак навечна перадаць ленінскі поціск. І раптам з шыхту малодшых класаў высоўваецца Канеўскі і голасна так кажа: «Дазвольце паставіць пад сумнеў сапраўднасць вашага, Борух Якаўлевіч, ленінскага поціску. Наколькі вядома з біялогіі, кожныя пару гадоў адбываецца ратацыя людскіх клетак: старыя клеткі адміраюць і іх месца заступаюць новыя. І, такім чынам, за семдзесят гадоў тыя клеткі на скуры, якія насамрэч цiскалі Ільіча, ужо памерлі і замяніліся іншымі...»

Пачуўшы пра ратацыю клетак, дзед, не раўнуючы рыба, стаў хапаць паветра ротам і імкліва паваліўся проста на падлогу спартзалы...

Ліпман зноў нахіліўся над сталом, каб сяк-так ацерці набеглыя слёзы.

– Калі ж ён апрытомнеў у бальніцы, я ведаў што, трэба рабіць. Як шчыра, то мне было начхаць на Леніна – гэта быў выклік вечнаму бізнэсу маёй сям'і. І тады я папрасіў у дзеда ў спадчыну кавалак яго мозга. Як вядома, клеткі мозга не мяняюцца, і таму я мусіў атрымаць той самы мозг, які перапрацоўваў інфармацыю ад органаў дотыку і зроку ў тую самую хвілю, калі мой дзед бачыў Леніна…

– А дзе знаходзіцца гэты кавалак? – здушаным шэптам перабіў Ліпмана Маньяк. Яго рука слепа мацала паветра ў пошуках якога-небудзь мачэтэ.

– Я табе пакажу, дзе ён, – паволі сказаў Ліпман. – Толькі развяжы мне рукі.

Раптам Паняй, што ляжала пад пятой у Ліпмана, неяк мігамі вызвалілася ад ізастужкі і голасна закрычала:

– Ліпман, ты псіх! І дзед твой псіх, вы абодва гадскія псіхі!

Маньяк зноў заляпіў ёй рот, кіўнуўшы Ліпману, маўляў, не звяртай, працягвай, хлопча. Пад аповед Ліпмана пачаў развязваць яму рукі.

– Вось тут, – Ліпман пальцам намаляваў невялічкі трохкутнік на левай скроні, чыімі вяршынямі былі макаўка, верхні краёк вуха і пэўная кропка ў рудых валасах. – Менавіта тут знаходзіцца кавалак мозга, які бачыў Леніна. Па сваіх старых пуцілаўскіх сувязях дзед дамовіўся і адзін найлепшы

ленінградскі хірург перасадзіў ягоны кавалак мне.

Маньяк ужо не валодаў сабою – цягнуўся да сцэнкі з мачэтэ ўсім целам. Ягонае адзінае вока шалёна круцілася ад хвалявання.

Ліпман сказаў:

– Ведаючы твой прафесіяналізм, я дазволю табе зрабіць трэпанацыю, каб ты змог дакрануцца да таго кавалка. Толькі дай слова, што за гэта ты мяне не заб'еш.

– Чэснае піянерскае, – шпарка вымавіў маньяк і адкрыта адвярнуўся па мачэтэ. Калі ж маньяк, ужо з цесаком у замахнутай руцэ, разварочваўся, дык яго адзінае вока напаролася з размаху на заточку, заціснутую ў вольнай правіцы Ліпмана.

З вачніцы хлынула кроў. Маньяк люта заверашчаў і паваліўся на падлогу. Пару хвілін ён курчыўся так, нібыта канае. За гэты час Ліпман паспеў вызваліць Вілкіна і Паняй, якія, відаць, так і дагэтуль і не ачомаліся. Потым пасля суворага, але кароткага барукання ім удалося маньяка звязаць.

Стоячы ўжо па-над звязаным сляпаком, Ліпман ціха прамовіў:

– Слухай сюды, маньячыла! Мой дзед Борух бамбіў фраероў на харкаўскай чыгунцы. Падсаджваўся да іх у купэ: заводзіў задушэўнае чаркаванне, напампоўваў іх клафелінам. Мне, свайму ўнуку, ён пакінуў у спадчыну талент загаворваць спадарожнікам зубы і гэтую заточку, якую ён запавятаваў мне заўсёды-заўсёды цягаць з сабою, на ўсякую бяду. А выгляд Леніна і дакрананне да павадыра сапраўды зрабіла моцнае ўражанне на майго дзеда ды ўшчэнт памянялі ўсё яго жыццё, але тое была ленінская выява на савецкай купюры, якую яму далі памацаць у пяцігадовым веку.

– Хто абдурыў мяне? – Маньяк ужо перастаў качацца і хапаў пахі сваім носам-бульбінай.

– Хто-хто, дзед Піхто, – закідваючы «Лаліту», двухтомнік Захер-Мазоха і «Сэрца на далоні» Івана Шамякіна ў макулатурны мех, прамовіў Вілкін.

– Адкуль ты, Піхто Сямёнавіч... З Мінска хоць? – праз ідавочны боль спытаў Маньяк.

– Са Свінска.

– Знайду, падла, з'ем! – загразіў сляпы Маньяк. Пасля паўзы дадаў: – Ці не, лепей спярша згвалтую, а потым з'ем... Ці спярша заб'ю...

Аслеплены маньяк прыслухоўвася да кожнага руху.

Калі рабяты выскачылі з кватэры, думкі Паняй, нягледзячы такую злыбяду, што прылучылася з ёй і сябрамі, пачалі вандраваць. Паняй усё думала, чаму заўсёды тут гэтак: і ў тутэйшай гісторыі, і ў тутэйшых лёсах усё чамусьці не ішло да чаканай, лагічнай развязкі. Ажно, здаецца, усе страцілі нават уяўленне, як яна, гэтая лагічная развязка, выглядае. Бо ў апошні момант, калі, здаецца, усё на мазі, цяпершычына ідзе абсалютна звыклым, бітым тысячай іншых ног, шляхам, заўсёды чамусьці прылятае мясцовы анёл-заступнік і разганяе запланаваную будучыню сваімі куцымі, дзіркатымі крыламі ды з'едзеным іржою мечам. Прычым няясна, на дабро ці блага ён тое робіць. І што ніяк той анёл не дазваляе тутэйшаму дзейству ператварыцца ў еўрапейскую трагедыю з героямі-палюбоўнікамі, угарэлымі ў гаражы ад выхлапных газаў, ці ва ўкраінскую камедыю з брутальнай пагоняй, складзенай з панка Вія на тачанцы і процьмы драбнейшых бісаў у міліцэйскіх пагонах, ці ў расійскую інтэрмедыю з двума кароткастрыжанымі далакопамі і залатазубым чэрапам гаротнага Ёрыка, і ўсё пераўтвараецца ў беларускую трасянку, дзівосную мяшанку жанраў. «Вось і маем, – падсумавала Паняй, – што маем».

– А ведаеш, – сказаў Вілкін, калі яны ўжо выбеглі на вуліцу Кузьмы Чорнага з пад'езда, – Маньяк жа на пачатку страляць не збіраўся. Калі б ён стрэліў агнямётам на лесвічнай пляцоўцы, дык сам бы таксама ўзарваўся.

# ЖЕНЯ КЛЁЦКИН

## КОНЬЯК И ДРОБОВИК

*(сокращённая версия пьесы)*

Посвящается моей жене
(И тогда только сможем обойтись без чуда)

РОБЕР РОБЕРТА
ГНОМЧИК
ГЕРТА
БРЫНЯ
ЯДКА
КРАСАВИЦА НАСТИНА
КРЯКА ЛОУЖ

**АКТ ПЕРВЫЙ.
НАРКОТИЧЕСКИЕ ПЕСНИ МОРЯ**

1

ГОЛОС КРЯКИ. В одном таком весёлом доме, как наш весёлый дом горох, крутился сказочный подвох на кукурузе и соломе.

ГНОМЧИК. Когда отражение твоей тени превращается в череп дикого косматого кабана, а свирепая любовь твоя превращается в ненасытную самку…

РОБЕР РОБЕРТА. Я заворачиваюсь в отчуждение, стряхивая пепельный гнев за борт корабля...

ГНОМЧИК. Когда бумага обливает светлою кровью чёрное перо, в эти часы настоящие люди живут в сумасшедших мечтах. Мечтах про наркотические песни моря.

РОБЕР. И на пляже этого моря валяемся мы.

ГНОМЧИК. Робер Роберта!

РОБЕР. И мой друг Гномчик!

ГНОМЧИК. Писатель и алкаш!

РОБЕР. Психопат и убийца!

ГНОМЧИК. Три толстяка с одиннадцатью ногами и шестью хвостами с длинным мехом.

РОБЕР. Мы живём на острове Дрэва!

*Приходит малютка Герта с диапроектором.*

ГЕРТА. Папочка! Время диафильмов!

РОБЕР. Ну давай, Герта.

*Настраивают проектор, засунув в него плёнку.*

РОБЕР. «Ленивый осёл и принцесса Нечистка». В глухой деревне жил один осёл. Он часто хвастался…

ГНОМЧИК. «Клянусь, а мне такая работа в поле в самый раз. Спи себе, травку жуй!»

РОБЕР. И так он гордился каждый день.

ГНОМЧИК. Но однажды пришла к нему принцесса Нечистка, которую он не узнал. Показалось ослу, что это нищенка-пройдоха.

ГЕРТА. Нечистка сказала: «Разве ты не знаешь, осёл, что твои хозяева оставили меня за главную? И ты должен делать всё, что я прикажу тебе».

РОБЕР. А осёл только смеялся с маленькой нищенки.

ГНОМЧИК. «Ийяяя, ийяяяяя. Когда тебя зарежут на этой ферме, за главного останусь ийяяяя!»

ГЕРТА. А Нечистка-умница додумалась, что осёл её не узнал, и ответила животному: «Ты даже не почистил свои страшные зубы. Куда тебе главным? За какие заслуги?»

ГНОМЧИК. А осёл ей:

«ВИДЕЛА БЫ ТЫ, ДЕВОЧКА, КАК Я, СОДРОГАЯСЬ ОТ МЁРЗЛОСТИ И СЕРОСТИ, СТОЯЛ В ПОРТУ, ИГРАЯ НА ШАРМАНКЕ ГОРОДСКИЕ РОМАНСЫ, ОЖИДАЯ МОРЯ. А ВШИВАЯ МАКАКА СКРОМНО ВЫТАНЦОВЫВАЛА ВОЗЛЕ МОИХ САПОГ ДИВНЫЙ ТАНЕЦ… Я ГОЛОДАЛ СУТКАМИ, МОИ НОГИ ПРЕВРАТИЛИСЬ В ДВЕ ТОНЕНЬКИЕ ПРОВОЛОЧКИ.

Пережила бы ты, нищенка, похороны моей обезьянки, когда на последнюю подачку от пьяного нидерландского матроса я купил жестяную коробочку и смастерил из неё гробик для единственного друга. Разве не заслужил я перед небесами быть главным на таком чудесном острове и ферме с полями?»

ГЕРТА. А Нечистка слушала всё это, слушала и не выдержала: «Какой же ты выдумщик и лентяй. Превращу тебя в нечистика».

ГНОМЧИК. Конец плёнке. Диаскоп нагрелся.

ГЕРТА. Хоть и страшный, но интересный диафильм!

РОБЕР. Это не диафильм. Это слайды по мотивам стихов Кряки Лоужа.

ГНОМЧИК. Но автор – твой папка. Писатель Робер Роберта.

РОБЕР. Герта – моя пятилетняя дочка. Гномчик – мой друган и сосед. Мы знакомы с ним сто лет.

ГНОМЧИК. Целый век дружбы и приключений. Целая эра точек и многоточий.

РОБЕР. Я работаю писателем детских диафильмов.

ГНОМЧИК. А я работаю смотрителем в порту, ожидая моря.

РОБЕР. Мы все жители острова Дрэва.

ГНОМЧИК. Мы все ждём моря.

РОБЕР. Наркотически поющего, отставившего берега острова.

ГЕРТА. Однажды я увидела, как кошка Булочка показывала фокусы.

РОБЕР. Герта, не дождавшись меня с работы, скакала по подъезду и рассказывала соседям сказочки!

ГЕРТА. Соседи и соседочки! Бабушки и дедушки! Карапузы и карапузики! Наша кошка Булочка проглотила пуговицу, а сейчас, смотрите, летает на тучках над городом! Але-оп! Смотрите как! (*Скачет по комнате*.)

ГНОМЧИК. Все соседи, разумеется, хохотали. Но в какой-то момент Гертин дедушка Брыня стукнул по перилам! Бум!

ГЕРТА. Булочка все видела про каждого из вас. Вон, несколько минут назад дед Брыня ругался с бабой Ядкой. Так ругался, что проглотил свою вставную челюсть.

РОБЕР. Старый Брыня тогда не сдержался, побежал в квартиру заказывать важный звонок. Он звонил мне на работу.

ГНОМЧИК. А как ты его понял по телефону? Он же еле выговаривал слова.

РОБЕР. Со мною, через Брыню, ругалась его словами Ядка – моя тёща.

ГЕРТА. А Брыня мычал, как коровка. Буууууу. Быыыыыы…

РОБЕР. Доченька, как я уже говорил, дело не в том, что ты шутила и обманывала соседей.

ГЕРТА. А чего ты тогда разозлился?

РОБЕР.

МЕНЯ ОТВЛЕКЛИ ОТ ВАЖНЫХ ДЕЛ. ПРИШЛОСЬ СРОЧНО ПРИЕХАТЬ С РАБОТЫ ДОМОЙ. И РЕДАКТОР ПОТОМ ЗАСТАВИЛ МЕНЯ УЧАСТВОВАТЬ В НУДНОМ СУББОТНИКЕ, НА КОТОРОМ СОБИРАЛИ ПЕНУ И ОСТАТКИ МОРЯ. ЧТОБЫ ТВОЙ ПАПОЧКА НАПИСАЛ СЦЕНАРИЙ К ДИАФИЛЬМУ.

ГЕРТА. Роберчик, прости меня. Не пиши, это не интересно читать детям про субботники.

РОБЕР. Доча, давай беги спать. Сейчас время для взрослых! Люблю тебя!

ГЕРТА. Целую, папочка.

РОБЕР. Целую, розочка.

*Герта убегает в свою комнату.*

РОБЕР. Я обманул дочу. Меня попросили из редакции. Попросили найти другое место работы. И теперь я пишу сценарии в стол. А работаю бандитом с Гномчиком. У нас с ним…

ГНОМЧИК. Пылесосная бригада!

РОБЕР. Ну что, вам нужно пропылесосить?

ГНОМЧИК. Вы загибаетесь от грязи и пыли? У вас тяжёлая задница и вам впадлу вставать с дивана?

РОБЕР. К вам едет! Пылесосная бригада!

ГНОМЧИК. Пылесосная бригада. Чистота в ваши сердца!

РОБЕР. Мы пользуемся успехом. И не только у женщин!

ГНОМЧИК. Наша бригада расцветает! У нас огромный бизнес и горы клиентов!

РОБЕР. Обычно я пылесошу зал, прихожку и туалет с ванной. Гномчик пылесосит остальные комнаты. Детскую, гостиную, кухню, кладовую.

ГНОМЧИК. А после шести вечера и ужина…

РОБЕР. После бутылки коньяка…

РОБЕР. Мы снимаем синие комбинезоны, превращаясь в настоящих негодяев.

ГНОМЧИК. Мы берём дробовики и едем к морю.

РОБЕР. Мы едем в порт, где нету никакой жидкости.

ГНОМЧИК. Одна суша.

РОБЕР. Море уплыло от нас два месяца тому назад.

ГНОМЧИК. Люди обидели море, и оно сыграло с ними злую шутку.

РОБЕР. Каждый день по несколько раз с порта острова Дрэва на материк отправлялись судна.

ГНОМЧИК. Военные, дипломатические, грузовые и пассажирские, ну и обычные контрабандные, набитые всякой контрабандой. Кокосовым вином и земляничными сигарами.

РОБЕР. На одном из таких кораблей уплыла моя жена Красавица Настина.

ГНОМЧИК. Убежала с Кряком Лоужем, местным священником.

РОБЕР. Мы учились с Настиной в университете острова Дрэва. На втором курсе мы поженились, а на третьем у нас родилась Герта. Я любил Настину, она была похожа на янтарную мармеладку, на радугу, замороженную с одной стороны и растопленную с другой. Но так получилось, что в неё влюбился Кряка. И ей понравилось с ним.

ГНОМЧИК. Священник Лоуж намного старше Робера Роберты. Он неудачно женился, отсидел в тюрьме, где уверовал в Ежишка.

и заподозрит, – оказалось алиби на любое время. Ждите. Рано или поздно дело будет в шляпе. Будьте уверены.

Если, казалось бы, случайно к вам на улице или где-нибудь в кафе подойдёт незнакомый человек, заведёт разговор о всякой чепухе, войдёт к вам в доверие, а потом неожиданно предложит стать посредником в одном щекотливом деле, не выдайте себя! Тут возможны два варианта: либо незнакомец – полицейский шпик, который проверяет по вашей реакции, причастны ли вы к «щекотливому» делу, либо он – ваш человек и работает на вас, хотя вы и не подозревали об этом до сего момента. Помните, что он тоже ничего пока не подозревает, поэтому – в любом случае – соглашайтесь. Станьте посредником своего дальнего посредника в вашем собственном щекотливом деле. Отказ может показаться странным и вызвать подозрения – что у посредника, который на вас работает, что у полицейского шпика, который вас выслеживает (мол, чего это вы отказываетесь, когда все вокруг замешаны? – признайтесь, это действительно странно!).

СТАНЬТЕ ПОСРЕДНИКОМ СВОЕГО ДАЛЬНЕГО ПОСРЕДНИКА В ВАШЕМ СОБСТВЕННОМ ЩЕКОТЛИВОМ ДЕЛЕ.

Поэтому соглашайтесь посредничать, поторгуйтесь немного, чтобы показать, что вы ведомы исключительно жаждой наживы, но сведите свою причастность к минимуму. Во-первых, сразу откажитесь выслушивать подробности и вникать в детали щекотливого дела, чтобы избежать возможных обвинений в преступном сговоре; во-вторых… ну вы уже знаете – найдите посредника и перепоручите всю работу ему, в чём бы она ни состояла. Скорее всего, она будет состоять только в поиске посредника. Но зачем подвергать себя ненужному риску? Пусть этим займётся посредник!

Рано или поздно вы поймёте, что вот оно – свершилось! – наконец-то дело в шляпе. Это будет растворено в воздухе: начальник внезапно станет милым и вежливым, коллеги по работе – дружественны, официант улыбнётся вам теплее обычного, а патрульный простит превышение скорости и не выпишет штраф… В такой день ведь можно и нарушить немножко! В день, когда дело в шляпе! А все эти люди – все на планете, без исключения, – давно работают на вас.

# ВІНЦЭСЬ МУДРОЎ

## ХАЛХІНГОЛКА

Прымацаваўшы падшлемнік, Кастан нацубіў каску на галаву, падышоў да люстра і не пазнаў сябе. На яго глядзеў сапраўдны эсэсавец. Дарма, што замест чорнага мундзіра на ім была саколка з выявай Мікі Маўса. Адкінуўшыся крыху назад, Кастан пстрыкнуў пальцам па метале і пачуў глухі зык. Штальхельм М-40. Шэсцьдзесят гадоў на гарышчы адваляўся. Працёр шчаўевай кіслатой – і стаў як навюткі. Можна было не фарбаваць.

Кастан задаволена пацёр рукі, паставіў «штальхельм» на паліцу, поруч з шыхтом адрэстаўраваных нямецкіх касак, і злёгку спахмурнеў. Трэба выпраўляцца ў Маскву, а ехаць не хацелася. Свойчас каскі сплаўлялі на «Беларусьфільм». Грошы там плацілі невялікія, але затое не трэба было за свет перціся. Але цяпер кінастудыя фільмы пра партызан не здымала, таму і даводзілася збываць адрэстаўраваны рыштунак у Маскве ды Піцеры.

У кішэні перапэцканых фарбай і прапаленых кіслатой нагавіц казытліва зумкнуў мабільнік. Хтосьці «кідаў глушца» – набіраў нумар і адразу ж адключаўся. Кастан дастаў тэлефон, зірнуў на асветлены экран. Зрэшты, ён і так ведаў: званілі мальцы з Ясіновікаў.

– Ты, Дадон? – перасельім голасам выгукнуў Кастан і адкерхаўся. – Ну, што там у вас?

– Шэф, Сява нямецкі крыж падняў, – ясіновікаўцы мелі звычку называць Кастана шэфам, – у жалезным футарале.

– Першага ці другога класа?

– А ... яго ведае, – мацюкнуўся ў адказ Дадон і пасля паўзы дадаў: – А я медаль знайшоў. Здаецца, срэбны.

– І што на ім напісана?

– Штосьці па-нямецку, але не разабраць. А на самім медалі нейкія вароты, ці нешта такое...

– Відаць, «За ўзяцце Парыжа», – прамармытаў шэф.

– Ну яшчэ гузікаў дзясятак паднялі, пару жэтонаў...

– Ладна, не па тэлефоне, – абарваў Кастан суразмоўцу і сцішана прамовіў: – Папярэдзь Сяву: у нядзелю аб адзінаццатай буду ў вас.

АДКАПАНЫМ У ЗЯМЛІ ХЛОМАЗДАМ КАСТАН ЗАЙМАЎСЯ НА ПАРУ СА СТРЫЕЧНЫМ БРАТАМ. БРАТАН НАСІЎ ДЗІЎНАЕ ІМЯ ЛАЎРЫСЦІН І БЫЎ ІНВАЛІДАМ: СЛУЖЫЎ У АФГАНЕ І Ў САМЫМ ПАЧАТКУ СЛУЖБЫ ЎЗБІЎСЯ НА ДУШМАНСКУЮ МІНУ.

Небараку адарвала ступак на правайназе, і дахаты вярнуўся на мыліцах. Добра яшчэ, бацька іхны працаваў інжынерам на гадзіннікавым заводзе. Уладкаваў у свой цэх гравёрам. Там Лаўрык і набіў руку, і пасля таго як завод загавеў душою, зладзіў у бацькавым гаражы саматужную майстэрню. Рамантаваў гадзіннікі, ліtaваў старыя медніцы, давялося нават царкоўнае начынне рэстаўраваць па замове папа Яўлампія. А аднойчы яны ехалі ў машыне і ўбачылі ў прыдарожнай канаве іржавую нямецкую каску. Кастан яе і прыхапіў, прапанаваўшы брату давесці да ладу. Лаўрык спачатку махнуў рукой, але потым знайшоў недзе пацёханы атлас з намаляванымі каскамі ды ўзяўся за працу. Першы «штальхельм» атрымаўся – вачэй не адарваць. Як новы. З падшлемнікам, рэменем і эсэсаўскай познамкай на баку. Здалі аднаму паляку за добрыя бабкі. А наступным днём, ад самай раніцы, Кастан завёў легкавік і паехаў па навакольных вёсках шукаць тыя самыя каскі. Набываў у дзятвы за шакаладзіну ці ў мужыкоў за пляшку «чарніла». А неўзабаве падбіў мясцовых п'яніц на «археалогію» – старыя траншэі ды нямецкія могілкі раскопваць. Братан тым часам налаўчыўся нямецкія рэгаліі аднаўляць, а потым і падробкі стаў гнаць: падрабляў алюмініевыя спражкі. І так спраўна, што адмыслоўцы не маглі падкапацца. Толькі аднойчы ў Маскве, на Ізмайлаўскім кірмашы, падышоў адзін сіваагаловы дзядзька, зірнуў праз павелічальнае шкло на спражку і з уздыхам прамовіў: «Фуфло».

«Пад сядлом» у іх было пяць чорных капальнікаў. Сява з Дадонам, якія жылі ў вёсцы Ясіновікі, самыя актыўныя. У трох кіламетрах ад вёскі ваеннай парой месціўся нямецкі палявы лазарэт, поруч пахаванні, так што мальцам было дзе разгарнуцца. Сява з Дадонам за пляшку гарэлкі гатовыя ўвесь Азярышчанскі раён перакапаць. Надоечы ля руінаў царквы папоркаліся. Раскапалі сярод ночы магілу святара і срэбны крыж паднялі. Сярэдзіна дзевятнаццатага стагоддзя! А галоўнае, выдатна захаваўся. Эмаль, праўда, сям-там аблупілася. Звычайна Кастан усе знаходкі аддаваў Лаўрыку, а вось крыж вырашыў заныкаць. Такія рэчы ў Маскве і без рэстаўрацыі возьмуць.

Менавіта пра крыж і думаў Кастан, едучы нядзельным ранкам у Ясіновікі. А яшчэ маракаваў – ці не заныкаць заадно і Жалезны крыж, які знайшлі ясіновіцкія «археолагі». Калі ў добрым стане, можна таксама без рэстаўрацыі здаць. Праўда, кошты на іх апошнім часам збілі: фуфлагоны налаўчыліся падрабляюць.

Кастан быў у гуморы, і толькі адно псавала настрой: яго абганялі нават нямоглыя «жыгулі». Ды і не дзіва: дабіў машыну на вясковых праселіцах, і цяпер з яе больш за дзевяноста кіламетраў не выцiснеш.

«Грошы за папоўскі крыж дахаты не павязу. Пакладу ў маскоўскі банк. На чорны дзень», – падумаў Кастан якраз у той момант, калі звонку паўстаў дарожны ўказальнік з надпісам «Ясіновікі 5». «Мэрс» скаціўся з асфальту, наехаў з разгону на калдабан, і летуценныя думкі вылецелі з галавы.

У саму вёску заязджаць не стаў: загнаў машыну ў прыдарожныя кусты. Не хацелася лішні раз патрапляць на вочы вяскоўцам.

Па старой завядзёнцы ён сустракаўся з «падначаленымі» на ўскраіне вёскі – каля лазні крайняй ясіновіцкай хаты. Разгоністым крокам Кастан рушыў у бок лазні і здалёк убачыў Дадона – мядзведжага выгляду боўдзілу з гламаздаватай, бобрыкам стрыжанай галавой. Аднак ягонага напарніка Сявы – хударлявага, з даўгімі, як у папа Яўлампія, пэцаламі – не было бачна.

– Дзе Сява? – запытаўся Кастан, калі яны парукаліся. – Зноў напіўся?

Замест адказу Дадон шморгнуў носам.

– Ну а дзе тавар? – у голасе Кастанавым прагучалі ноткі незадаволення.

Дадон з летуценнай павольнасцю, нібыта шукаючы сярод травы той самы тавар, панурыў вочы і не зусім цвяроза пралепятаў:

– Нічога няма, шэф. Учора ўсё здалі.

– Здалі? Каму? – гэтым разам у голасе шэфавым гучала лёгкая паніка.

– Каму-каму... бандосам, – паныла азваўся Дадон. – Прыехалі на джыпе з маскоўскімі нумарамі. У іх, відаць, і пісталеты за пазухай. Як тут не здасі.

Галава ў Кастана закружылася, а ў вушах нарадзіўся замарачны шум.

– А як на вас выйшлі?

– Ды як... Сява патэлефанаваў па аб'яве. Аб'ява была ў газеце: «Набываем старыя рэчы». А на тэлефоне іхны чалавек сядзеў. Вось і заявіліся.

– Халхінголка засталася. У маёй цёткі на печцы ляжыць. Даўно хачу аддаць, ды ўсё забываю.

Халхінголка – даваенная, падобная на пажарную, каска з грэбнем на макаўцы – сустракалася даволі рэдка. Сталь тонкая, іржа раз'ядала каску дарэшты. Толькі адну і знайшлі. Старая бабця ў ёй хатнія кветкі гадавала. Аніяк не хацела аддаваць. Гэта ўжо як гаршчок прывезлі з дэкаратыўным кашпо – тады аддала.

Кастан шыбаваў па вёсцы, нібыта ветрам гнаны, ловячы ліхаманкавым позіркам рухавыя мыскі сваіх зношаных чаравікаў і маракуючы – як адбіцца ад бандосаў.

– Гэта ўсё Сява, – прабачальным тонам мармытаў Дадон, паспяваючы за шэфам. – Цэлы год скуголіў, што ты нам не даплачваеш.

ХАЛХІНГОЛКА – ДАВАЕННАЯ, ПАДОБНАЯ НА ПАЖАРНУЮ, КАСКА З ГРЭБНЕМ НА МАКАЎЦЫ – СУСТРАКАЛАСЯ ДАВОЛІ РЭДКА. СТАЛЬ ТОНКАЯ, ІРЖА РАЗ'ЯДАЛА КАСКУ ДАРЭШТЫ. ТОЛЬКІ АДНУ І ЗНАЙШЛІ. СТАРАЯ БАБЦЯ Ў ЁЙ ХАТНІЯ КВЕТКІ ГАДАВАЛА. АНІЯК НЕ ХАЦЕЛА АДДАВАЦЬ.

– Ну ўсё, хана табе, Сява! – Кастан ляпнуў кулаком па далоні, і Дадон, азірнуўшыся, сцішана прамармытаў:

– Яшчэ невядома, каму хана. Сява ім пра крыж распавёў. Ну... які ля царквы адкапалі. Так што яны і табой зацікавіліся. Зараз па раёне гойсаюць. Цяпер у Азярышча паехалі некага трэсці.

Заклаўшы рукі за спіну, шэф нервовым крокам, як Ленін у кастрычніку, прайшоўся да лазні і вярнуўся назад. Надарылася тое, чаго яны з братам заўсёды баяліся: расейскія бандосы вырашылі накласці лапу на іх бізнес.

– І што, усё забралі? – спытаў нарэшце Кастан, прычым проста так, каб нечым заняць самлелы язык.

– Ну а бандосы хоць заплацілі?

– Заплацілі! Далярамі! – жвава адгукнуўся Дадон.

– Заплаці-ілі... даля-арамі... – перадражніў суразмоўцу Кастан. – Замятуць вас каля абменніка, тады мяне згадаеце. Баксы няйначай фальшывыя.

– Ды я ніжэй травы... гэта Сява шукае прыгод. Кажу яму: сядзім ціха, а то і сапраўды замятуць за тыя раскопкі. Днямі ўчастковы з Азярышча прыязджаў. Пытаўся – хто там ля царквы поркаўся.

Дадонава балбатня не давала засяродзіцца на ўласных думках, таму Кастан незадаволена страсянуў галавой, і далей ішлі моўчкі.

Хата, у якую ўбіліся, была беднай і цёмнай. Гаспадыня – сухарлявая, падобная на мумію, бабуля – ляжа-

ла на ложку і нават не зварухнулася, пабачыўшы гасцей.

– Восемдзесят сем стукнула, – паведаміў пляменнік, кіўнуўшы на цётку. – Мой бацька маладзейшы, а немаведама калі памёр, а гэтая ўсё вохкае ды свет смуродзіць.

Кастан дакорліва перакрывіўся, маўляў, не варта казаць такое пра родных людзей, і суразмоўнік з вясёлым смяшком патлумачыў:

– Ды яна як пень глухая. Нездарма Цецярухай клічуць. Чуе толькі, калі ў вуха гракнеш.

Узлезшы на ўслон, Дадон пашнарыў рукой на печы і выцягнуў прапыленую каску. Дзьмухнуў, адчайдушна чхнуў і стаў хуценька мыць пад рукамыйнікам.

Халхінголка лагодзіла позірк. Нават падшлемнік захаваўся. Толькі тканіна спарахнела. Кастан правёў пальцам па грэбні – фарба ў тым месцы крыху аблезла.

– З вайны на печы ляжыць, – Дадон пачухаў стрыжаную макаўку ў спадзеўцы адразу ж атрымаць грошы за тавар.

– А хто яе туды паклаў?

Дадон перахапіў каску, падышоў да ложка і, пастукаўшы па халхінголцы косткамі пальцаў, крыкнуў цётухне на вуха:

– Тут чалавек прыйшоў. Пытаецца – хто яе на печку закінуў?

Цётухна адарвала галаву ад падушкі, улякнута глянула на госця.

– Йоп... каска, кажу... – пляменнік пхнуў халхінголку цётухне пад нос, – адкуль узялася?

– Дык гэта ж шапка такая жалезная. У вайну насілі, – зацкаваным голасам азвалася старая.

– А чыя яна? – гракнуў пляменнік, ды так, што ў Кастана зазвінела ўвушшу.

– Галапупенкі. Салдат гэта, акружэнец. Аднекуль з Украіны. Прыбіўся да маёй маткі. Амаль два гады ў нас жыў. А потым, ноччу, партызаны прыйшлі. Кажуць: альбо ідзеш з намі, альбо мы цябе прыстрэлім. Ну і пайшоў. Матка па ім усю ноч галасіла. І шапку жалезную ўсё жыццё берагла, думала, той прымак вернецца.

– А як ён да вас прыбіўся? – запытаўся Кастан, і Дадон гучна паўтарыў пытанне.

– Ды як... вайна пачалася, міма нашай хаты салдаты ішлі... чырвонаармейцы. Страшныя, галодныя... Галапупенка гэты да нас і забег. Есці папрасіў. Матка штосьці ўзялася яму гатаваць, а той як стаяў пасярод хаты, так і грымнуў на падлогу. Думалі, памёр. А ён ад знямогі паваліўся. І як стаў храпці! Аж саганы загулі на чарэні. Мы ўжо і тармасілі, і вадой у твар пырскалі – ані ў знак. А недзе пад вечар матацыкл пад вокнамі залескатаў. Тут ён і прыхапіўся. Кінуўся да вакна, а на двары, ля калодзежа, немцы мыюцца. Памыліся і, па пояс голыя, да хаты пасунулі. А Галапупенка з перапуду ў падмосце сігануў. Потым заўсёды там хаваўся, як немцы ў вёску прыязджалі.

– Ну а што немцы? – разам запыталіся Кастан з Дадонам.

– Хадзілі з кута ў кут, усё рукамі мацалі ды галовамі ківалі. І матцы нешта рукамі паказвалі. Б'юць пальцамі па кулаку, а мы стаім, да смерці перапужаныя, і нічога не разумеем. Аказваецца, прасілі ў печы запаліць ды вады нагрэць – пагаліцца хацелі. Матка ім чыгунок і нагрэла. Паголіліся, значыцца, з'елі па бляшанцы тушонкі і гарбату сталі піць. І такое ў іх было смакоцце пад гарбату! Топленае масла, з мёдам перамяшанае. Яны і нам, дзятве, далі пакаштаваць... – старая відавочна ўзрадавалася, што знайшліся ахвочыя паслухаць яе байкі, таму, перавёўшы дых, працягвала: – А праз месяц яшчэ адзін салдат прыбіўся. Прозвішча ўжо і не памятаю. Дужа добра на гармоніку граў. Дзеўкі на вячоркі з усяго наваколля збіраліся, каб паслухаць. Гарманіст, праўда, у нас нядоўга жыў. Прыйшлі партызаны і таксама загадалі з імі ісці,

а ён адмовіўся. Яны яго і застрэлілі. І гармонік забралі...

«Ну і ваякі, – падумаў Кастан, слухаючы старэчую балбатню, – адзін у падвале сядзеў, другі на гармоніку пілікаў».

За тонкай перабойкай, якая аддзяляла кухню ад святліцы, радасна засквірчэла яечня. Дадон завіхаўся, даючы зразумець, што закусон ужо гатуецца, а грошай на бутэльку ён так і не атрымаў.

Кастан агледзеў халхінголку з усіх бакоў. Каска нагадвала нямецкую. Нездарма ў дзяцінстве, калі глядзелі «кіны», знятыя падчас вайны ў Алма-Аце, увесь час спрачаліся – каго паказваюць на экране: нашых ці немцаў. Бо ў «нашых» на галовах былі халхінголкі. Уздыхнуўшы, Кастан ляпнуў далонямі па сцёгнах, згадваючы, у якой кішэні ляжаць грошы, ды так і замёр у нерухомасці. Пад вакном, узняўшы воблака пылу, спыніўся серабрысты «чэрокі», з якога выйшлі тры бамбізы ў скуранках.

– Яны! – выдыхнуў Дадон, і шэф, імпэтна, нібыта рыхтуючыся да бою, насунуў на голаў каску.

Кастан матлянуўся да парога, але быў схоплены за рукаво.

– Позна, – пралепятаў Дадон, зганяючы нагой убок даматканую дарожку.

З задышлівым крэканнем Дадон узняў люк.

– Сюды!

Папярочына лесвіцы глуха трэснула, і Кастан паляцеў долу, стукнуўшыся патыліцай аб штосьці цаглянае. І хаця на галаве была каска, яго добра-такі аглушыла. Сэрца парывіста білася, глухім звонам адбіваючыся ў вушах. У падмосці панавала апраметная цемра, пранізліва пахла гнілой бульбай і не хапала паветра. Над галавой рыпнулі масніцы, па іх хтосьці капытліва прайшоўся. Галасы гучалі глуха, няўцямна, і немагчыма было разабраць аніводнага слова.

«Сяджу тут, як Галапупенка, – Кастан рашуча заміргаў вачыма: веі ад вільгаці заліпалі, быццам на марозе. – Той ад акупантаў хаваўся, цяпер і мне давялося. А гэтыя акупанты страшней ад нямецкіх. Бач ты... гойсаюць, нібыта ў сябе дома. Хахлы б ім даўно далі выспятку, а нашы людзі і пікнуць баяцца», – халодны страх у душы паволі саступаў месца палкаму абурэнню.

Грукатлівыя крокі аціхлі. Кастан наструніўся, спадзеючыся, што люк адчыніцца, ды той не адчыняўся.

«Але ж адкуль даведаліся, што мы ў глухой Цецярухі?» – мільганула гарачкавая думка, і ў свядомасці ўзнік кудлаты Сява.

– Яшчэ з табой, кудла, сустрэнемся, – уголас прасіпеў Кастан і люк з гнятлівым рыпам прыўзняўся.

– Сказаў, што ты да машыны пабег, – выдаў Дадон, дапамагаючы шэфу выбрацца са спрату.

Хвіліну шэф парывіста дыхаў, потым рушыў да дзвярэй, а ўзяўшыся за клямку, схамянуўся, запусціў руку ў кішэнь і, скамячыўшы колькі цупкіх паперак, тыцнуў іх у Дадонаву далонь.

Кастан бег, убіўшы, як падчас артабстрэлу, галаву ў плечы, а падляцеўшы да машыны, пастукаў нагой па колах – бандосы маглі праткалоць скаты. Зморана налёг на стырно і толькі тады адчуў, што на галаве халхінголка. Ён зняў каску, кінуў на сядзенне, крутнуў нягнуткімі пальцамі ключ запальвання. Нага рашуча прытапіла понаж газу, «мэрс» тузануўся, выехаў на дарогу, і ў тое ж імгненне з-за прыдарожных кустоў яму напярэймы вынырнуў серабрысты джып. Сэрца абарвалася, і рука машынальна паляпала па цёплай паверхні каскі. Маўляў, не хвалюйся, браток, прарвёмся.

Першым з джыпа выскачыў Сява. Ён і сапраўды быў падобны да айца Яўлампія, якому Лаўрык зрабіў масянжовы крыж і які, замест таго каб заплаціць за працу, перахрысціў брата і гамзатым казлятонам праспяваў: «И воздастся нам за грехи наши». Кастан яшчэ раз паляпаў па касцы і з усведамленнем таго, што яго зараз будуць біць, вылез з машыны.

# ТАНЯ СКАРЫНКІНА

## БОГУСЬ

Яна пераходзіла дарогу ад цэнтральнага прадуктовага да бібліятэкі. Вусны ў прастудных больках падсохлых, вочы жыва пазіраюць, на месцы не спыняюцца. І калі ўключыўся зялёны святлафор, я не стала пераходзіць на другі бок, засталася чакаць яе, да канца няўпэўненая, што гэта сапраўды яна. Бо не сустракаліся даўно. Адразу не ўбачыла мяне і пайшла па дыяганалі ад сярэдзіны пераходу, ігнаруючы белыя палоскі на шашы. Галоўнае, усе пешаходы, іх было шмат у дзённы час нядзелі, рушылі праз пераход па прамой, яна ж абрала даўгую такую дыяганаль у бок ГУМа. У бок ад мяне. Я паклікала:

– Маланка!

І толькі тады яна падышла.

Маланку здалёк было відаць. Пякельная неадпаведнасць частак гардэроба па стылі і колеры вылучалі, як заўсёды, Маланку: да зямлі тыгравай размалёўкі палітон з дэрмаціну, грубых нітак малінавым горлам швэдар лыжніцкага фасону вытыркаецца з-пад каўняра магутным бугром у вуграх катышкаў. Цеплыня, а на ёй швэдар пад палітон. Усё роўна радуюся сустрэчы і адразу ў лоб пытанне стаўлю. Рыхтавала яго для Маланкі з паўгода. З таго часу, як накорпала ў паперах чарнавыя вершы аднаго знаёмага паэта і тады ж вырашыла пісаць пра яго. Гэта яшчэ з часоў, калі працавала ў газеце і вяла рубрыку літаратурную. Я тады з-за паспешнасці не разабрала, што ў ягоных вершах нешта ёсць. З-за катэгарычнай маладосці яшчэ. Вось і пытаю Маланку:

– Памятаеш, сябравала ты з паэтам-дзіваком з вёскі Зухаваткі? Бронусем яго звалі, ці як?

– Табе навошта? – падазронасцю адрознівалася Маланка і адрозніваецца. З ёй заўсёды варта быць напагатове, каб не развярнулася на 180 градусаў, каб не ўцякла.

– Напісаць хачу пра яго, – адна толькі шчырасць перамагае недаверлівасць.

– Богусь. А дакладна Багусвет Ісідаравіч Смаргонскі, – адказала Маланка, не без падставы ганаруючыся выкручастым імем паэта і таварыша блізкага свайго.

– Памёр на руках мамы маёй, – дадала Маланка.

Я нібы ўбачыла карціну паэтавай смерці. І яна была маляўнічая. Як «Смерць камісара» Кузьмы Пятрова-Водкіна. Пашукала і знайшла для стварэння пісьменніцкага настрою паштоўку ва ўласнай калекцыі рэпрадукцый, дзе памірае камісар на руках простага салдата. Прыгледзелася,

а Багусвет з камісарам, як двайняткі падобныя. Тыя ж валасы прылізаныя, боты кірзавыя. Можа, Багусвет насіў і што іншае на нагах, але я бачыла выключна ў ботах. А яны і ў 20-я, і ў 2000-я выглядалі аднолькава. Кепка побач з камісарам валяецца ў дакладнасці, як у Багусвета. У тым сэнсе, што падобная, толькі Багусветава не валялася, а шчыльна абхоплівала гарбузападобную галаву.

– А ты ведаеш, што ў яго была шызафрэнія? – пытаецца Маланка, перакананая, што не ведаю, а я ведаю.

– Я заўважала прыкметы, – расчароўваю суразмоўніцу.

І без пераходу Маланка рапартуе: «Пакінуў мне 18 залатых пярсцёнкаў». Твар з сумнага ўраз робіцца значным.

– Па тры грамы кожнае, – канкрэтызуе яна.

Увогуле, невялікай вагі пярсцёнкі. Заручальныя, напэўна. Сапраўды Брытанскі інстытут стандартаў пацвердзіў: «Вага жаночага заручальнага пярсцёнка павінна адпавядаць 2,743 г».

Незразумела, адкуль у вясковага паэта-дзівака столькі пярсцёнкаў заручальных.

Можа быць, 17 разоў ён збіраўся ажаніцца, і яму адмаўлялі ўсе 17 разоў. І ўсё трапляліся нявесты з безназоўнымі пальцамі розных памераў на правай руцэ. Вось і назапасілася багацце. Але калі я распавяла па тэлефоне сваёй сяброўцы О. пра пярсцёнкі, дык практычная О. выказала здагадку, што гэта адзін са спосабаў укладвання грошай: у ювелірку. Проста дакупляў, калі грошы меў.

Учора глядзела адзін з апошніх фільмаў Вудзі Алена «Язмін». Там галоўная гераіня, якая калісь была багачкай, зведвае жыццёвы крах. Размаўляе сама з сабой на нервовай глебе і ў тым ліку прагаворваецца: «Любыя каштоўнасці – выдатная інвестыцыя».

Сама ж ужо без капейкі.

І Багусвет жа выглядаў незаможным. Даношваў касцюмы за бацькам, а той, напэўна, за сваім бацькам. Прынамсі, з’яўляўся на парозе рэдакцыйнай хаткі нязменна ў палінялым строі пасляваеннага фасону. У наглуха зашпіленай кашулі. Мой дзядуля на ўсіх здымках дакладна меў такі ж глухі каўнер. У руцэ Багусвета нязменная зрэбная торбачка з рукапісамі. Але як бы там ні было, пярсцёнкі прыкупляў, калі верыць Маланцы. Цьмяна ўспамінаю гісторыю пра пояс Арцюра Рэмбо ў гэтай сувязі. Захоўваліся ў поясе манеты залатыя. Рэмбо не здымаў пояс апошнія гады жыцця да самай смерці. І памёр з поясам на змучаным целе.

«Я баюся страціць і тое нямногае, што маю. Уявіце сабе, я ўвесь час нашу ў поясе больш за 40 тысяч франкаў золатам; яны важаць каля васямнаццаці кілаграмаў, і ад гэтага я ўжо так аслабеў, што нават захварэў на дызентэрыю», – паведамляе паэт сваякам у лісце з Каіра. Апошнія 10 гадоў жыцця Арцюр правёў у Афрыцы, гандлюючы скурамі дзікіх жывёл, вострымі прыправамі, кавай, рабамі і зброяй. Марыў зарабіць на нябедную старасць, а памёр у 37. Не паспеў патраціцца з шыкам.

УЧОРА ГЛЯДЗЕЛА АДЗІН З АПОШНІХ ФІЛЬМАЎ ВУДЗІ АЛЕНА «ЯЗМІН». ТАМ ГАЛОЎНАЯ ГЕРАІНЯ, ЯКАЯ КАЛІСЬ БЫЛА БАГАЧКАЙ, ЗВЕДВАЕ ЖЫЦЦЁВЫ КРАХ. РАЗМАЎЛЯЕ САМА З САБОЙ НА НЕРВОВАЙ ГЛЕБЕ І Ў ТЫМ ЛІКУ ПРАГАВОРВАЕЦЦА: «ЛЮБЫЯ КАШТОЎНАСЦІ – ВЫДАТНАЯ ІНВЕСТЫЦЫЯ».

Але дзіўнае супадзенне 18-ці пярсцёнкаў Богуся і 18-ці кілаграмаў Арцюра. Я супакоіцца не магла. Усім запар пра гэта трапала, а пасля задумалася раптам, што нешта занадта цяжкая паўсядзённая ноша на працягу некалькіх гадоў. Менавіта апошніх чатырох. І сапраўды, пакапаўшыся ў нататках пра паэта, знаходжу наступнае ўдакладненне:

«Друкуючы лісты Рэмбо, Патэрн Берышон, муж паэтавай сястры, замяніў сціплую суму ў 16 тысяч на 40 тысяч франкаў». Лепш бы я гэтага не ведала. Вага пояса знізілася да 8-мі кіль. Зблізіць паэтаў хаця б лічбава не ўдалося залатымі іх запасамі. Шкада.

І яшчэ моцна шкада, што наіўныя вершы Багусвета не здолелі перамяніць, уразіць, абразіць, захапіць і зняважыць свет, як гэта атрымалася ў Арцюра Рэмбо. Паэзія Багусветава была занадта далікатнай для буйнога чалавека са звычкамі блазна. У яго паводзінах шмат наноснага было, але я гульню яго хутка выкрыла. Што ў якасці самаабароны гэта робіцца, што прыдурваецца. Натуральна ідыётам сябе выстаўляе. Я аднойчы яму сказала ў сенцах рэдакцыйнай хаткі, дзе мы заўсёды палілі. А Багусвет не паліў, не. За кампанію выйшаў. Я кажу:

– До ўжо выдурвацца.

Ён быццам маску зняў:

– Як вы здагадаліся, што я не сапраўды?

– Па вачах. Вочы ў вас разумныя, а твар крыўляецца разам з мовай.

Ён дурэць і кінуў. Таму што шызафрэнік – гэта ж не значыць, што дурань. У мяне ёсць знаёмыя, хворыя на шызафрэнію. Ніякае дурасці ў іх не заўважала. Гэта я цяпер бы так сказала Багусвету, калі дакладна ведаю пра яго хваробу, калі б ён быў жывы.

І ўсё-ткі трэба спытаць Маланку пра пярсцёнкі: адкуль і навошта іх столькі. Мяне гэта замучыць, калі не даведаюся праўды. І вершы Багусвета ўзяць у яе. Яна казала, што ўсе рукапісы дасталіся ёй. Мне кропельку таксама перапала. Шматлікая самаробная літаратурная творчасць горада і раёна прайшла праз літаратурную старонку газеты. У тым ліку вершы Багусвета Ісідаравіча, запісаныя на вокладках школьных сшыткаў буйным круглым почыркам. Прыводжу адно, паказальнае невяскровай экзатычнасцю:

*Строчки стихов из верлибра,*
*как погибал поверженный вепрь.*
*Шикарна добыча для тигра,*
*а тигр был могучий как Днепр.*

*Но однажды на льду Енисея*
*вепрь был совершенно другой*
*и птицы смотрели немея,*
*как кровавой сверкал бой дугой.*

*Тигр опять задавил вепрЯ,*
*но тот ему разорвал живот.*
*Дожидалися птицы не зря,*
*а потом поднялися на взлет.*

*И долго клевать не смели*
*две огромные туши на льду,*
*но все же потом сумели*
*крови напиться, как лилии*
*водЫ в пруду.*

*пир был на полну завязку*
*остались лишь голые кости*
*я кончаю жестокую сказку*
*все живущие твари лишь*
*времени гости.*

Кожны раз, успамінаючы Багусвета, я цытую пра сябе гэты верш. І вокамгненна з глыбінь той часткі мозга, якая адказвае за жывапіс, вырастае маляўнічае палатно ў наіўным стылі мастака-самавучкі Анры Русо «Дзве тушы на лёдзе Енісея». Пасуе гэтаму вершу і яшчэ адна карціна Русо – «Тыгр, які напаў на быка». Толькі не на лёдзе бойка там, а ў джунглях, дзе Русо не быў. Як і Багусвет на Енісеі. Ён з вёскі нікуды не выязджаў, акрамя райцэнтра.

Узрост Багусвет меў нявызначаны, 40-60. Хутчэй стары, чым малады, але скура на твары гладкая. Шчокі ружовыя дзявоцкія. Галава круглая, лысая. Погляд незабудкавы, дзівакаваты. Увесь ён быў нетутэйшага часу і крою чалавек. Ён ведаў пра сябе, што дзіўны. Вершы мо нават таленавітыя. Ды моцна адчуваўся недахоп адукацыі. Але быў задаволены сваёй творчасцю. Я не пераконвала Багусвета дапрацоўваць напісанае. Пачаў ва ўдзячнасць называць мяне Карыначка. Вытворнае ад прозвішча Скарынкіна. І нават запрасіў на марозіва. Я ледзь не звалілася ад здзіўлення прама на ганку рэдакцыйнай хаткі да ног ягоных у стаптаных ботах. Але стрымалася і пагадзілася. Сказала сабе: «Я гляджу кіно».

І мы пайшлі ў бліжэйшую кавярню і адзіную ў горадзе без алкаголю. Буфетчыца не хавала здзіўлення ад выгляду Багусвета. Наведвальнікі таксама. Як на злосць, усе знаёмыя, яны дружна ачмурэлі, а я вонкава спакойна пасадзіла кавалера за столік і пайшла заказваць. Відавочна было, што ён не часты госць харчовых устаноў. Зрабіўся бурачковы, рукі паміж каленяў заціснуў разам з кепкай. «Сам жа запрасіў, – думаю помсліва, – цяпер сядзі, пакутуй». «Грошы ёсць?» – перад гэтым запыталася. Ён моўчкі паказаў каляровыя паперкі з бабрамі і мядзведзямі, якія ўжо выйшлі з карыстання. Невядома, як толькі да горада дабіраўся і ў вёску назад. А ў яго ж, як цяпер разумею, было пасведчанне па псіхічнай хваробе на бескаштоўны праезд.

Карацей, не заставалася нічога іншага, як па порцыі купіць за ўласныя грошы абодвум і моўчкі з’есці. Сумна было Багусвету і сорамна. Праводзіў да рэдакцыі без аніводнага слова. Болей мы ніколі не бачыліся.

Дзяўчаты з рэдакцыйнай бухгалтэрыі заўсёды пырскалі ў далоні, калі ён наведваўся. Бывае, прыходжу на працу, а ён ужо вершы чытае. Яны рагочуць. Але спачатку доўга выцірае ногі. Камечачы ў руках кепку, кланяецца. Просіць паклікаць Карыначку. Я гатовая была задушыць яго за гэтую мянушку. Ледзьве перавучыла называць імем. Аднойчы прысвяціў мне верш. Згубіла паперку, памятаю адтуль літаральна чатыры звышпафасныя радкі:

*Чтоб понять твою душу, Татьяна,*
*нужно в космос за нею лететь.*
*Но полет должен быть без изъяна,*
*а для этого многое нужно уметь.*

Напрыклад, умець па-іспанску скакаць. Аб гэтым ён піша ў наступным вершы, які таксама застаўся ад яго на вокладцы сшытка:

*Устал я стихи писать,*
*стонет измучена лира моя,*
*вот если б лихо сплясать*
*умел по-испански я,*

*в танец вошла бы Кармен,*
*призрак вернее ее,*
*танец как смерть без измен*
*и это право мое.*

*Мы спляшем с тобою Кармен, о да!*
*Между нами кровавые узы давно.*
*Ты смертельной любви звезда*
*и я пью за тебя бессмертья вино.*

Гэта другі і апошні верш, які застаўся ад Богуся. Але я падбіла прыяцельку з машынай паехаць у Зухаваткі, каб адшукаць сляды паэта. Можа, не чарнавікі, дык хоць успаміны чые-небудзь, знаёмцаў яго аб ім. І тут прыязджаем. Добра, што настаўніцу адну ведаю з Зухаваткінскай школы. І такім чынам дазналіся, што жыў ён у Ахмістрынях, праз дарогу ад Зухаватак. Мы аб’ехалі ўсе пяць зухаваткаўскіх дамоў. Анікога нідзе. Толькі на ўскрайку вёскі на падворку дровы пілавала сям’я. Праз плот крычу: «Можа, што пра Богуся Смаргонскага

ведаеце?» Яны крычаць: «Нашто вам?» Але не падыходзяць. Дровы ўжо сякуць, зрэдку пазіраюць. Крычу: «Паэт ён быў! Хачу напісаць пра яго!» «Нешта пра нас не сачыніў нічога!» – крычаць у адказ. Так ніхто блізка і не падышоў. «Ідзіця да Генуэфы. Яна з ім дружыла, і спрасіця. Яна ў пачатку вёскі жыве».

А мы ўжо на двор Генуэфы заходзілі, нікога там не было. Дзіва ж тое, што на адваротнай дарозе ўжо Генуэфу мы засталі. І праўда, яна сказала – так, прылятаў да яе ці гарбаты папіць, ці солі пазычыць.

– Ці мо засталіся ў вас якія чарнавікі ягоныя? – з галоўнага пачынаю, бо цямнее. А яна прастылая. Закладзена ўнутры ў яе ўсё, чуваць па гаворцы, і дыхае цяжка. Немаладая. Хворая. Трэба рабіць інтэрв'ю ў сціснуты тэрмін.

– Не, не астаўляў ён нічога. Ён і цятрадкаў не купляў, бо не было за што. Между радкамі ў кніжках пісаў. Бальшынство ў кніжках пісаў. Дзе яны дзеліся, не знаю. Можа, у суседа спрасіць. Ён займаецца гэтай хатай, заведуе. У яго ключы ёсць. Там шкафы стаяць. Можа там дзе і ляжаць. Пэўна, ёсць яны там. Чаго ён іх будзе выкідаць.

– А даўно Багусвет памёр?

– Калі ж гэта стары памёр? Ужо 8 лет нету нашага, гэта сама мала. Значыць Богусь 10 лет як памёр.

Гэта я так зразумела «наш» і «стары» быў муж ейны.

– Гэта колькі яму было?

– Ён з 1946-га. Значыцца… 62.

– Які ён быў у зносінах, у паводзінах?

Я не паспела нават дакончыць пытанне, калі Генуэфа з ласкавай і горкай усмешкай вокамгненна адказала:

– Чудак.

Прыгожа вочы затуманіліся ейныя і сталі як маладыя пры гэтым. Вельмі добрыя сталі яны, ледзь не пазайздросціла нябожчыку.

– У арміі не служыў. Узялі яго і назад адпусцілі, скамісавалі. Яго штота там пабілі ў гэтай арміі. Хто там знае, што там было. Вярнулі дамой. Ён так і бадзяўся, – лагоднасць патроху сыходзіла з твару Генуэфы.

– Не было ў яго сям'і?

– Бацька і матка. Але паўміралі даўно.

– Тут усю жызнь пражыў?

– Усю жызнь тут адзін пражыў. Ну, і з гэтай з Маланкай пад канец. Яна тут яго падчышчала.

Генуэфа па-добраму смяецца. Смех такога характару: маўляў, усякае здараецца. Трэба гэта разумець і спачуваць.

– Як яна найшла яго? Як ён яе найшоў?

Генуэфа нібы ўсё жыццё інтэрв'ю давала, бо адкашлялася і хутка сказала, не задумаўшыся, як і што:

– Па сціхах.

– Вось як.

– Ён пісаў і яна пісала. Дзе-та яе найшоў, сазваніліся. У горадзе там нешта было. Встрэча паэтаў. Ён туда паехаў, і яны сдружыліся. Ён после там пачці всегда зімаваў. Трошкі памагаў Маланкавай матке ва дварэ чысціць снег. Сюда прыезжалі, а патом ужо як дайшоў ён да ручкі. Усе грошы сцягне Маланка. У яго рабіць сіл нету, а есці хочацца. Дык пойдзе у сельсавет. Дык прэдседацель як яе выгнаў, так ён тагда ўзяў у галаву. Папаў у псіхбальніцу. Не піў, не еў. І памёр.

Генуэфа расчулілася і з цяжкасцю дасказала жыццё паэта Багусвета. Я кажу, каб нешта сказаць:

– З-за Маланкі, атрымліваецца.

– Да. Да. Такая любоў была, што…

– Ён яе любіў.

– Любіў, ну.

– Што пра яе не скажаш, канешна.

Памаўчалі. Было ясна, што не любіла. Генуэфа запытался:

– Ці замужам яна хоць?

– Хто яе ведае. Але мне падаецца, што папівае.

– Ну і тут яны пілі. Яна прыедзе. Хлеба куска не прывязе. А бутылку. Ён тады прыляціць: «Геня, дай хлеба. Прыехала Маланка».

І ТУТ ЯНА САМА ПАЧАЛА ПРА ГАЛОЎНАЕ, ПРА ШТО Я ПАВІННА БЫЛА САМА РАСПЫТАЦЬ. АЛЕ МЯНЕ НАДЗВЫЧАЙНА ЗАЧАРАВАЎ ЕЙНЫ ХОЦЬ КАРОТКІ, АЛЕ НАСЫЧАНЫ РАСКАЗ, ШТО Я ПРА БОЛЬШАЕ І НЕ МАРЫЛА, КАЛІ РАПТАМ ЯНА СКАЗАЛА: – А ШТО СЦІХІ ЯГОНЫЯ, ДЫК У ЯГО Ў АДНО УХА ЗАЛЯЦІЦЬ, У ДРУГОЕ ВЫЛЯЦІЦЬ. НЕАБРАБОТАНЫЯ.

– Яны былі неблагія, але ён ніколі не працаваў над імі, – кажу.

– Да-да. Не давадзіў да канца нікагда. Я кажу: «Калі ты пішаш?» «Ноч'ю. Прыдзе такое мгнавеніе. Падымаюся і пішу». У кніжкі піша, значыць. Между строчак. Почарк быў нармальны ў яго. Крупны быў.

– Я бачыла.

– Да. Чудачок ён быў, – раптам зноў ласкавым і маладым голас у Генуэфы робіцца. Пяшчотным нават, як пра анёла ўсё роўна расказвае. Ён таму і хадзіў па соль, па хлеб да яе.

– Чудачок, але не дурачок, – кажу.

– Нeee! Яго шчыталі дурачком, а ён быў ой далеко не дурак.

– Ён да нас у рэдакцыю прыходзіў, і мы размаўлялі. Я не адразу, але зразумела, што чалавек глыбокі.

– Ён да ўсіх хадзіў, у яго вездзе былі друзья. І на швейнай фабрыке, і ў райсабесе. Кажа раз: «Хочаш пенсію перараблю, каб раней палучаць?» Я гавару: «Адзін раз у месяц і так, і так палучаю». А ў яго вездзе блат, усе яго зналі.

Пасля я запыталася, ці можна трапіць у хату, каб паглядзець на тыя кніжкі з вершамі паміж радкоў. Але высветлілася, што сусед з ключамі знік у невядомым напрамку. На тэлефонныя званкі не адказвае. У хату мы не патрапілі.

– Была я ў той хаце, – Генуэфа спачувальна пачала мне апісваць убранне жытла паэтава, – усе шкафы на месце стаяць і кнігі. Як Богусь памёр, дык ніхто там не жыве. І жыць не будзе. Яна халодная.

– А каму гэты дом цяпер належыць?

– Брату. Але мала бывае.

Мы памаўчалі-паўздыхалі. Я кажу:

– Карацей, пражыў жыццё паэт, нікому не вядомы.

– Ён і не быў паэтам.

– Вось як!

Смяёмся.

– Я раскажу, які ён быў паэт. Ён ехаў з горада, і ехаў з ім сусед п'яны. Узяў і абасцаўся в аўтобусе. І ён на яго злажыў сціх. І пайшоў наутра яму прачытаў. Тот яго чуць не адлупіў. Усё! З гэтага мамента ён стаў пісаць. Вот у яго гэта праснулася.

– Штуршок.

– І так на хаду выдумаў складна ўсё. Хадзіў па дзерэўні ўсім чытаў. А яму ж неудобна, старасце дзерэўні. І вот Богусь стаў хадзіць, як начаў пісаць, у школу па абложкі ад цятрадак, чарнавікі якія непатрэбныя.

– Чаму не мог сшыткі купіць сам? Пенсію ж меў.

– А пенсія дзе была? У Маланкі. Цягнула і цягнула паследняе з яго. Сразу ён мне проста казаў: «Мы паэты. Мы дружым». А патом ужо перарасло ў настаяшчае. Ён яе любіў. Дзействаельна любіў. А после прэдседацель сельсавета пасадзіў яе ў машыну, вывез на астаноўку і стаяў, пакуль яна не ад'едзе на аўтобусе. Большэ яна тут не аб'яўлялася. Толька, як Богусь лёг у бальніцу, прыехала раз. А вот чаго яна прыязджала? Хацела цераз акно залезці, но сусед прагнаў.

– У хату да Богуся хацела?

– Ага. Можа, сціхі гэтыя хацела? Чорт яе знае, што яна хацела. Наверна, сціхі. Перапісала б на свае, і ўсё.

І ўсё. Мы з'ехалі.

Праз колькі дзён я патэлефанавала жонцы суседа, у якога ключ.

Бо, па-першае, марыла ўбачыць кнігі з вершамі між радкоў. Па-другое, карцела дакончыць гісторыю ўжо хутчэй, бо з-за яе не рухаліся іншыя пісьменныя справы. Я не магу пачынаць новае, пакуль не дараблю пачатае. А тут чую ў слухаўцы з жалем, што няма там кніг, нічога няма. Усё брат забраў. Ну, думаю, цяпер брата трэба шукаць. А жонка суседа кажа, што ў «Аднакласніках» яго можна знайсці: Здэнэк. І сапраўды, ёсць. Напісала яму: «Так і так, вось можа маеце вашага брата вершы, бо цікаўлюся, пішу пра яго». Здэнэк шчыра адказаў, што холадна ставіўся да творчасці братавай. Але цяпер апублікуе ў сеціве. Нібы не заўважыў маю просьбу ўбачыць на ўласныя вочы гэтыя змененыя рукапіснымі радкамі кнігі і перапісаць вершы менавіта для гэтага апавядання. Але я не крыўдую. Брат усё ж, мае права. Тым больш я, напэўна, запыталася б пра пярсцёнкі. І ён бы вырашыў, што звязаўся з вар'яткай. Бо нешта падказвае, што ніякіх пярсцёнкаў не было. І, адпаведна, сувязяў з Арцюрам Рэмбо. Акрамя таго, што абодва паэты. Абодва памерлі ў шпіталі. Ды раптам узяць і даць ім побач пастаяць. На відовішча, немагчымае ў жыцці, палюбавацца з усіх бакоў і вярнуць назад. Кожнага на сваё асобнае месца за божай пазухай беспамернай.

# ВЕРА ФИЛЕНКО

## СЕРЕБРЯНАЯ ПУЛЯ, ЗОЛОТАЯ ЗВЕЗДА

Если открыть эти деревянные жалюзи, за ними должно оказаться море, ну или хотя бы надежда на него в виде выгоревшей желтой штукатурки дома напротив и вихра вынесенной на лето юкки, – но нет, за ними висит целлофановая взвесь дождя, блестящими складками накрывающая строительную пыль на тротуаре, поэтому чего их трогать почем зря. Я смотрю перед собой в кружку с засохшей молочной пеной, которая выглядит твердо и неприятно, как корка зубной пасты в раковине, наспех выплюнутой кем-то за несколько часов до твоего пробуждения. Ищу глазами официанта, чтобы неловко всучить ему кружку, но он меня не замечает, а я так и не осмеливаюсь поднять руку. Рядом сидит Леша, он рисует на бумажной подстилке цветастого медведя – шерсть на медведе стоит дыбом. Судя по силуэту, у медведя множественные внутренние переломы, но ни медведя, ни Лешу это нимало не волнует. Я немного завидую Леше, его настойчивой беззаботности, хотя это же стыдно – завидовать пятилетнему ребенку, который в остальном может потягаться с тобой разве что в количестве игрушек, которые больше не нужны.

Я жду, пока Леша дорисует медведя и допьет какао, доест распаренные зефирины, прилипшие ко дну, – мы ушли бы уже давно, но официанту куда интересней его напарница у кофе-машины, чем мои потенциальные скудные чаевые. Впрочем, нам некуда торопиться, Марина придет лишь через час, она заберет Лешу под часами, как когда-то забирала мама меня. В семь вечера она выныривала из метро, как пловец в стиле баттерфляй – делая глубокий вдох над вспоротой гладью воды, одновременно мощным гребком увлекая меня за собой на дно (делать уроки, быстро ужинать, рано вставать, дай отдохнуть), и теперь так же делает Марина. Я рассматриваю Лешу – у него вздернутый чистый нос, похожий на мой, длинные ресницы, похожие на мои, на этом наше сходство заканчивается, и я этим неприятно встревожен. Я думаю: приходит ли Марина на утренники к Леше, как мама? Обычно я высматривал ее в темной толпе сгрудившихся у дверей пап, опоздавших со службы, первые ряды были заняты пунктуальными родственниками, которые с гордостью лорнировали своих детей через объективы фотоаппаратов. По сигналу мы выходили из-за бархатной шторы

толпой снежинок, зайчат, лисят, ежат (ежей? нет, все-таки ежат), пиратов, серебряных пуль, золотых звезд. Среди них я – в своей парадной белой рубашке с неубиваемым серым пятном в нагрудном кармане, маске медведя из супермаркета с приветливо-пустым выражением лица на плоской картонной морде и тремя чахлыми строчками роли (в декабре я постоянно болел). Мне нравится думать, что Марина сидит там, среди мам в первых рядах, гордо поднимая камеру вверх, как стяг, когда на сцену выходит Леша с богатым стихом на две строфы. Наверняка на Леше серебряный плащ, в руках его мой серебряный меч, который я подарил ему на день рождения, он поднимает его над головой и ослепляет зал сиянием и отраженной в нем любовью.

– Я в туалет хочу писять, – четко говорит Леша, бросает в медведя красным карандашом и независимо шагает в туалет. Я все-таки завидую ему – теперь из-за умения четко озвучивать свои желания там, где они могут исполниться быстро и в полном соответствии запросу.

Официант проходит мимо, я набираюсь духу и практически дергаю его за рукав, прошу счет и добавляю: «И еще чашку двойного эспрессо». Тот, кажется, впервые внимательно смотрит на меня, спрашивает: «Молодой человек, вы уверены насчет кофе?» – не дождавшись ответа, нагибается через стол и крутит ручку деревянных жалюзи за моей спиной. Те проворачиваются с легким масляным скрипом, запуская на стол косые полоски тусклого плоского света, и все вокруг застывает, становится таким же зыбким и ломким, как стереокартинка на линейке с «Ну, погоди». Я смотрю на замершего у двери Лешу, занесшего ногу в сбитом кроссовке, осторожно вытягиваю руку, раздвигая пыль, побившую воздух, как зерно – пленку. Пыль расходится кругами, я сжимаю пальцы, пытаясь ухватить ее, воздух, момент, когда всем телом слышишь сухой щелчок стрелки часов, сделавшей тихий шаг туда, где заканчивается дождь, а море становится ближе, но уже понимаю, что не поймаю, не запомню, не этими словами;

я их еще не знаю, как и тысячи других, которые только предстоит узнать, чтобы часть их них оставить, а многие – не произнести вслух больше никогда;

а пока лишь смутно ощущаю, как обещание этой возможности пробегает по телу и наливается в груди гудящей стальной пружиной. Она заполняет меня и резко бьет изнутри – я открываю рот, чтоб выпустить ее наружу, но слышу свой голос, который говорит, как сквозь воду: «вообще-то, мне уже четырнадцать», сонно думаю: «что за глупость, зачем ему это знать», и через миллионы лет делаю первый глоток кислой тягучей жидкости, которая однажды прочно войдет в состав моей крови;

Я ЧУВСТВУЮ, КАК ПРУЖИНА ВНУТРИ СЖИМАЕТСЯ БОЛЬШЕ, БОЛЬШЕ, БОЛЬШЕ, ПОКА НАКОНЕЦ НЕ ВЫПРЯМЛЯЕТСЯ И ТУТ ЖЕ ВОЗВРАЩАЕТСЯ ОБРАТНО, ЛЕГКО ОТТОЛКНУВШИСЬ ОТ ГРУДИ, КАК ОТ БОРТИКА БАССЕЙНА;

я делаю вдох – пружина тихо сжимается, чтобы однажды выпрямиться до конца, вынести меня собой вперед – далеко, далеко, далеко, а в конце пробить насквозь, оставив дыру, которая не заполнится всеми словами мира, как бы я ни старался, и это тоже только предстоит узнать, и видит бог, я буду очень стараться.

# ВІКТАР ШНІП

## ПРЫСНІЛАСЯ

*Рэвалюцыйны Кранштат*

Дождж і снег. Рэвалюцыйны Кранштат. Матросы і салдаты. І я адзін на вуліцы. Куды дзецца? І раптам сустракаю празаіка П., які служыў на эсмінцы. Дамаўляемся вяртацца ў Беларусь да Янкі Купалы. На чым? Вырашаем скрасці падводную лодку, бо прапажу «Аўроры» заўважаць і могуць нас патапіць. І вось я ўжо хаджу каля ўваходу ў падводную лодку – старажую, каб ніхто на яе не прайшоў.

ХУТКА З'ЯЎЛЯЕЦЦА ПРАЗАІК П. І ПЕРАД САБОЙ ГОНІЦЬ КУЧУ ДЗЯЎЧАТ. НА МАЁ ПЫТАННЕ: «ДЛЯ ЧАГО ІХ СТОЛЬКІ МНОГА?» – АДКАЗВАЕ: «ДАРОГА Ж ДАМОЎ ДАЛЁКАЯ!»

*Вераціла і аэраплан*

Купляю «ЛіМ» і бачу на цэлы разварот паэму Сяргея Вераціла «Аэраплан». На здымку сам паэт у лётчыцкім шлеме, з-пад якога, як змеі, звісаюць пасмы валасоў. Пачытаць не ўспяваю, бо падыходзіць Галубовіч і забірае ў мяне газету: «Трэба стол засланць!» Праз хвіліну бачу: газета ўжо ляжыць на асфальце, а на ёй кусок масла, над якім лётаюць матылі.

*Вераціла і яго дом*

Іду па горадзе. Сустракаю Верацілу. Хваліцца: «Пайшлі да мяне! Пакажу табе свой дом!» Прыходзім невядома куды. Замест дома нейкае гарышча. Усё драўлянае: і міскі, і лыжкі, і нажы. «Цяпер я тут жыву!» – кажа Вераціла і знікае. Разам з ім знікае і ягоны дом.

*Вандроўка ў Душанбэ*

З пісьменнікам N іду па пустэльні. Жара, як каля мартэнаўскай печы. Пытаюся: «Куды гэта мы ідзём?» «Да мяне ў Душанбэ!» – чую ў адказ і ў думках прыкідваю, колькі яшчэ трэба будзе ісці. І раптам сярод пяскоў – горы. Зялёныя і вялікія, як вайсковыя палаткі. Калі падышлі бліжэй, горы сталі шэрымі і халоднымі. Пісьменнік N злез з асла і запрасіў мяне ў пячору. Я зайшоў следам. Пячора вялікая і ў ёй светла, як у палацы. Навокал вісяць крышталёвыя люстры і б'юць фантаны. «Салам алейкум!» – кажу я, і пячора адразу пусцее і змяншаецца да памераў вясковага хлева. «Ты адзін жывеш?» – пытаюся ў пісьменніка. «З жонкай!» – адказвае N, і да нас аднекуль выбягае белая авечка. Пісьменнік цалуецца з ёй і я… прачынаюся.

*

Мінскае мора. На беразе стаяць вялікія белыя параходы. Да мяне

падбягае жанчына: «Уцякайце! Набліжаецца тайфун!» Уцякаю. Спыняюся на працы. Усе разглядаюць новую кнігу «Дню Мінска не бачна дна». Мне даюць грошы, каб збегаў у краму. Чатыры купюры. Адна з іх нейкая ружова-цагляная. Пытаюся: «Што за грошы?» «Сцерлінгі!» – адказваюць мне. Адышоўшыся, пачынаю разглядаць купюру. На ёй выява нейкага барадатага і валасатага чалавека. Відаць, князь. На прасвет бачу беларускае слова дробнымі літарамі: «абменьваецца». Значыць – нашы новыя грошы! Выходжу на праспект Пераможцаў. Пуста: ні машын, ні людзей. Іду па сярэдзіне праспекта. І раптам насустрач мне па зялёным асфальце прыбліжаецца босы мастак Алесь Марачкін з дошкай для сёрфінга пад пахай.

УСЕ РАЗГЛЯДАЮЦЬ НОВУЮ КНІГУ «ДНЮ МІНСКА НЕ БАЧНА ДНА». МНЕ ДАЮЦЬ ГРОШЫ, КАБ ЗБЕГАЎ У КРАМУ. ЧАТЫРЫ КУПЮРЫ. АДНА З ІХ НЕЙКАЯ РУЖОВА-ЦАГЛЯНАЯ. ПЫТАЮСЯ: «ШТО ЗА ГРОШЫ?» «СЦЕРЛІНГІ!»

*Пасля свята ў Ракуцёўшчыне*

З вёскі, выбраўшы бульбу, на нейкім задрыпаным аўтобусе еду ў Мінск. Пасажыраў мала. І ўсе п'юць. Навокал восеньскае поле. За аўтобусам курыцца пыл, але мы, здаецца, стаім на месцы. Праз некаторы час у аўтобус заходзіць жанчына з дзецьмі і папярэджвае, што хутка ў аўтобусе будзе поўна людзей. Праз акно бачу: да нас прыбліжаецца шумны натоўп. Гляджу на свае ногі, а яны босыя. Знаходжу шкарпэткі. На правую нагу ўсцягваю запыленую, парваную, сінюю, тонкую шкарпэтку, а на левую цёплую, белую. Абуваю запыленыя боты. Адразу робіцца цёпла ў ногі. Адчуваю, што недзе ў аўтобусе сядзіць жонка з дзецьмі. Папярэджваю іх, што да нас ідзе цэлы натоўп. Аўтобусная п'янка спыняецца. Праз хвілю ў аўтобусе становіцца змрочна – наперадзе лес. У аўтобус зазірае паэтка В. і кажа, каб мы не баяліся, што іх так многа, бо яны не паедуць, а пойдуць. Пачуўшы гэта, я падумаў: «А чаго ж тады я абуваўся?»

*З сябрамі*
*«Літаратурнага прадмесця»*

З сябрамі «Літаратурнага прадмесця» іду па нейкім бясконцым драўляным памосце над зямлёй. Вясёлыя. Я пайшоў хутчэй і, адарваўшыся ад кампаніі, зваліўся на зямлю, бо не заўважыў, што скончыўся памост. Падаючы, згубіў чорны парасон. Праз хвілю падышлі сябры. Прашу дапамагчы знайсці парасон, але ніхто не слухае мяне, а ўсе па чарзе лезуць абдымацца. І раптам навокал усё стала белым – пачалася зіма. І мы ідзём па вуліцы маёй роднай вёскі да маёй хаты. Усе абагналі мяне, а я прыпыніўся з паэтам N. Гаворым. Гляджу, а ён на вяроўцы трымае белага сабаку, які качаецца ў снезе і спрабуе вырвацца на волю. Праз нейкі час сябры ідуць па вуліцы назад. «У мяне бацька недаразвіты…» – прызнаецца суразмоўца, і сабака пачынае кідацца на мяне. Я б'ю сабаку палкай. Той вішчыць. Нехта пытаецца: «Чаго гэта вы швэндаецеся?» І чуецца адказ: «Да нас прыехала Мадонна, а мы не ведаем, што з ёй рабіць».

*Запрасілі выступіць*

Запрасілі выступіць. Ніякай канкрэтыкі. Па мяне прыйшоў вялікі прыгожы аўтобус. Акрамя мяне ніхто з запрошаных выступоўцаў не з'явіўся. Заходжу ў аўтобус. Ён напалову запоўнены дэпутатамі. На першым месцы сядзіць знаёмы літаратар N, які мне

для прывітання падае два пальцы. Вітаюся. Едзем невядома куды. Нас праз нейкі час далей не прапускаюць. Выходжу з аўтобуса. А тут тэлебачанне прыстае даць інтэрв'ю. Я згаджаюся, але, паглядзеўшы ў неба, на якім бачу залатыя контуры карты Беларусі, кажу: «Паглядзіце на неба і лепей здыміце тое, што бачыце!» Хлопец з камерай пачынае здымаць контуры карты, а я раптам з'яўляюся на вялікім жытнім полі. Жыта спелае, амаль залатое. У далечыні бачу аэрадром, на які толькі што сеў самалёт. З яго выйшла рыжавалосая жанчына і тут жа ператварылася ў чорнага вялікарогага бычка, які пачаў усё крышыць на сваім шляху. Час ад часу бычок спыняецца і ператвараецца ў жанчыну, а потым зноў жанчына ператвараецца ў бычка. І гэты бычок усё бліжэй і бліжэй да мяне. Баюся, што ён заб'е мяне. Сярод жыта драўляны слуп, і я лезу на яго, каб схавацца ад жывёлы, а сам думаю: «Я так яшчэ лепей буду відаць. Трэба спускацца і хавацца ў жыце…» І я прачынаюся.

*А каб па вуліцах не хадзіў!*

Іду па вуліцы. Навокал замест дамоў вялікія гурбы снегу, у якіх свецяцца вокны з лёду. Мне насустрач бяжыць чорны сабака і нясе ў зубах чырвоную ружу. І раптам сабака ператвараецца ў прыгожую дзяўчыну з акрываўленым нажом у руках. Я спыняюся. Дзяўчына падыходзіць да мяне і б'е мне нажом у жывот. Я паспяваю запытацца: «За што?» «А каб па вуліцах не хадзіў!» – кажа прыгажуня і ператвараецца ў чорнага сабаку з чырвонай ружай у зубах.

*Наступная станцыя*

Наша краіна аб'явіла вайну Амерыцы. Чакаецца бамбардзіроўка. Усе ратуюцца, як хто можа. Многія бягуць у метро. Але туды прапускаюць не ўсіх. Я прытвараюся сляпым. Бяру ў рукі абрэзак дошкі і кавыляю ў метро. Мяне прапускаюць. На душы робіцца лёгка-лёгка, нібыта я паветраны шарык і мяне надзьмулі. На пероне людзей мала. Усе з чамаданамі і валізкамі. Падыходзіць электрычка. Заходжу ў вагон. Навокал смецце. Валяюцца нейкія стружкі, гайкі, іржавыя цвікі. Саджуся на лаўку. Мой абрэзак дошкі ламаецца і ў руках застаецца яго палавіна. Дзверы зачыняюцца, і чуецца аб'ява: «Наступная станцыя «Нью-Ёрк»!»

*Вандроўка ў Партугалію*

Еду на жоўтым «Ікарусе» па горадзе дадому. А жыву я на ўскрайку – здымаю кватэру. У аўтобусе людзей мала. Усе з нейкімі торбамі. Маўчаць. Прыязджаем на канечны прыпынак. Усе выходзяць. Іду да купкі дзевяціпавярховікаў, якія праз пару крокаў ператвараюцца ў белыя горы. У даліне атара белых авечак, а сярод іх – увесь у чорным, як манах, пастух. Падыходжу. Гляджу – а гэта не пастух, а прыгожая дзяўчына. Пытаюся: «Куды гэта я прыйшоў?» «У Партугалію!» – адказвае прыгажуня і знікае разам з авечкамі.

*Малаток і галава*

Еду на ровары праз нейкае поле, на якім ужо зжата збожжа і месцамі расце асот. Пад'язджаю да самалёта. Заходжу ў яго, як у офіс. Кругом камп'ютары. Да мяне падыходзіць незнаёмы малады мужчына і дае малаток, якім я ў вёсцы забіваў яшчэ ў дзяцінстве цвікі. Мужчына мне нічога не кажа, але я разумею, што мне трэба будзе рабіць. Малаток час ад часу звальваецца з ручкі. Раптам бачу знаёмага пісьменніка N, які заходзіць у офіс і садзіцца каля камп'ютара. У жыцці ён валасаты, а тут увесь лысы і ягоная лысіна блішчыць. Я падыходжу да N і б'ю яго па галаве малатком. Адзін раз, другі, трэці. Пісьменнік на мае ўдары па яго галаве амаль не рэагуе. Я перастаю біць, і N кажа: «У мяне галава жалезная».

*Вайна з кітайцамі*

З вёскі іду на электрычку. Вечарэе. Раптам у небе з'яўляюцца самалёты. Адчуваю, што гэта прыляцелі кітайцы. Куды дзецца? А ўжо дэсантнікі апускаюцца на зямлю. Я пачынаю ўцякаць.

НОГІ НЕ СЛУХАЮЦЦА, І Я БЯГУ НА МЕСЦЫ. СТРАЛЯЮЦЬ. ПАДАЮ Ў ТРАВУ І ПАЎЗУ. ЗАПАЎЗАЮ Ў НЕЙКІ РОЎ, НІБЫТА ТРАНШЭЮ. НАВОКАЛ ВАЛЯЮЦЦА СТРЭЛЯНЫЯ ГІЛЬЗЫ. ЗНАХОДЖУ ПІСТАЛЕТ І ПАЧЫНАЮ СТРАЛЯЦЬ У КІТАЙЦАЎ.

А іх многа, як мурашак каля мурасейніка. Крычаць мне: «Здавайся!» Устаю, каб нешта крыкнуць у адказ, але кітаец, які падбягае да мяне, заганяе мне штык у жывот. І я, хапаючыся за вострае лязо і адчуваючы нясцерпны боль у жываце, падаю ў сажалку. Мне робіцца холадна, і я, лежачы ў вадзе, бачу ў небе салют. Мы перамаглі.

*Білет у Афрыку*

Перада мной невялікая калюга, зацягнутая тонкім лёдам, праз які бачна, што на яе дне ляжыць пяць савецкіх капеек. І якраз мне не хапае гэтых пяці капеек, каб купіць білет на цягнік у Афрыку. І я малатком стукаю па лёдзе, а ён не разбіваецца. Злуюся і пачынаю плакаць. Адна з маіх слязінак падае на лёд, і ён трэскаецца на дробныя кавалачкі, а пяць капеек усплываюць з дна калюгі жоўтым бярозавым лістком. Я хапаю мокры і халодны лісток і бягу за цягніком, які ідзе ў Афрыку. З акна апошняга вагона выглядае дзяўчына і крычыць мне: «Сёння ў Анголе ідуць дажджы!»

*Аўстралія*

Іду па могілках, якія ў полі. Нядаўна растаў снег, і пад нагамі хлюпае вада. Шукаю магілу свайго дзеда Міхася і не магу ніяк знайсці. Помнікаў няшмат, і яны, шэрыя ў шэрай леташняй траве, не ўсе бачныя. Спыняюся каля свежай магілы. Помнік з прыгожага чырванаватага мармуру. Хто пахаваны – не вядома, бо на помніку нічога не напісана, але я адчуваю, што тут ляжыць нехта мне блізкі. Саджуся на лаўку, і ў зале пасяджэнняў Дома літаратараў пачынаецца сход, на якім вырашаецца пытанне, пра што пісьменнікам пісаць у новым годзе. Людзей мала, і большасць з іх – пісьменнікі, якія памерлі. Да трыбуны ідзе Алесь Пісьмянкоў і прапануе ўсім разысціся, бо сёння свята, калі нельга збірацца больш за тры чалавекі. Гучаць апладысменты, і прысутныя пачынаюць незадаволена разыходзіцца. І раптам да трыбуны падбягае Зміцер Вішнёў і кажа: «Я сёння ноччу ў Свіслачы ўпаляваў вялікага кракадзіла! Запрашаю ўсіх на свежыну!» Пачуўшы гэта, усе разбягаюцца хто куды, і толькі я са Змітром стаю, як каля памежнага слупа, каля помніка з чырвонага мармуру, на якім напісана «АЎСТРАЛІЯ».

*Сыс і бярозавыя дровы*

Пілую дровы. Бярозавыя. Ніхто не дапамагае, і я ўсё пілую і пілую адно і тое ж бервяно. І раптам навокал цямнее і пачынаецца зіма. Холадна. У небе свецяцца зоркі, а адна з іх падае прама на мяне. Я ўцякаю і не магу ўцячы, бо трымаюся за ручку пілы, якая засела ў бервяне. Зорка падае на мяне, і я сяджу ў верталёце, якім кіруе Анатоль Сыс. Пытаюся ў яго: «Дзе ты гэта навучыўся лётаць?» «Мы ўсе ўмеем лётаць, толькі не ведаем пра гэта», – адказвае Сыс і скідвае мяне з верталёта. Я падаю. А верталёт з Сысом разбіваецца аб кучу бярозавых дроў.

*Немцы і Галубовіч*

Ляжу ў акопе, страляю з аўтамата па немцах, якія ідуць па полі, і не магу ні ў аднаго ніяк патрапіць. Побач

са мной сядзіць паэт Леанід Галубовіч і пішу на камп'ютары ў чарговы нумар «ЛіМа» рэцэнзію на кніжку Брэжнева «Малая зямля». «Памагай адбівацца ад немцаў!» – крычу Леаніду, а той нібыта мяне не чуе і, дастаўшы з чорнага партфеля кавалак ліверкі, пачынае есці і просіць мяне заказаць у кафэ Дома літаратараў піва. Нам прыносяць па куфлі. Побач сядае Алесь Асташонак і пытаецца: «А чаму ў вас немцы па-французску гавораць?» Галубовіч дапівае піва і выцягвае з-пад стала танцаваць тоўстую чарнявую жанчыну. Тая вырываецца і з крыкам «я не прастытутка!» разбівае Галубовічаў камп'ютар, з якога вылятаюць залатыя мухі.

РАПТАМ ДАРОГА КАНЧАЕЦЦА ПЕРАД ВЫСОКАЙ ГАРОЙ. ПАЭТ НА АСЛЕ ЗНІКАЕ, І Я АДЗІН ПАЧЫНАЮ ЎЗБІРАЦЦА НА ГАРУ.

*Самалёт на Берлін*

Навокал жытнёвае поле, на якім месцамі растуць невысокія кусты. Заходжу ў самалёт, які павінен ляцець у Берлін. У салоне пуста, як у труне. Мне страшна. Саджуся на сваё месца і чакаю, калі палячу. Гучыць аб'ява: «За бортам самалёта 100 градусаў марозу». Гляджу ў ілюмінатар, а там, руку працягнуць, навокал жытнёвае поле, на якім растуць кактусы.

*Паэт на асле і Сталін*

Грузія. Горы. Іду следам за аслом, на якім сядзіць паэт N і ўсю дарогу, як малітву, чытае вершы. Раптам дарога канчаецца перад высокай гарой. Паэт на асле знікае, і я адзін пачынаю ўзбірацца на гару. Сяк-так узлажу, і насустрач мне з зямлянкі выходзіць Сталін і пытаецца: «Рускія ў горадзе?» «Не ведаю», – адказваю я. «Расстраляць!» – загадвае Сталін, і да мяне пад'язджае паэт N на асле і ўручае грамату «За добрыя адносіны да горных арлоў».

*БАМ*

Адзін на ўвесь вагон еду ў цягніку. За вокнамі мільгаюць чорныя дрэвы. Па-мойму, гэта тайга і чыгунка не простая, а Байкала-Амурская магістраль. Сярод заснежанага поля цягнік спыняецца на хвіліну і я выходжу. Мяне сустракае белы вялікі воўку, якому я саджуся на спіну, і мы ўзлятаем і трапляем на пасяджэння прафсаюзнай арганізацыі, дзе дзеляцца вагоны. Праз хвілю я зноў адзін на ўвесь вагон еду ў цягніку. За вокнамі мільгаюць чорныя дрэвы. Навокал тайга. Цягнік спыняецца, і я выходжу. Мяне сустракае вялікі белы воўк, які садзіцца мне на спіну, і мы правальваемся ў падвал, дзе сядзяць бамжы і дзеляць мышыны хвост. Праз хвілю я зноў еду ў цягніку. Са мной сядзіць худы белы воўк і просіць, каб я больш не выходзіў з вагона…

*Патоп і пісьменнікі*

Навокал лес, а ў лесе вада, як у час патопу. Там-сям на дрэвах сядзяць пісьменнікі і перабрэхваюцца, высвятляючы, хто вінаваты, што ўся зямля затоплена. Я сяджу на сукаватай бярозе і думаю: «Як бы ўцячы з гэтага лесу?» Раптам чую стрэлы з ружжа. Азіраю навокал і бачу: на лодцы плыве адзін з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў і страляе па сваіх сябрах. Убачыўшы, што стралок прыбліжаецца да мяне, я саскокваю з бярозы і бягу па вадзе, як па зямлі. Лес канчаецца, і адразу пачынаецца горад. Забягаю ў пад'езд, а там сядзіць Зміцер Вішнёў з кулямётам. Мы ўзбягаем на другі паверх і, выбіўшы вакно, пачынаем страляць па вераб'ях, якія, як мухі, кружацца над горадам.

*Вяртанне дамоў*

З Сяргеем Верацілам еду ў танку па пустэльні. За намі бягуць негры

і просяць, каб мы іх падвезлі ў гастраном, дзе прадаецца гарэлка. Мы не спыняемся, нібыта не чуем, што крычаць негры. Пустэльня канчаецца, і пачынаецца мора, і я з Верацілам плыву ў падводнай лодцы, у якой поўна авечак. Падводная лодка ўсплывае каля станцыі метро «Няміга». Вераціла бярэ за ногі авечку і нясе перад сабой. Людзі нас сустракаюць крыкамі: «Ура!» Вераціла кідае ў натоўп авечку, і ўсе кідаюцца на яе, а мы ідзём у Траецкае прадмесце да Максіма Багдановіча. Следам за намі бяжыць нейкі лысы дзядзька і просіць: «Падарыце мне танк! Я на ім вашы імёны напішу!»

*Прыём у піянеры*

Сяджу на вакзале і ўспамінаю, куды мне трэба ехаць. Да мяне падыходзіць міліцыянт і прапануе пагадаць на картах. Я адмаўляюся і, сказаўшы: «Мне праз гадзіну трэба прачынацца!» – іду ў метро, праз якое трапляю ў Тбілісі на вялікую, але пустую плошчу. Да мяне падыходзіць стары грузін і пытаецца: «А ты ведаеш, хто такі Маякоўскі?» «Гэта касманаўт!» – адказваю я. «Не! Ён міліцыянт!» – кажа грузін і павязвае мне піянерскі гальштук.

*Каштан*

Я ў вёсцы ў бацькоў. За соткамі, на якіх выбрана бульба, бачу брата, які садзіць маленькія дрэўцы. Падыходжу да яго і пытаюся: «Навошта псуеш лужок?» «А тут мы ўжо болей траву не будзем касіць!» – адказвае брат, і я, дастаўшы з кішэні каштан, пачынаю для яго капаць ямку. Пасадзіўшы каштан, я з братам вяртаюся з лугу на вялікім возе сена. Брат кіруе канём, а я сяджу на сене ззаду і гляджу ў далечыню. Пад'язджаем на тое месца, дзе садзілі з братам дрэўцы. А каштан, пасаджаны мной, ужо вялікі-вялікі і яго голле чапляецца за мяне. І я падаю з воза.

ПАСАДЗІЎШЫ КАШТАН, Я З БРАТАМ ВЯРТАЮСЯ З ЛУГУ НА ВЯЛІКІМ ВОЗЕ СЕНА. БРАТ КІРУЕ КАНЁМ, А Я СЯДЖУ НА СЕНЕ ЗЗАДУ І ГЛЯДЖУ Ў ДАЛЕЧЫНЮ.

*Палонны Віктар Жыбуль*

Я ў партызанскім атрадзе ганю самагонку. Наша база хаваецца каля маёй роднай вёскі ў ляску на Юстынавай гары. Прывялі да мяне палоннага паэта Віктара Жыбуля, які ваюе на баку белапалякаў. Віктар абрадаваўся сустрэчы. Я даў яму кубак самагонкі. Ён выпіў і пачаў гаварыць паліндромамі. Нічога не разумею. Паклікалі перакладчыка Сяргея Верацілу. Той прыйшоў з акрываўленай сякерай. Убачыўшы сякеру, Жыбуль пачаў агітаваць нас паехаць з ім на Чорнае мора лавіць рыбу. І вось мы ўтраіх у белых касцюмах, але босыя, ідзём па пляжы, а за намі бягуць дзеці і просяць закурыць.

*Бульба і параход*

Выбіраю бульбу. Я адзін на ўсё вялікае поле. Градкі доўгія-доўгія, што аж страшна. Раптам у баразне знаходжу ржавы ланцуг. Пачынаю цягнуць да сябе, і ён цягнецца. Навокал цямнее. Гляджу, перада мной стаіць іржавы параход, да якога і прывязаны знойдзены мною ланцуг. Узлажу на параход, а ў ім поўна бульбы. І ўся бульба вялікая, па кулаку. Дастаю з кішэні малаток і пачынаю прыбіваць да борта дошку, на якой напісана «2222 год». Цвікі гнуцца, і дошка падае з паравода ў ваду. Навокал мора, а ў далечыні на гарызонце бачыцца будынак нашай Нацыянальнай бібліятэкі, на якой сядзіць, як на краі свету, Вольга Іпатава і спявае: «Всё могут каралі! Всё могут каралі!»

*Раздзеленыя Кітайскай сцяной*

Вялікі горад раздзелены Кітайскай сцяной. На адным баку, дзе і я, жывуць толькі мужчыны, а на другім жанчыны. Я з Алесем Асташонкам ноччу капаю падкоп, каб патрапіць на другі бок горада. У зямлі знаходзім косці і чарапы тых, хто спрабаваў дабрацца да жанчын. Капацца ў зямлі вельмі цяжка, але мы дамагаемся свайго і выходзім на паверхню горада ў вялікай жалезнай клетцы. Навокал светла і поўна жанчын, якія смяюцца з нас. Праз нейкую хвілю да клеткі падыходзіць голая прыгажуня і пытаецца: «Хто першым хоча памерці?» Алесь пальцам паказвае на мяне, а я на яго. І я застаюся ў клетцы адзін... І прачынаюся ў пустым тралейбусе на апошнім прыпынку.

НАВОКАЛ СВЕТЛА І ПОЎНА ЖАНЧЫН, ЯКІЯ СМЯЮЦЦА З НАС. ПРАЗ НЕЙКУЮ ХВІЛЮ ДА КЛЕТКІ ПАДЫХОДЗІЦЬ ГОЛАЯ ПРЫГАЖУНЯ І ПЫТАЕЦЦА: «ХТО ПЕРШЫМ ХОЧА ПАМЕРЦІ?»

*Сыс малюе грошы*

З мастаком Алесем Квяткоўскім у падвале дзялю грошы. Грошы розныя: даляры, еўры, нашы, кітайскія. Паперак вельмі шмат. Надзялілі па цэлым мяшку. З'яўляецца Анатоль Сыс і, сказаўшы: «Я цяпер мастак!», пачынае маляваць грошы. Праз хвілю да Сыса вышнуроўваецца вялікая чарга, і ён усім малюе: каму даляры, каму еўры, каму нашы, каму кітайскія. Падыходзіць Язэп Янушкевіч і просіць, каб Сыс намаляваў яму хаця б сто рублёў. Сыс малюе крыжык і аддае Язэпу, які кліча мяне ў рэстаран, каб адзначыць дзень свайго нараджэння.

*Пазняк і танцы*

Вёска. Пазняк, пераапрануты ў жанчыну, просіцца пераначаваць. Ніхто не пускае. Стукае ў акно да мяне. Пускаю Пазняка ў хату. Ён дастае з палатнянай торбы сухары і сала. Я з-пад прыпека выцягваю пляшку самагонкі. П'ём за тых, хто не вярнуўся з Амерыкі. Раптам у хату ўрываюцца немцы і пачынаюцца танцы. Усе запрашаюць Пазняка. Ён не адмаўляецца, а я сяджу за сталом і ем сухары з салам.

*Двубой*

Старажытны Рым. Двубой гладыятараў. Адзін з іх трактарыст, а другі – я. У трактарыста ў руках кола ад «Беларуса», а ў мяне – дубец, якім я ў дзяцінстве ганяў гусей з рэчкі. Навокал поўна людзей і ўсе патрабуюць ад трактарыста, каб ён забіў мяне. І, калі ўжо да маёй смерці заставаўся нейкі міг, паміж трактарыстам і мной з'явілася Роза Люксембург і адарвала галаву трактарысту. Мяне ж падхапілі вароны і панеслі ў Парыж.

*У піўбары*

Сяджу ў піўбары. З-за цыгарэтнага дыму нічога не відаць. Да мяне падыходзіць Анатоль Сыс і прапануе купіць сушанай рыбы да піва. Я купляю, і мы разам п'ём. Раптам у залу праз акно ўрываецца таварыш Ульянаў і аб'яўляе, што ў горадзе пачалася ружовая рэвалюцыя і ўсім, хто не будзе ўдзельнічаць у ёй, трэба тэрмінова пакінуць піўбар. Я ўцякаю, а следам за мной шпарыць Сыс і крычыць: «Бяжым у Гарошкаў! Там у мяне на могілках кулямёт закапаны!»

*Тэатр і партрэт Караткевіча*

Сяджу ў тэатры. Поўная зала. На сцэне за школьнымі партамі паэты пішуць вершы. А настаўнік у іх – Граждан, які па чарзе выклікае паэтаў да дошкі агучыць сваё тварэнне. Выходзіць Разанаў і расказвае верш пра яйкаквадрат і атрымоўвае яйцо.

Выходзіць Арлоў і чытае пра бензапілу і атрымоўвае пілу. Чытае Глобус і атрымоўвае карту з гектарам зямлі. Прарываюся на сцэну я і чытаю свой «Чырвоны ліхтар». Граждан размахваецца кулаком і падбівае мне вока. Зала ўзрываецца апладысментамі і… на мяне на ложку са сцяны падае партрэт Караткевіча, які намалявала Рублеўская.

*На лекцыі ў літінстытуце*

Сяджу на лекцыі ў літінстытуце. Замест выкладчыка пра Пушкіна расказвае нікарагуанец Карлас, ад якога даведваюся, што Аляксандр Сяргеевіч быў камандзірам аднаго з партызанскіх атрадаў, які змагаўся ў джунглях Амазонкі. Карлас расказвае і курыць. Прапануе мне. Я пачынаю курыць і трапляю ў нікарагуанскі партызанскі атрад. Мяне выбіраюць камандзірам, і я стаўлю перад байцамі задачу захапіць Нью-Ёрк. І вось я еду на гусенічным трактары сярод развалін горада, а за мной бягуць з коп'ямі негры і просяць, каб я іх пакатаў. Я прыпыняюся, і да мяне ў трактар залазіць Карлас і кажа: «Цяпер давай захопім літінстытут, бо там замуравалі Горкага, а ён так плача, што аж усе мае цыгарэты адсырэлі!»

*Рымскі легіянер і танцы*

Я рымскі легіянер. Іду па сваёй вёсцы. Усе пахаваліся па хатах. Ціха. Нават сабакі маўчаць у сваіх будках. І раптам мне шлях перагароджвае самагонны апарат, на якім сядзіць сусед Дзіма. Я патрабую ачысціць дарогу герою вайны пад Фівамі. Дзіма злазіць з самагоннага апарата на зямлю і падносіць мне хлеб і соль. Я весялею. Гучыць музыка. Пачынаюцца танцы ў клубе. Мне запрашае на белы вальс загадчыца калгаснай сталовай. Я ўцякаю ад жанчыны ў Рым. Следам за мной бяжыць Дзіма і крычыць: «Я не вінаваты! Яна сама прыйшла!»

*Яма для слана*

Сяджу ў глыбокай яме, з якой зрэдку днём бачу птушак, а ноччу – россып зорак. Хачу вылезці на божы свет і не магу, бо адзін. Аднойчы да мяне ў яму трапляе мураш, якому я прапаную разам выбірацца. Ён згаджаецца, але просіць быць першым, хто палезе з ямы. Дапамагаю мурашу, і ён вылазіць на волю. Я зноў адзін. Праз нейкі час той жа мураш трапляе зноў да мяне ў яму. Цяпер ужо я спрабую першым вылезці з ямы, і мураш, як можа, мне дапамагае. Мінае дзень, другі, трэці, а я ўсё лезу ўверх і падаю. І раптам бачу, што мураша ў яме няма. І ці быў ён у яме, якую я выкапаў, спадзяючыся злавіць слана, якія ў нашым краі не водзяцца?

*На Барадзінскім полі*

Барадзінскае поле. Я з манголамі п'ю кумыс з гарэлкай і чакаю наступу французаў. Чакаем гадзіну, дзве, пяць. Ужо цямнець пачало, а французаў усё няма і няма. Апоўначы на Барадзінскае поле прыехалі палякі і вызвалілі нас з савецкага палону.

*Снегавік і Снягурка*

Пад вечар выпаў першы снег, з якога я зляпіў снегавіка. Узышла поўня, і снегавік, ажыўшы, папрасіў мяне павесці яго ў сваты да Снягуркі, якая жыве ў суседнім лесе. Я не адмовіўся. Ідзём праз поле, а за намі крадуцца ваўкі з залатымі зубамі. Прыходзім у лес да хаты, што на курыных нагах. Насустрач нам выходзіць Снягурка і кажа, што мы спазніліся і яна ўжо даўно замужам. «За кім?» – цікаўлюся. «За тваім суседам Дзімам!» – адказвае Снягурка.

*Чынгіс Хан і СП*

У калгасным садзе збіраю яблыкі і ссыпаю ў кучу. Назбіраў велізарную гару. Раптам да мяне на кані пад'язджае Чынгіс Хан і пытаецца: «Чые гэта галовы?» Гляджу – а ў кучы

ляжаць не яблыкі, а чалавечыя чарапы. «Гэта галовы нашых пісьменнікаў!» – адказваю. «Я так і думаў!» – усміхаецца Чынгіс Хан і паказвае мне свой членскі білет СП.

*Бананы*

У чыстым полі капаю траншэю. Сярод камянёў знаходжу тэлефон, па якім звязваюся з Афрыкай і прашу прысалаць дзесяць кілаграм бананаў. Афрыка абяцае выканаць просьбу. Не паспяваю падзякаваць, як, гляджу, навокал падаюць з неба бананы. Некаторыя ўзрываюцца, як бомбы. Пачынаецца вайна, і мяне бяруць у палон дзікія абіз'яны пад кіраўніцтвам Граждана. З бананаў, што не ўзарваліся, вылупліваюцца жоўтыя папугаі, якія спяваюць: «Вставай, страна агромная! Вставай на смертны бой!»

*У пошуках аптэкі*

Іду па праспекце. Шукаю аптэку. Ніводнай няма. Заходжу ў ГУМ, а там поўна свіней і ўсе ў белых халатах. Я дастаю сто рублёў і прашу: «Прадайце мне «гробапрынасіл»!» Пачуўшы слова «гробапрынасіл», свінні ператвараюцца ў ваўкоў, а я дастаю з кішэні аўтамат і пачынаю страляць. На выстралы прыбягае дворнік з памялом і, змятаючы гільзы, кажа: «Гэта маё золата! Цяпер і я паеду на курорты!»

*

З высокага зорнага неба сыплецца чырвонае лісце. Я сяджу на рудым валуне сярод ветранага поля і сачу за вожыкам, які рыхтуецца да зімы. І раптам да мяне падлятае чорны воран і прапануе паляцець з ім у цёплыя краіны. Я адмаўляюся, і мне робіцца холадна, а навокал ад снегу светла-светла. І ўсё навокал белае, нават неба, да якога прымёрз чорны воран, як чорны ліст асіны да шыбы, праз якую я хачу ўбачыць сонца, як вожыка, укручанага ў чырвонае лісце, седзячы ў скураным фатэлі.

*На Ракаўскім кірмашы*

Іду па Ракаўскім кірмашы. Гляджу, а Язэп Янушкевіч прадае бульбу. Алесь Наварыч і Андрэй Федарэнка прапануюць карасёў і ратанаў па тры тысячы. Леанід Галубовіч гандлюе яблыкамі. Барыс Пятровіч прадае фрэскі. Адам Глобус і Уладзімір Сцяпан прадаюць карціны з бананамі і апельсінамі. Юрый Станкевіч у белым акрываўленым халаце на вялікай калодцы сячэ свініну. Зміцер Вішнёў сячэ кракадзіла. Куды ні зірну – усюды знаёмыя твары, але ніхто нічога бясплатна не дае. І раптам бачу невялічкі ларок з шыльдай «Бясплатныя сыры!». Чаргі аніякай. Заходжу. А там поўна мышэй!

*Чорны слон*

Мне на юбілей з Афрыкі папуасы прыслалі слана. Слон быў чорны, як мурын. Я прывязаў яго да дзвярэй пад'езда і пайшоў клікаць дзяцей, каб падзівіліся. Вяртаюся з кватэры, а слана няма. «Відаць, нехта ўкраў…» – падумаў я. І раптам бачу, як на даху дома, што насупраць майго, ходзіць чорны слон і хобатам наклейвае на неба зоркі. «Злазь! А то звалішся і разаб'ешся!» – крычу слану. «Не бойся! Я не звалюся! У мяне ёсць крылы!» – адказаў чорны слон і, падляцеўшы да мяне і ператварыўшыся ў чорную муху, сеў мне на руку.

Я АДМАЎЛЯЮСЯ, І МНЕ РОБІЦЦА ХОЛАДНА, А НАВОКАЛ АД СНЕГУ СВЕТЛА-СВЕТЛА. І ЎСЁ НАВОКАЛ БЕЛАЕ, НАВАТ НЕБА, ДА ЯКОГА ПРЫМЁРЗ ЧОРНЫ ВОРАН, ЯК ЧОРНЫ ЛІСТ АСІНЫ ДА ШЫБЫ, ПРАЗ ЯКУЮ Я ХАЧУ ЎБАЧЫЦЬ СОНЦА, ЯК ВОЖЫКА, УКРУЧАНАГА Ў ЧЫРВОНАЕ ЛІСЦЕ, СЕДЗЯЧЫ Ў СКУРАНЫМ ФАТЭЛІ.

*Харошыя беларускія хлопцы*

Сяджу з торбамі на чыгуначным вакзале. Пасажыраў няма, а толькі адны міліцыянеры швэндаюцца тудысюды. Яны час ад часу падыходзяць да мяне і просяць: «Пакажы пасведчанне, што ты паэт!» Я здымаю керзачы і дастаю з закарэлай і смярдзючай анучы паперыну, на якой напісана: «Гэты отрак умее пісаць вершы і пасяму мае права сядзець на вакзале да ўзяцця яго рэвалюцыйнымі масамі!» Міліцыянеры, азнаёміўшыся з дакументам, кланяюцца і пытаюцца: «Можа, вам чаёчку прыпаднесці?» Я адмаўляюся. А міліцыянеры працягваюць швэндацца і праз нейкі час зноў просяць паказаць дакумент. Я паказваю. І яны адстаюць ад мяне. Так працягваецца да дванаццаці гадзін ночы. Б'юць куранты, гучыць мазурка, міліцыянеры ператвараюцца ў цудоўных паненак і пачынаюцца танцы. Да мяне падыходзіць самая прыгожая і прапануе прайсці да яе ў нумар. Я забываюся пра свае торбы на вакзальнай лаўцы і іду ўслед за паненкай. Заходзім у нумар, дзе ніякай мэблі няма, а толькі вялікая канапа, засыпаная кветкамі. «І куды ты сабраўся ад мяне ўцякаць?» – пытаецца дзяўчына. «У Парыж! Там мяне чакае Апалінэр!» – адказваю я. «Едзь! Але на развітанне давай пацалуемся!» – кажа яна і кусае мяне за вуха. І я прачынаюся на канапе ў сваёй кватэры. На падушцы каля мяне сядзіць наш папугай Маркус і паўтарае: «Мы харошыя беларускія хлопцы!»

*

Каля Траецкага прадмесця прыпыніўся вялікі белы параход. На яго пускаюць толькі людзей, у якіх ёсць выдадзеныя кніжкі. Людзі ідуць і ідуць на параход, і ніхто назад не вяртаецца. Зрэдку з парахода выкідваюць у Свіслач незадаволеных меню ў сталовай, а так усё нармальна. То іграюць фанфары, то пахавальныя маршы. Стаў у чаргу на параход і я. Паціху рухаюся да мэты, вершы шапчу. Падыходжу да прапускнога турнікета, з-за якога нейкі дзядок з залатым зубам пытаецца: «Ці прызнаеш тое, што з самай раніцы шампанскае п'юць толькі дэгенераты і алкаголікі?» Я не паспеў нічога адказаць, як мяне падхапіла пад рукі прыёмная камісія і зацягнула на параход. А на параходзе пісьменнікаў, як апілак на тартаку! Усе стаяць на палубе і глядзяць на дымаходную трубу, з якой вылез аратар і заявіў: «Мы смела ў бой пайдзём за ўласць паэтаў і як адзін умром!» Усе закрычалі: «Ура-а-а-а!» Белы параход пачарнеў і рассыпаўся, нібыта быў зляплены са снегу. І паплылі па Свіслачы кніжкі, як апалае лісце.

*Авечкі і памідоры*

Сярод ночы прачынаюся ад званка ў дзверы. Чую, што прачнуліся жонка з сынам і ўжо яны стаяць каля адчыненых дзвярэй і з некім гучна высвятляюць адносіны. Праходзіць хвілін дзесяць, а шум у калідоры не сціхае. «Хто там прыйшоў?» – крычу я і ў адказ чую: «Авечкі!» І тады я забягаю на кухню і, схапіўшы качалку, падбягаю да адчыненых дзвярэй і пачынаю дубасіць прыхадняў. Пырскі крыві разлятаюцца ва ўсе бакі. І я прачынаюся. Уключаю святло. Гляджу на гадзіннік. Дзве гадзіны ночы. Мне страшна, бо я ў кватэры адзін. Успамінаю недзе вычытанае: «Ніколі не ешце нанач памідораў!» Пасядзеўшы хвілін дзесяць, выключаю святло і, сам сабе паабяцаўшы, што больш памідораў зусім не буду купляць, пачынаю лічыць авечак.

*Дым*

Дым прыйшоў з усходу. Ён быў, як ранішні туман. Я ляжаў на кучы саломы ў полі, дзе нядаўна святкаваліся дажынкі. Па мяне павінен быў прыехаць старшыня калгаса і забраць у вёску, але ўжо мінула ноч і пра мяне, відаць, усе забыліся. Недзе на захадзе пракукарэкаў певень, следам

задзяўгалі сабакі. Я ўстаў, з сябе абтрос салому і пайшоў праз дым туды, дзе магла быць вёска. Ішоў доўга. Поле не канчалася. І раптам у дыме я ўбачыў камбайн. Ён быў чырвоны, як акрываўлены. Я падышоў да яго і пракрычаў: «Хто тут ёсць?!» Ніхто не адгукнуўся. І я пайшоў далей. Праз метраў сто наткнуўся на грузавік, у кузаве якога было збожжа, як залатое пілавінне. Я зазірнуў у кабіну. Пуста. Хацеў завесці машыну, але не змог. І я пайшоў далей. Дым не радзеў. Недзе праз хвілін дзесяць наткнуўся на чырвоны велізарны трактар з бліскучымі плугамі, на якіх была ржа, як кроў. Мне стала страшна і я зажмурыўся, каб, расплюшчыўшы вочы, убачыць сонца. Сонца не было. Дым прыйшоў з усходу.

*Зіма. 1812 год*

Напалеонаўскія салдаты прыйшлі ў мае Пугачы. Я якраз быў дома. Французы зайшлі да мяне ў хату і запатрабавалі наварыць бульбы для Напалеона. І вось я вару бульбу ў велізарным чыгуне на газавай пліце і сам сабе думаю: «Адкуль гэта ў мяне ў 1812 годзе ў хаце з'явіўся газ?» І не паспеў я знайсці адказ на сваё пытанне, як на кухню зайшоў Напалеон і сказаў: «Гавары праўду! Ты мяне будзеш труціць ці мне самому труціцца?»

*Патэльня*

Усю ноч удзельнічаў у паўстанні Кастуся Каліноўскага – хадзіў па корчмах і раздаваў «Мужыцкую праўду». Раніцай вярнуўся дамоў, а дома… Пазняк асабіста для мяне смажыць дранікі. Убачыўшы мяне, кажа: «Наступны раз бяры з сабой патэльню. Калі што, будзеш сам сабе пячы яйкі!»

*Ідзём на Берлін!*

Прачнуўшыся пад мостам у Празе, іду ў нашу амбасаду, каб вярнуцца дамоў. На вуліцы анікога, толькі разбітае шкло, абгарэлыя машыны і абасраныя грошы. Заходжу ў амбасаду. У вестыбюлі мяне сустракае дзеўка-паэт у форме марскога пехацінца, пераматаная кулямётнай стужкай і з буйнакаліберным агнямётам. Убачыўшы мяне, крычыць: «Спазніўся! Усе трамваі падзелены!» Не паспеў я нічога сказаць, як са сцяны выйшаў хлопец-празаік без трусоў і заявіў: «Хто не з намі, той супраць нас! Цяпер ідзём на Берлін!» Праз хвіліну амбасада апусцела і толькі над Прагай ляцеў жоўты трамвай, з якога сыпаўся пясок.

«СПАЗНІЎСЯ! УСЕ ТРАМВАІ ПАДЗЕЛЕНЫ!» НЕ ПАСПЕЎ Я НІЧОГА СКАЗАЦЬ, ЯК СА СЦЯНЫ ВЫЙШАЎ ХЛОПЕЦ-ПРАЗАІК БЕЗ ТРУСОЎ І ЗАЯВІЎ: «ХТО НЕ З НАМІ, ТОЙ СУПРАЦЬ НАС! ЦЯПЕР ІДЗЁМ НА БЕРЛІН!»

*Вандроўка ў Польшчу*

Пуцін на чырвоным ровары прыехаў да мяне ў вёску, каб даведацца прамую дарогу ў Польшчу. Я паклікаў яго ў сад. І вось сяджу я з Пуціным пад яблыняй і расказваю пра ваўкоў, якія водзяцца ў нашых лясах. І так Пуцін напалохаўся ваўкоў, што пачаў прасіць застацца зімаваць у мяне. «Калі аддасі свой ровар, то можаш зімаваць», – сказаў я. І Пуцін, пачасаўшы лысіну, аддаў мне свой чырвоны ровар. Я тут жа сеў на ровар і паехаў у Польшчу.

*З Акутагавам*

На плыце плыву па шырокай спакойнай рэчцы. Навокал пустэльня. З неба, як жоўты снег, сыплецца пясок. І раптам чую: «Вазьмі мяне з сабой!» Падплываю да берага, на якім стаіць японец. У незнаёмцы пазнаю Акутагаву, які вылез з ямы. І мы разам плывём далей праз пустэльню ў Беларусь пад небам, з якога сыплецца снег, як белы пясок.

*Людзі з далёкай планеты*

Марозная ноч. У вёсцы перапалох. Да нас ляціць іншапланетны карабель. Усе хаваюцца хто куды можа. Адзін я стаю на вуліцы і ўглядаюся ў зорнае неба. На душы трывожна і страшна. І тут раптам з-за хлева да мяне падыходзяць, трымаючы ў руках шапкі з зайца, у белых кажухах і ў чорных валёнках стары сусед з суседкай, якія даўно памерлі. І сусед, паказваючы рукой у вязанай рукавіцы ў зорнае неба, кажа: «Мы прыляцелі вунь з той далёкай планеты!». Я гляджу ў неба і бачу могілкі.

*На другім беразе*

Палявой дарогай іду з Сяргеем Дубаўцом. Кіруемся да ракі, на беразе якой бачыцца вясковая неабгароджаная, сціплая хата. Калі падышлі бліжэй, з хаты выйшла Таццяна Сапач. Усміхнуўшыся нам, пачала ля хаты зграбаць сена. Мы не спыніліся. Прыйшоўшы на высокі рачны бераг, убачылі, што рака вельмі шырокая і яе будзе цяжка пераплыць. Доўга не думаючы, мы паплылі і на другім беразе выйшлі з вады сухімі. Перад намі стаяў высозны з цёмнай чырвонай цэглы Храм, за якім нічога не было бачна. На ўваходзе сустрэлі Міхася Скоблу, які з Сяргеем Дубаўцом папрасіў мяне залезці па рыштаваннях на Храм і паглядзець на другі бераг: «Можа, следам за намі плыве Таццяна…» Я залез, але Таццяны не ўбачыў. Да нас падышоў Славамір Адамовіч і сказаў мне: «Злазь. Пайшлі маліцца…» І мы пайшлі маліцца.

*Вандроўка*

Сярод незнаёмых людзей сяджу з Андрэем Федарэнкам у жоўтым паржавелым аўтобусе. Аўтобус стаіць на палубе шэрага карабля, які плыве ў бязмежным акіяне. І раптам карабель і ўсё, што на ім было, тоне. На чорных хвалях застаецца толькі адзін аўтобус, з якога паўцякалі ўсе, акрамя Федарэнкі і мяне. Хутка акіянскі вецер прыбівае нас да невядомага вострава, на якім стаіць вялікі белы палац. Пакінуўшы аўтобус, мы ідзём сярод высокай травы і кветак да дзвюх прыгажунь у купальніках, якія, убачыўшы нас, спакусна ўсміхаюцца. Мы ўсміхаемся ў адказ. Падышоўшы да прыгажунь, бачым каля іх дзяўчынку гадоў сямі, якая капаецца ў пяску. Блакітнавокая прыгажуня, паказваючы на дзяўчынку, кажа: «Гэта ваша сястра. Гадуйце яе. А мы пайшлі на танцы!» «А чаму яна такая смаркатая?» – пытаецца Андрэй, і мы чуем у адказ: «Нічога страшнага, што смаркатая! Смаркатая, але за тое ні прозы, ні вершаў не піша!»

*Уцёкі*

Пачынае віднець. Я з сукамернікамі праз падземны лаз выпаўзаю з турмы «Белы бусел» на волю. За калючым дротам нас чакае грузавік. Мы хуценька залазім у кузаў, і грузавік праз хвілю набірае хуткасць. Са мной у кузаве на шэрых фуфайках сядзяць нейкія незнаёмцы, у якіх я пытаюся: «А дзе ж пісьменнікі?» Руды, выскаліўшы зубы, дастае з кішэні гранату і, шпурнуўшы яе ў матацыклістаў, якія кінуліся з турмы даганяць нас, адказвае: «Гарэлку п'юць!» «А вы хто такія?» – пытаюся ў незнаёмцаў. «А мы міліцыянты!» – кажа руды і дае мне аўтамат, з якога я пачынаю страляць па кукурузе, па якой імчыцца грузавік, дзе за рулём нікога няма.

*Рыба*

Возера. Андрэй Федарэнка, затаіўшыся пад ніцай вярбой, ловіць рыбу. Каля рыбалова, як у бальніцы, стаіць тумбачка. У мяне вудачкі няма, і я, выламаўшы доўгі колік, цэлюся, як кап'ём, у рыбу, якой каля берага вельмі шмат. І вось у маім вядры дзве вялікія рыбіны, тры, чатыры. Пятую ніяк не магу ўпаляваць. І тады я, адчыніўшы тумбачку, выцягваю самую вялікую

смажаную рыбіну. Андрэй усміхаецца, а я ў думках пытаюся сам у сябе: «Навошта мне пятая рыбіна, калі ў маёй сям'і чатыры чалавекі?»

*Парыж і бульба*

Вясна. Я прыехаў на кульгавай кабыле ў Парыж, каб першай сустрэчнай прапанаваць выйсці за мяне замуж. І вось амаль паўдня хаджу па горадзе і нікога нідзе не сустракаю. У Парыжы пуста, нібыта ўсе вымерлі. І тут раптам з рабога трамвая выходзіць жанчына з дачкой гадоў дваццаці. Яны нясуць з сабой велізарную сумку, як мяшок. Падбягаю да дзяўчыны і прапаную дапамагчы. Маці, адпіхнуўшы за сваю спіну дачку, дае мне сумку і кажа: «Мы ідзём на Марсава поле садзіць бульбу, бо ў нас лецішча згарэла…»

*Грыбы і Мубарак*

Налібоцкая пушча. Шукаю грыбы і не знаходжу, таму ў кошык збіраю жоўтае лісце. У самым гушчары сустракаю Уладзіміра Ягоўдзіка, які мяне вядзе да сябе ў зямлянку, у якой, як у падводнай лодцы. Прапанаваўшы гарбаты, Ягоўдзік паведамляе, што Мінск захапіў Мубарак і мне туды нельга вяртацца. Сам жа Валодзя збірае партызанскі атрад, каб змагацца з акупантам. «А хто ў нас камандзірам будзе?» – пытаюся. «Алесь Траяноўскі…» – адказвае Ягоўдзік. «Дык ён жа даўно памёр…» – кажу я, і ў гэты момант да нас у зямлянку ўрываюцца егіпецкія паліцыянты і арыштоўваюць нас за няправільна напісаныя вершы пра каханне для часопіса «Маладосць».

*Кінатэатр*

Ноч. Іду па горадзе. На самай вялікай плошчы бачу велізарны будынак, складзены з неабчасанага бруднага бярвення і без вокан, на якім напісана «Кінатэатр». Заходжу. У зале на крэслах сядзяць людзі. Іх нямнога.

УСЕ ГЛЯДЗЯЦЬ НА СЦЯНУ, ДЗЕ ПАВІНЕН БЫЦЬ ЭКРАН. НА МЕСЦЫ ЭКРАНА ДЗВЕРЫ. АДЧЫНЯЮ ІХ І ТРАПЛЯЮ Ў ДРУГУЮ ЗАЛУ, АЛЕ ЎЖО МЕНШУЮ. ЗНОЎ БАЧУ КУПКУ ЛЮДЗЕЙ, ЯКІЯ ГЛЯДЗЯЦЬ НА СЦЯНУ, ДЗЕ ЗАМЕСТА ЭКРАНА ДЗВЕРЫ.

Заходжу ў трэцюю залу. Яна яшчэ меншая і ў ёй яшчэ меней людзей і меншыя дзверы заместа экрана. Іду далей. Праз некалькі залаў трапляю ў маленькі пакойчык, дзе сядзіць мужчына і глядзіць на сцяну, дзе няма ні экрана, ні дзвярэй, а невялічкае акенца, праз якое бачна чарга. Не паспяваю запытацца, куды гэта стаяць людзі, як мужчына кажа: «Сёння снег прывезлі па дзесяць тысяч кілаграм…»

*Жыццё ў зямлянках*

Каля вёскі невялікае балота. Усё лета ў балоце я ладзіў дзве зямлянкі, каб у адной быў харчовы склад, а ў другой можна было б зімаваць. І калі зямлянкі былі амаль гатовыя, да мяне ў вёску прыехала мая жонка, каб паглядзець, чым я тут без яе ўсё лета займаўся. І павёў я жонку ў балота. Падышлі мы да першай зямлянкі, а там – каларадскія жукі дзеляць гнілую бульбіну. Падышлі да другой, а там – еўрарамонт зроблены і нейкі фраер сядзіць і чакае Нобелеўскую прэмію.

Муамар і Муму

Халодная вясновая ноч. З Муамарам Кадафі хаваюся ў пячоры ад авечак, якіх няма каму даіць. Не магу заснуць, і Муамар расказвае мне пра Муму, якога няверныя хацелі ўтапіць у нафце, але не ўтапілі. «І дзе цяпер той Муму?» – праз дрымоту пытаюся я і чую: «Муму прынялі ў Саюз пісьменнікаў…»

*Горад Сонца*

Еду на электрычцы ў Маладэчына, якая спыняецца за некалькі кіламетраў да горада. Далей можна толькі пяшком. Іду і бачу перад сабой велізарны замак, высокія з чырвонай цэглы Храмы, млын ветраны і шыкоўныя белыя палацы. Мяне сустракаюць коннікі, пытаючыся, хто такі і чаго прыйшоў. Адказваю, што прыйшоў з вёскі Пугачы, каб паказаць Янку Купалу вершы. Тут жа даведваюся, што сёння Янкі Купалы няма дома. Ён у Яхімоўшчыне на бровары робіць рэканструкцыю – цяпер там будзе друкарня Марціна Кухты. Цікаўлюся ў стражнікаў: «А дзе падзелася ранейшае Маладэчына?» І чую ў адказ: «Праваліласся ў балота! А наш новы мэр Міхась Казлоўскі загадаў збудаваць новы горад!» «А хто ж цяпер будзе займацца краязнаўствам?» – пытаюся. «Вось ты і займіся!» – кажа барадаты стражнік і дае мне саламяны капялюш і гумовыя боты.

*Лівійскія карасі*

З Андрэем Федарэнкам на роварах прыехалі ў Лівію лавіць карасёў. Сядзім сярод пустыні з вудачкамі каля вялікай нафтавай калюгі. Час ад часу нашы паплаўкі даюць нам знаць, што мы трацім свой час недарэмна і ў нас ёсць надзея на ўлоў. Аднак улову няма. І тут прыходзіць Кадафі і кажа: «Даю па кілаграму карасёў сушаных, калі пакажаце дарогу ў Саюз пісьменнікаў!» І не паспелі мы разінуцца, як Кадафі дастаў з плецака ржавы відэлец і застрэліўся ім.

*Заснежаны двор*

Прачынаюся. На вуліцы сонца і спяваюць птушкі. Хачу выйсці з пад'езда, але не магу, бо дзверы не адчыняюцца. Пачуўшы маё грукацне, падыходзіць суседка і выпускае мяне на вуліцу. Увесь наш двор завалены снегам глыбінёй у метры два. Спрабую ісці па снезе і правальваюся ў сплецены з лазы катух, у якім стаіць вада. Мне робіцца холадна. Вылажу з катуха і спрабую ісці далей, але зноў правальваюся ў лазовы катух, у якім гусіны пух. Мне цяжка дыхаць, але я вылажу на снежную волю і тут жа зноў правальваюся. На гэты раз падаю, як на мядзведзя, на спячага суседа Дзіму, які, прачнуўшыся, кажа мне: «На, выпі спірту! Адразу паздаравееш!»

*Ліфт, якога яшчэ раніцай не было*

Вяртаюся з працы дамоў. Заходжу ў пад'езд, а ў ім вялікая чарга да шкляного ліфта, якога яшчэ раніцай не было. Ліфт адчыняецца, і мяне суседзі запіхваюць ехаць. Еду адзін. З ліфта выходжу на велізарным, як пустэльня Сахара, гарышчы дома, дзе стаіць цагляны аўтобусны прыпынак, праз які ходзяць аўтобусы ў мой Валожын. Саджуся на лаўку. Аднекуль раптам да мяне падыходзяць два мужыкі з акрываўленымі сякерамі. «Каторы з іх Раскольнікаў?» – пачынаю думаць і… прачынаюся ў цягніку, які, як велізарны ліфт, спыняецца на 107 паверсе гасцініцы «Еўропа».

*Кадафі і пісьменнікі*

Іду праз пясчаную завіруху. Навокал рэшткі разбураных дамоў. Раптам завіруха заціхае і з вялікай бетоннай трубы выпаўзае паранены Кадафі з паперынай, на якой крывёю напісана: «Тэрмінова прыміце мяне ў Саюз пісьменнікаў, а то я хутка памру ад пацеры галаўнога мозгу!» «Ты ж мёртвы! А з мёртвых грэшна смяяцца і прымаць у пісьменнікі!» – кажу я і бачу, як Кадафі смяецца і рассыпаецца на дробны пясок, з якога выбягаць чырвоныя прусакі і, сабраўшыся ў кучу, уздымаюцца ў неба, у якім няма сонца.

*Самы лепшы электрык*

Прыйшоў да бацькі на кватэру, а там святла няма. Тэлефаную ў ЖЭС і чую, што да мяне ўжо адправілі самага лепшага на свеце электрыка. Прыехаў паэт Н. Праз нейкі час уся

кватэра была аплецена белым дротам, як павуцінай. Сярод пакоя на столі была павешана белая, як дзьмухавец, лямпачка. І толькі я захацеў падзякаваць паэту Н. за працу, як у пакой зайшоў драматург Д. у белых валёнках і ў чорным кажуху. У адной руцэ драматург трымаў чорную бабровую шапку, а ў другой быў «Залаты Купідон», загорнуты ў прамасленую газету. Падышоўшы да паэта, драматург сказаў: «Я цябе ўзнагароджваю за культуру ў галіне правадоў!»

*Бой да смерці*

З сям'ёй сяджу ў рэстаране, дзе поўна пісьменнікаў з сем'ямі. Сярод залы вялікая сцэна. Гучыць «Паланэз Агінскага», які раптам сціхае, і адзін з супрацоўнікаў «Нашай Нівы» аб'яўляе: «На сцэну запрашаюцца пісьменнікі на бой да смерці!» Адразу ж выйшаў малады празаік і атрымаў для бітвы меч. Мінула хвілін дзесяць, а на сцэну больш ніхто не асмеліўся выйсці. Выпіўшы каньяку, з-за стала ўстаў я. У зале пачуліся крыкі: «Не лезь! Малады цябе заб'е!» Атрымаўшы ад «Нашай Нівы» кап'ё, я адразу кінуўся біцца і з першага ж разу загнаў кап'ё празаіку ў грудзі. У зале ўсе заціхлі. Маці празаіка ўстала і прапанавала выпіць за пераможцу. Усе выпілі, а я тут жа пакінуў рэстаран. Следам за мной выйшаў малады паэт з пляшкай гарэлкі і талеркай з салёнымі агуркамі.

*

Еду ў Маскву вучыцца ў Літінстытуце, і раптам цягнік спыняецца. Выходжу з вагона і бачу наперадзе велізарнае мора, з якога тырчыць крамлёўская чырвоная зорка…

*

З Міхасём Казлоўскім нясём з Вішнева ад Канстанцыі Буйло і Пятра Бітэля дзве цяжкія сумкі з рукапісамі новых твораў. Стаміліся. Тут раптам з кустоў выходзіць стары ў міліцэйскай форме і кажа: «Кіньце гэтыя рукапісы! Іх ніхто не надрукуе!» Мы не слухаем старога і цягнемся далей са сваёй ношай. На зжатым полі сярод куч саломы знаходзім машыну. Я саджуся за руль, і мы едзем па дарозе да Валожына, куды нядаўна перабраліся ўсе выдавецтвы. Праз нейкую хвіліну Міхась кажа: «Як ты едзеш? Ты ж на шафёра не вучыўся!» І тут жа машына развальваецца, а мы, упаўшы на зямлю, бачым, як сумкі з рукапісамі нашых землякоў Канстанцыі Буйло і Пятра Бітэляператвараюцца ў авечак і ўцякаюць ад нас.